



































## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**
«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)
«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)
Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 41–42 і 44–45
«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)
«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)
«Светач» (пр. Пераможцаў, 11)
«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)
«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)
«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by, kniganosha.by, mmkut.by

**Гродна**
«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).
«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)
«Раніца» (вул. Мастовая, 33)

**Брэст**
«Князь Вітаўт», Kniaz.by
«Асвета» (пр. Машэрава, 57)
«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)
«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**
«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**
«Светач» (вул. Кірава, 10)
«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**
«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**
«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**
«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Наваполацк**
«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)
«Усход» (вул. Кірава, 4)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.

# Наша Гісторыя

2/2021

history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — жылы дом № 19 на праспекце Незалежнасці ў Мінску. Фота Надзеі Бужан.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.





**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X,
УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** history@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 23.02.2020.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 0062/21.
Наклад 5127.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916.
ЛД 02330/78 ад 03.03.2014.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.


## Ад рэдакцыі

У прадмове да мінулага нумара мы казалі пра важнасць захавання сямейных архіваў, матэрыяльных сведчанняў пра наш час. Не менш важна і фіксаваць інфармацыю пра тое асяроддзе, дзе праходзіла жыццё людзей.

Мы рэгулярна друкуем артыкулы ў рубрыцы «Нацыянальная геаграфія». Яна прысвечаная гісторыі і сучаснасці асобных беларускіх мясцовасцяў, невялікіх мікрарэгіёнаў ці асобных вёсак. Пішуць у гэтую рубрыку найчасцей людзі, якія ці самі нарадзіліся і гадаваліся ў тых мясцінах, ці адтуль вядзе паходжанне іхні род. Менавіта таму аўтары да таго кутка, як казаў некалі Францыск Скарына, «вялікую ласку маюць». І ведаюць пра яго мінулае ды сучаснасць такія дэталі, якіх не знойдзеш у пісьмовых крыніцах.

Толькі не заўсёды проста людзям наважыцца пра гэта пісаць. Бо першая ж думка, якая ўзнікае следам за намерам распавесці пра малую радзіму, звычайна такая: а што ў гэтым цікавага іншым людзям, у нас жа ўсё было як усюды і нічога асаблівага тут не адбывалася.

Аднак у любой мясцовасці, як і кожнай сям'і, калі прыгледзецца, заўсёды знойдзецца нейкая разынка, асаблівасць, якая адрознівала яе ад суседніх, здавалася б, на першы погляд падобных і нават ідэнтычных. Часта адметнасці тутэйшага жыцця вызначаліся геаграфічнымі ўмовамі мясцовасці. Адзін лад жыцця, калі людзі жывуць недзе ў атачэнні балот, і іншы – калі навокал пракаветныя пушчы. У адной мясцовасці наўкола, колькі бачыць вока, пляскатая раўніна, у іншых – «горы ды каменне, вузкія палоскі».

Могуць быць і сацыяльныя адметнасці. У адных мясцовасцях некалі жыла шляхта, у іншых сяляне-«мужыкі», там былі праваслаўныя, там каталікі. Там сядзелі людзі на адным месцы спрадвеку, а некуды прыйшлі адносна нядаўна. Адным пашчасціла жыць непадалёк ад мясцовых цэнтраў цывілізацыі, гарадоў ці мястэчак, іншым да іх дабрацца было не надта проста. Усё гэта так ці інакш адбівалася ў мясцовых мове, традыцыях, ладзе жыцця. Застаецца толькі ўспомніць і занатаваць.

Тым больш што цяпер гэта часта сапраўды ўжо толькі гісторыя. У многіх мясцовасцях не застаецца ўжо амаль нічога з таго, «што раней было». Краявіды да непазнавальнасці змененыя, а вёскі састарэлі, апусцелі, абязлюднелі. Тое, што некалі мясцовасць вылучала і надавала ёй адметнасці, сціраецца і размываецца. І хоць пакуль што застаецца ў людской памяці, але мае шанцы знікнуць бясследна, калі не распавесці пра гэта цяпер.

Таму пішыце нам, пакуль не позна, пра ўсё мілае свайму сэрцу ў рубрыку «Нацыянальная геаграфія». Як у гэтым нумары робіць настаўніца музыкі з вёскі Мачуль на Століншчыне Ірына Ляшкевіч (**старонкі 34–39**).


4


40


72


26


77

34


58

84




70







**Французскі прафесар Фаб’ен Бела напісаў захапляльную кнігу пра архітэктуру Мінска 1920–1950-х гадоў. Яе пераклад выйшаў у маскоўскім выдавецтве «Кучково поле».**

Гэта кніга — погляд на Мінск чалавека з вялізнай архітэктурнай эрудыцыяй. Аўтар аналізуе кожны элемент знакавых мінскіх будынкаў і паказвае, чым натхняліся архітэктары, калі яго стваралі.

Пры гэтым чакаць аповеду пра ўнутраную кухню архітэктараў і спрэчкі вакол праектаў не выпадае. Лёсы дойлідаў пададзеныя вельмі сцісла.

Плюс кнігі — рэдкія ілюстрацыі. Гэта і архіўныя матэрыялы (напрыклад, праекты), і аўтарскія фота сучаснага горада з неймаверна цікавых ракурсаў. На здымках Бела Мінск зусім незнаёмы і такі жывы (хоць бязлюдны)! Калоны Акадэміі навук быццам танцуюць, а вазы на праспекце выпраменьваюць цяпло.

Яшчэ адзін плюс — метафарычная мова («Галоўпаштамт у пачатку праспекта — як уверцюра ў оперы»), арыгінальныя разважанні. Але прадзерціся да іх сэнсу праз пераклад бывае няпроста.

## Мінск як лабараторыя сучаснасці

У 1926-м у Мінску абвясцілі першы вялікі архітэктурны конкурс — на комплекс будынкаў БДУ. Чаго толькі не прапаноўвалі архітэктары! Нават праект галоўнага корпуса на пáлях. Усе праекты былі ў стылі функцыяналізм: архітэктары бачылі новы ўніверсітэт як вытворчы цэх, які выпускае не цвікі і машыны, а дыпламаваных спецыялістаў. Адсюль амаль у кожным праекце — адсылкі да нямецкіх заводаў.

Нягледзячы на разнастайнасць прапаноў, праз тры гады ўніверсітэт узвялі па досыць простым, строгім праекце Івана ▸



WIKIMEDIA COMMONS, VLADMIHAILOVSK

**Геаметрычныя формы, шкляныя фасады, уласцівыя канструктывізму**, сёння можна ўбачыць на геафаку ці Інстытуце ядзерных праблем, якія засталіся ад старога ўніверсітэцкага гарадка.


WIKIMEDIA COMMONS, АНДРЭЙ ДЗМІТРЫЕЎ


THE CONSTRUCTIVIST PROJECT


WIKIMEDIA COMMONS

Праектуючы бібліятэку, Лаўроў запазычыў асноўныя прыёмы ў маскоўскага мэтра Ільі Голасава, найбольш натхняўся **Домам Саветаў у Хабараўску** і **Клубам імя Зуева ў Маскве** (у гэтым будынку цяпер тэатры, у прыватнасці, студыя «Квартета И»).

Запарожца ды Георгія Лаўрова, вучня Эль Лісіцкага і прыхільніка ідэй Казіміра Малевіча. Уплыў яго супрэматызму можна ўбачыць у строгіх формах універсітэцкага гарадка.

Пасля БДУ Лаўроў адразу ўзяўся праектаваць Бібліятэку БССР (цяпер будынак Савета Рэспублікі на Чырвонаармейскай, 9). Сплаўленне геаметрычных фігур (куба, паралелепіпеда, цыліндра), строгія сцены, доўгія плоскасці фасадаў і доўгія аконныя пераплёты — гэта ўплыў выкладчыкаў Лаўрова братоў Весніных і маскоўскага канструктывіста Ільі Голасава ды яго інавацыйных будынкаў, у прыватнасці, Дома Саветаў у Хабараўску і Дома культуры імя Зуева ў Маскве. Голасаў стварыў стыль, які так пасаваў СССР: з энтузіязмам імкнуўся дэманстраваць сучаснасць, але быў скаваны пастаянным дэфіцытам матэрыялаў. Крохкая раўнавага між сціплымі магчымасцямі і недасяжнымі мэтамі, іранізуе Бела. Бібліятэка таксама пабудаваная вельмі сціпла, мінімальнымі сродкамі.

У 1930-я Аляксандр Воінаў будуе Дом піянераў з Тэатрам юнага гледача і гасцініцу «Беларусь» (цяпер *Crowne Plaza*) на рагу Кірава і Валадарскага. Гэта ўжо новы савецкі стыль: улады патрабуюць болей пышнасці і менш эксцэнтрычнасці. Але каб выглядала па-сучаснаму! Архітэктары адчайна спрабуюць знайсці баланс.



WIKIMEDIA COMMONS, LUDVIG14

Адзін з нямногіх праектаў выкладчыкаў Лаўрова, братоў Весніных, ажыццёўлены ў 1920-я гады, — **будынак універмага на Чырвонай Прэсні ў Маскве.** Цяпер у ім магазін адзення *Benetton*, гэтая фірма і рэстаўравала будынак.


WIKIMEDIA COMMONS, ЧАХОВІЧ УЛАДЗІСЛАЎ

## Спроба падарыць Мінску ўласны стыль

Чалавек, якому знайсці баланс удаецца ідэальна, — Іосіф Лангбард. Нібы прадбачыўшы будучыя патрабаванні ўладаў, ён стварае мікс новай і класічнай архітэктуры, велічы і мадэрнізму. Толькі ў Мінску раскрываецца геній Лангбарда, яго непаўторны стыль. ▶

**Гэты будынак праектавалі як Клуб будаўнікоў.** З невядомых прычын клуб так і не збудавалі, а праект перапрацавалі ў Дом піянераў. След канструктывізму ў ім — рог у форме паўцыліндра. Яго нівеліруе пампезны шасцікалонны порцік (у савецкі час на ім былі статуі піянераў) і пілястры — імітацыі калон. Гэта ўжо рысы класікі.

**Канструктывісцкая любоў да круглых формаў пакінула адбітак і ў будынку гасцініцы «Беларусь» (цяпер *Crowne Plaza*).** Архітэктар яўна натхняўся парыжскай манументальнасцю эпохі Асмана. Барон Жорж Асман здзейсніў перапланіроўку Парыжа, пашырыў вуліцы і запоўніў іх характэрнымі шасціпавярховымі дамамі са скошанымі дахамі. А парыжскія гатэлі атрымалі гуллівыя купалы. І на «Беларусь» так прасіўся гэткі купал! Але архітэктар не рашыўся: гэты буржуазны элемент разбурыў бы ўсю строгую веліч. Замест купала ён зрабіў **атык** (дэкаратыўную сценку над карнізам) — сімвал суровай велічы, каб пастаяльцы не забываліся, чаго прыехалі. Сучасныя рэстаўратары ўсё ж зрабілі **купал**. Паглядзіце, як адзін элемент мяняе ўвесь настрой будынка.



WIKIMEDIA COMMONS, HOMOATROX



### ▸ На Дом урада Лангбарда натхніла цыгарэтная фабрыка

Іосіф Лангбард з Бельска-Падляскага ў 1907 годзе паступіў у Імператарскую акадэмію мастацтваў і яўна ўразіў камісію талентам — яўрэяў у Акадэмію набіралі вобмаль. У 1920-я ён браў удзел у многіх праектах, але ўсе яго ідэі адхілялі, аж пакуль Лангбард не ўзяўся за Мінск. Тут ён спраектаваў чатыры культавыя будынкі. Вялікая заслуга архітэктара — спроба падарыць Мінску ўласны архітэктурны стыль. І небезвынікова.

Дом урада, яго першая мінская работа, ужо напоўніцу паказвае геній архітэктара. У ім у абсалютнай гармоніі суіснуюць і класічная манументальнасць, і маніфест сучаснасці. Пярэдні двор у форме П, як у багатых арыстакратычных сядзібах. Будынак выглядае строга, але ў ім няма ніякай гістарычнасці — чыста геаметрычныя формы без дэкору. Бакавыя крылы ствараюць хвалепадобны фасад. На гэты праект Лангбарда натхніла цыгарэтная фабрыка *Neuerburg* у Гамбургу і будынкі сталеліцейнага завода ў Дзюсельдорфе.

Кампазіцыю Дома ўрада завяршае помнік Леніну аўтарства Мацвея Манізера. Гэта адзін з першых Ленінаў у СССР, таму ён яшчэ не штампаваны, а даволі незвычайны. Напэўна, вы


WIKIMEDIA COMMONS, JOSCHI71


WIKIMEDIA COMMONS, AJEPBAH

**Цыгарэтная фабрыка ў Гамбургу і сталеліцейная — у Дзюсельдорфе** натхнілі Лангбарда на праект Дома ўрада.






Уверсе — **падабенства атыка без карніза** (упершыню атык — сценку над карнізам — пачалі рабіць старажытныя рымляне для трыумфальных арак. Спярша на такіх надбудоўках змяшчалі надпісы ў памяць заваявання рымлянамі Атыкі, адсюль і пайшла назва).

Дарэчы, помнік Леніну — гэта яшчэ і **помнік тарашкевіцы**, дарэформеннаму беларускаму правапісу, які існаваў да 1933 года. На барэльефе захаваўся надпіс: «Уперад пад сьцягам Леніна да перамогі коммунізму». Помнік знішчылі немцы ў 1941-м, аднак пасля вызвалення Мінска яго аднавілі па мадэлях, якія захаваліся ў майстэрні скульптара Мацвея Манізера. На правапіс увагі ніхто не звярнуў.

**Дазвол на ўзвядзенне Дома ўрада даваў кіраўнік Савецкай Беларусі Аляксандр Чарвякоў. У гэтым жа будынку падчас з'езда КП(б)Б ён у 1937 годзе здзейсніў самагубства**



«МІНСК. АРХІТЕКТУРА СТОЛІЦЫ 1917–1956»



«МІНСК. АРХІТЕКТУРА СТОЛІЦЫ 1917–1956»



**Звярніце ўвагу на пастамент**: ён авангардысцкі, у духу часу — дзіўнай супрэматысцкай формы.



**Вертыкальныя шэрагі акон** размешчаныя сіметрычна, нібы крыштальныя калоны.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY SWISSHIPPO

не звярталі ўвагі на незвычайны фундамент помніка: ён зроблены ў духу абстракцыянізму, супрэматызму. Гэта не проста падстаўка, а складаная геаметрычная фігура!

Другі культавы мінскі будынак Лангбарда — **Тэатр оперы і балета**. У 1920-я опера яшчэ падавалася непапраўна буржуазным мастацтвам, але ў 1930-я ва ўладаў з'явілася жаданне адрадзіць оперу і балет так, каб яны служылі мэтам пралетарскага мастацтва. За 20 гадоў у СССР з'явілася ▶

**Бела мяркуе, што эскізы фрэсак на столі фае Лангбард стварыў сам.** На фрэсках геаметрычныя матывы з традыцыйнымі элементамі ткацтва суседнічаюць з сімваламі прагрэсу — заводамі ды самалётамі. Прамысловыя пабудовы, над якімі чырвоная зорка замяніла сонца, — гэта нагадванне пра пачатак першай пяцігодкі, якая мусіць вывесці СССР у сусветныя лідары. У фрэсках відаць уплывы італьянскіх футурыстаў: прыёмы барочных фрэсак, якія прымяняліся для ўслаўлення Царквы і арыстакратыі, выкарыстоўваюцца для праслаўлення сучаснасці.



**У 1935-м Лангбарду замовілі копію Дома ўрада ў Магілёве** — далей ад граніцы і бліжэй да Масквы. Цікава параўнаць, наколькі ж гэта «копія» адрозніваецца ад арыгіналу — выгнуты фасад у стылі барока робіць яго больш вытанчаным.

WIKIMEDIA COMMONS, SVETLOV ARTEM



**Нагрувашчванне цыліндраў у праекце Опернага — гэта адсылка да Палаца Саветаў у Маскве**, так Лангбард сціпла паказаў на палітычную сувязь Мінска і Масквы. Гэта паўкіламетровая высотка са статуяй Леніна наверсе мусіла з'явіцца на месцы храма Хрыста Збавіцеля (з-за вайны яе не дабудавалі, а ў 1990-я храм узнавілі).

▶ каля 20 тэатраў оперы і балета, прычым іх імкнуліся рабіць большымі за еўрапейскія.

У 1934-м савецкія архітэктары мелі складаны выбар: рабіць праект для сталіцы Туркменістана Ашхабада ці для Беларусі. У выніку Мінску было з чаго выбіраць: антычны амфітэатр з залай-калізеем, спалучэнне канструктывізму з элементамі рымскага Пантэона (храма ўсіх багоў II стагоддзя н. э.) і базілік (купал, аркі)...

Патрэбен быў праект, які пакажа сувязь рэвалюцыі з класічнай культурай. Гэта змог Лангбард. Цікава, што мінскі тэатр — адаптаваны праект, зроблены для Харкава. Тонкі сінтэз мадэрнізму (геаметрычнасць формаў) і неаакадэмізму (масіўнасць, манументальнасць, скульптуры, пілястры, гірлянды — хоць і спрошчаныя). Мінскі тэатр стаў адным з апошніх, у якім удалося паяднаць авангарднае і класічнае. У працэсе будоўлі Лангбард адмовіўся ад барэльефаў і скульптур (апошнія з'явіліся ўжо ў наш час). Ён максімальна ўціскаўся ў сродках і лішні раз нічога не прасіў, каб яго не абвінавацілі як сабатажніка і растратчыка.

**Акадэмія навук** праектавалася тады, калі ўлады ўжо патрабавалі ад будынкаў велічнасці, апоры на класіку. Але ўдалося захаваць і вернасць канструктывізму. Будынак акадэміі інтрыгуе: ён нечакана разрывае лінейнасць праспекта, стаіць нібы ўпаўабарота.





**Цэнтральная частка Дома афіцэраў** схаваная ўглыб, бакавыя часткі выступаюць — гэта надае дынамікі.

**Будынак вянчае цяжкі антаблемент як сімвал надзейнасці.** Нягледзячы на сярэднія памеры пабудовы, такое вырашэнне падкрэслівае яе выключную важнасць і нібы дадае аб'ёму.

Эфект велічнасці дасягаецца за кошт **напышлівых паўкалон без капітэляў**. Вокны між імі нібы ўразаюцца ў фасад і прыўносяць ажыўленасць.


ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

Будынак акадэміі пазначае важны паварот: гісторыя архітэктуры становіцца на службу СССР. Хаця зварот да гістарычнасці быў агульнаеўрапейскай тэндэнцыяй. Такія ж калоны ў выглядзе простых цыліндраў без капітэляў — як кампраміс між сучаснасцю і гісторыяй — з'явіліся на знакавых еўрапейскіх будынках таго часу: Такійскім палацы ў Парыжы, Музеі рымскай цывілізацыі ў Рыме.

Лангбард стварае будынкі для чынавенства, балерын, навукоўцаў, бярэцца і за вайсковую тэму. У праекце Дома афіцэраў ён працягвае распрацоўваць асучаснены класіцызм, ад канструктывізму тут амаль нічога.

За суровым фасадам — утульнае кафэ, элегантны тэатр, светлыя інтэр'еры. Яны стваралі атмасферу амаль англійскай вытанчанасці, паказваючы,


ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

што і ў СССР ёсць месцы, якія ў сваёй арыстакратычнасці могуць супернічаць з англійскімі прыватнымі клубамі. Усё гэта — каб задобрыць вайсковую эліту і чыноўнікаў. Да пачатку масавых рэпрэсій.



DEPOSITPHOTOS.COM, BY INGAN77

**Узорам для чароўнай закругленай каланады Акадэміі навук паслужыў класіцыстычны Страннапрыімны дом Шарамецева ў Маскве (1807 год).** Лангбард пабачыў, наколькі такі просты і бюджэтны прыём — каланада пад адкрытым небам — дадае велічнасці і манументальнасці.

## Парады Лангбарда

**Пасля вайны роля Лангбарда звузілася** да таго, каб даваць парады масквічам і ленінградцам, якім даставаліся асноўныя замовы ў Мінску. Кіраўнік БССР Панцеляймон Панамарэнка адхіліў яго праект Кастрычніцкай плошчы (тады яна звалася Цэнтральнай), не захацеўшы працаваць са сведкам рэпрэсій 1930-х, чые замоўцы ўжо не жылі.

У 1950-м Лангбард піша рэзкі ліст Міхаілу Асмалоўскаму, які ▶

кіраваў адбудовай Мінска: «Мая 20-гадовая дзейнасць у Беларусі, відаць, павінна прыпыніцца. Вы добра ведаеце, што я раблю гэта не па сваёй, а па вашай волі». Ён высмейвае адбудову Мінска ў духу гістарызму, рамантызму і «старых як свет традыцыйных канонаў». Заклікае імкнуцца да праўды і строгай ды натхняльнай прастаты, якая ляжыць у аснове найлепшых помнікаў старажытнасці і пазнейшых стыляў, уключна з расійскім класіцызмам. Час дапаможа аддзяліць зерне ад мякіны і пакажа, хто меў рацыю, піша ён Асмалоўскаму, адзначаючы: «Мяне заўжды бянтэжыць тая самаўпэўненасць, з якой вы выступаеце», — і прыгадвае выступ на канферэнцыі маладых архітэктараў, дзе Асмалоўскі крытыкаваў Дом урада ў прысутнасці самога Лангбарда. «Цяжка сказаць, у якой ступені вам удалося пераканаць аўдыторыю. Але мне ваш выступ паказаў іншае. Не назавеш вялікім ваш гонар за радзіму на яе шляху да працвітання. Але гэта справа вашага грамадзянскага сумлення».

Відаць, Лангбард не меў ілюзій наконт сваёй будучыні, таму быў настолькі рэзкі. Неўзабаве ён выехаў у Ленінград і праз год памёр.

## Пры гэтым ніхто не ведаў, як быць з рэшткамі барочных храмаў

Мінск яшчэ толькі вызвалілі — і ўжо абвясцілі ўсесаюзны конкурс праектаў Кастрычніцкай плошчы. Архітэктары кінуліся праектаваць. Прапановы былі самыя неймаверныя. Лангбард прапанаваў стварыць алею-праспект ад Дома афіцэраў да Опернага тэатра. Барыс Мезенцаў пераносіў у Мінск архітэктуру Неапаля і каралеўскага палаца Мадрыда. Сяргей Сперанскі спраектаваў гіпертрафіраваную версію пецярбургскага класіцызму — манументальнасць з лёгкім патрыятычным акцэнтам. Невядомы архітэктар прапанаваў праект, натхнёны праваслаўем і гісторыяй Старажытнай Русі. Была і прапанова высоткі са шпілем, як у Маскве, але для Мінска гэта было задорага.

Маскоўскі архітэктар Іван Собалеў стварыў для Кастрычніцкай адаптацыю старажытнагрэчаскага акропаля (умацаванага верхняга горада), у якую дадаў абстрактнай геаметрыі канструктывізму, класіцызму XVIII—XIX стагоддзяў і вежы расійскіх крамлёў у неарускім стылі.

Пры гэтым ніхто не ведаў, як быць з рэшткамі барочных храмаў. Нішчыць іх у большасці не падымалася рука.

Урэшце кіраўніцтва БССР спыніліся на праекце беларуска-расійскага трыа: Міхаіла Асмалоўскага, Уладзіміра Караля і Міхаіла Паруснікава. Пaverснікаў быў адным з 12-ці вучняў Івана Жаўтоўскага, якога называлі «чырвоным Паладыя» за любоў да венецыянскага стылю. Жаўтоўскі быў родам з Пінска. Ён адаптаваў дух Рэнесансу да маштабаў СССР.

**Паладыянства** — архітэктурны стыль, які вырас з ідэй італьянскага архітэктара Андрэа Паладыя (1508–1580). Паладыя быў закаханы ў Антычнасць і нават узяў сабе псеўданім у гонар грэчаскай багіні Афіны Палады. У аснове яго стылю — адаптацыя антычнай архітэктуры. Для жыхароў Венецыянскай рэспублікі Паладыя будаваў вілы, што нагадвалі антычныя храмы з порцікамі, дзе сярод калон гаспадары маглі схавацца ад сонца і аглядаць свае землі. «Паладыянскія будынкі — архітэктурнае эсперанта, пункцір цывілізацыі. Аднолькавыя парламенты, суды, тэатры, музеі, сядзібы і вілы пакрылі планету задоўга да “Макдональдса” — назойлівыя, але неабходныя арыенціры», — адзначаў журналіст, аматар падарожжаў Пётр Вайль. Мноства імітацый стылю Паладыя з’явілася і ў Мінску.



«Мінск. Архітэктура сталіцы 1917–1956»

**Адзін з праектаў Кастрычніцкай плошчы (аўтар невядомы).** Цэнтральны будынак — адсылка ці то да Пецярбурга, ці то да Вашынгтона. А на плошчы Свабоды — помнік ахвярам вайны.

«МИНСК. АРХИТЕКТУРА СТОЛИЦЫ 1917–1956»



**Праект Кастрычніцкай плошчы аўтарства Асмалоўскага, Караля і Парусніќава.** Від ад цырка. Для ажыўлення архітэктары прапаноўвалі вежу, што нагадвала венецыянскую Кампанілу (званіцу) Святога Марка і гадзіннікавую вежу брытанскага парламента.

Трыа прапанавала для Кастрычніцкай паладыянскі стыль. Кульмінацыйным пунктам праспекта мусіў быць будынак, падобны да Калізея. Зацвердзіць такую бескарысную прыгажосць у Мінску аказалася цяжка, таму замест яго для ажыўлення прасторы прапанавалі вежу. Яна нагадвала венецыянскую Кампанілу (званіцу) Святога Марка і гадзіннікавую вежу брытанскага парламента. Побач будынак з каланадай, натхнёнай Версалем, і барочны палац з карынфскімі капітэлямі (правобразам якога стаў храм Венеры ў ліванскім Баальбеку III стагоддзя). На фоне гэтага помнік Іосіфу Сталіну на плошчы глядзеўся як намёк на Нерона, на яго нездаровае самаўзвелічэнне і на крывавыя ўчынкі рымскіх імператараў.

Дзівоснаму калажу архітэктурных стыляў так і не суджана было з'явіцца. У апошнім варыянце плошчы (1950 год) амбіцыі архітэктараў згаслі.

На месцы галоўнага будынка спраектавалі палац з каланадай (на ўзор Аляксандраўскага палаца ў Царскім Сяле), па цэнтры яго квадратная вежа — адсылка да мінскай ратушы. Так архітэктары нагадвалі пра гарадскія свабоды і пра рэпрэсіўнае мінулае.

З нейкіх прычын праект Кастрычніцкай так і не быў увасоблены. Можа, пустка ў цэнтры горада вакол помніка Сталіну стварала неабходную атмасферу сімвалічнага падпарадкавання? І ўсё ж на плошчы трэба было пабудаваць хоць нешта. Веліч месца падкрэсліў Палац культуры прафсаюзаў, які нагадвае антычны храм. Будынак натхнёны пецярбургскай Біржай (1805 год).

Галоўнага будынка з ратушнай вежай плошча так і не атрымала. У 1984-м на яго месцы спраектавалі безаблічны Палац Рэспублікі, які скончылі будаваць аж у 2001-м. ▶

**Веліч плошчы падкрэсліў Палац культуры прафсаюзаў,** які нагадвае антычны храм. Будынак натхнёны **пецярбургскай Біржай** (1805 год).

WIKIMEDIA COMMONS, GALEXANDROVA



WIKIMEDIA COMMONS



### ▸ Што ні будынак, то палац

Яшчэ да поўнага размініравання ў Мінск на вайсковым цягніку прыехала брыгада вядомых архітэктараў — рыхтаваць першы пасляваенны генплан. Іх нефармальны кіраўнік Аляксей Шчусеў да рэвалюцыі быў таленавітым стваральнікам праваслаўных храмаў, а пазней выкарыстаў рэлігійныя матывы і ў архітэктуры Маўзалея Леніна. Ён жа стаў аўтарам першага савецкага плана рэканструкцыі Масквы.

У Мінску спраектавалі шырокі праспект — аналаг парыжскіх Елісейскіх палёў: 50 метраў ушыркі, 15 км удоўжкі (парыжская вуліца карацейшая на 2 км, але ўшыркі мае 70 м). Супраць ідэі праспекта паўстала грамадскасць. Скульптар і партызан Андрэй Бембель прарочыў, што «праспект пераўтворыцца ў сегмент вялікай дарогі, якая вядзе ў нікуды, зробіць горад пустынным без канца і краю, паставіць Мінск на ўзбочыне трасы Масква — Брэст».

Але ўладам праспект быў неабходны: ён мусіў паказваць імперскі размах супердзяржавы. Усходнія вароты СССР павінны былі адлюстроўваць

**Байніцы, скульптуры, гірлянды, шары, васьміканцовыя зоркі пад шарамі, пінаклі (вежачкі-шпілі) ствараюць пераклічку рысаў Сярэднявечча і барока.** Такі мікс зусім не характэрны для савецкай архітэктуры. Вароты Мінска выклікаюць асацыяцыі з гатычнымі замкамі, барочнымі саборамі. Вежы прыўнеслі ў горад адначасова замкавыя і рэлігійныя матывы, яны мусілі выклікаць абаронччыя інстынкты разам з амаль рэлігійным пачуццём. Звярніце ўвагу і на суседні будынак: дзеля эканоміі з боку двара мінскія «палацы» не тынкавалі.





ШАРЫ

ВАСЬМІКАНЦОВЫЯ ЗОРКІ

БАЙНІЦЫ

ПІНАКЛІ

ГІРЛЯНДЫ

СКУЛЬПТУРЫ



WIKIMEDIA COMMONS, TATIANA MATLINA

трыумфальную веліч савецкай імперыі. Каб выразіць яе, выкарыстоўваліся найлепшыя ўзоры антычнага Рыма, Рэнесансу, класічнай англійскай культуры, Расійскай імперыі... Так горад ператвараўся ў калекцыю палацаў.




ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

**Будынак з карынфскімі калонамі строга сіметрычны.** Уваход нагадвае **Залатыя вароты ў Пуле**, Харватыя (I стагоддзе да н. э.).

## Сталінскі Мінск — гэта парадаксальнае спалучэнне раскошы і ўбоства. Дваровыя сцэны «палацаў» дзеля эканоміі найчасцей нават не тынкавалі

Пры гэтым горадабудаўнічая рэальнасць сталінскага свету — гэта парадаксальнае спалучэнне раскошы і ўбоства. Дваровыя сцэны «палацаў» дзеля эканоміі найчасцей нават не тынкавалі. Гэта быў горад для стварэння ўражання на замежнікаў, якія праязджаюць праз горад галоўным праспектам з Брэста ў Маскву. Веліч стваралі мінімальнымі сродкамі. Так нараджаўся стыль мінскага цэнтра.

### Жылая трыумфальная арка

Для раёна вакзала ленінградскі архітэктар Барыс Рубаненка пазычыў схему парыжскай плошчы Згоды: цэнтральны праспект у абрамленні двух аднолькавых будынкаў. Два магутныя данжоны надаюць дынамікі гарызантальным пабудовам. Іх пірамідальная форма дазволіла размясціць на адной вежы гадзіннік, як у Сярэднявеччы, а на другой — герб СССР.

У 1948 годзе Рубаненку рэпрэсавалі ў час кампаніі супраць



WIKIMEDIA COMMONS, JERZY STRZELECKI

«бязродных касмапалітаў». Ён перадаў праект Асмалоўскаму і камандзе, якія скончылі ўсё адзін у адзін з праектам і гэтым выказалі сваю падтрымку і павагу калегу. ▶



WIKIMEDIA COMMONS, KETARI

**Інтэр'ер паштамта** быў натхнёны **храмам Санта-Стэфана ў Рыме**, збудаваным у V стагоддзі.



ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

### ▶ Паштамт у форме царквы Санта-Стэфана

**Галоўпаштамт** праектаваў беларус Уладзімір Кароль. У студэнцтве ён любіў канструктывізм, затым зацікавіўся паладыянствам.

Знешняя груваcткасць кампенсуецца празрыстасцю інтэр'ераў. Двухузроўневае фае ў англійскім стылі пераходзіць у ратонду, дзе здзяйсняюцца паштовыя аперацыі. Арганізацыя прасторы ўзятая з Антычнасці, яна адсылае да Храма Гроба Гасподняга ў Іерусаліме (IV стагоддзе), а ўнутранае аздабленне галерэй, калон і купала вельмі нагадвае царкву Санта-Стэфана ў Рыме V стагоддзя (*на фота*).

### Ідэалагічная правакацыя

Чакана першым на праспекце быў завершаны будынак КГБ. Выконваць замову выпала Міхаілу Паруснікаву. Пры падборы каманды ён нейкім чынам змог уключыць у яе свайго вучня Льва Рымінскага. Той правёў пяць гадоў у ГУЛАГу за анекдот, расказаны ў курылцы архітэктурнага інстытута.

Уся праектная дзейнасць была засакрэчаная. Акрамя Паруснікава і Рымінскага, ніхто не мог бачыць эскізы. Не праводзілася і ніякіх узгадненняў. Рымінскі заканчваў

## Будынкі з падтэкстам

у савецкі час не былі рэдкасцю. Напрыклад, правобразам сядзібы КГБ на Лубянцы ў Маскве стаў рымскі палац Канчалерыя, адзін з сімвалаў магутнасці Каталіцкай царквы. Такая рэмінісцэнцыя — або знак сакралізацыі СССР, або чорны гумар архітэктара Шчусева. «Верагодна, абедзве ідэі існавалі, лоўка, амаль па-мефістофелеўску пераплятаючыся», — піша Бела.


WIKIMEDIA COMMONS, VITVIT

Барочная двухкалонная арка, увянчаная разарваным лучковым франтонам, пазычаная ў нямецкіх архітэктараў. Яна разбурае класічную строгасць будынка. На фота **пражскі касцёл Святога Яна Непамука на Скалцы**.



WIKIMEDIA COMMONS, LIVIOANDRONICO2013


WIKIMEDIA COMMONS, BLADYNIEC

Спалучэнне высокіх пілястраў з сандрыкамі адсылаюць да **ф**
**у Рыме — найбуйнейшага фа**
пабудаванага па рашэнні па
і пад яго кантроле

вывучэнне эскізаў Паруснікава пад аховай на дачы КГБ.

На думку Бела, Паруснікаў свядома імкнуўся стварыць будынак — зашыфраванае пасланне, які будзе ўвасабляць неадназначнасць савецкай улады. Калі ўвесь ансамбль стварае ўражанне спакойнай і суровай велічы, то дэталі кажуць пра іншае.

Першая цікавостка — у левай частцы будынка. Для гарманічнага пераходу да жылых дамоў зроблена двухкалонная арка, увянчаная разарваным лучковым франтонам. Калоны з разарваным франтонам — характэрная рыса дынастыі архітэктараў Дынцэнхофераў (XVIII стагоддзе, Каралеўства Багемія): капліца замка Сміржыцэ, абацтва Банц, царква Яна Непамука ў Празе, царква Святой Ядвігі ў Легніцке-Поле... Чаму выбар выпаў менавіта





WIKIMEDIA.COMMONS, BERTHOLD WERNER

і вузкіх вокнаў
**рантана Трэві**
**нтана Еўропы**,
пы рымскага
ем.

Строгая цэнтральная частка натхнёная расійскім класіцызмам (Адміралцейства ў Санкт-Пецярбурзе). Гладкі фасад падкрэслівае манументальнасць бакавых крылаў і порціка, які капіруе порцік **храма Аўгуста ў харвацкай Пуле** (I стагоддзе н. э.). Храм прысвечаны першаму рымскаму імператару Актавіяну Аўгусту і пабудаваны пры яго жыцці. (У 1935-м Жаўтоўскі звярнуўся да гэтага ўзору для Дома Саветаў у Сочы, таму Паруснікаў яшчэ і ў нейкай ступені аддаў даніну павагі свайму настаўніку.)

на нямецкіх архітэктараў, калі Беларусь толькі вызвалілася з-пад гнёту нацыстаў?.. Акрамя таго, гэтай барочнай рысай Паруснікаў разбурае амаль літургічную велічнасць будынка КГБ, пабудаванага ў строгім класіцызме.

## У будынку мінскага КГБ архітэктары **гулліва змяшалі** дэталі з рымскага храма, папскага палаца, фантана Трэві і вежы Уайтхола

У будынку з'явіліся і іншыя анамаліі, а менавіта запазычанні дэталяў з эксцэнтрычных крыніц. У выніку атрымліваецца, што будынкі, узятыя за ўзор для мінскага КГБ, узводзіліся для рымскага імператара, каталіцкага пантыфіка, венецыянскіх арыстакратаў і гандляроў, ▶



WIKIMEDIA COMMONS

Правая частка будынка ўвянчаная элегантнай васьмікутнай вежай, што нагадвае вежу **брытанскай каралеўскай рэзідэнцыі Уайтхол** — найбуйнейшага палаца ў свеце, які згарэў у канцы XVII стагоддзя.

епіскапаў, манаскіх ордэнаў, брытанскіх манархаў... Вось такая ідэалагічная правакацыя Паруснікава і Рымінскага. Гэты архітэктурны монстр знешне задавальняў імкненне СССР да велічы, але пры гэтым дзёрзка гуляў з узорамі рэлігійнага і манархісцкага мінулага. Будынак мінскага КГБ — ілюстрацыя ўсёй супярэчнасці сталінскай архітэктуры ў яе апагеі.

## Фларэнцыйскі банк у Мінску

У 1927-м Парусніка ў (у суаўтарстве з Георгіем Гольцам) ужо будаваў у Мінску канструктывісцкі банкаўскі будынак, падкрэсліваючы эканамічную празрыстасць маладога СССР шырокімі зашклёнымі фасадамі. Цяпер стаяла задача ўзвесці сталінскі эквівалент храма фінансаў. Будынак мусіў выглядаць трывалым і непрыступным. Архітэктар выкарыстаў італьянскую эстэтыку ды збудаваў вялізны палац для грошай. За эталон ён выбраў фларэнцыйскі банк эпохі Рэнесансу. Іронія лёсу, што савецкія і амерыканскія банкі маюць шмат супольнага, бо ЗША таксама бралі за ўзор рымскія і фларэнцыйскія палацы.

## Адзіны з жалезабетону

ГУМ — гэта адзіны будынак цэнтра, узведзены з жалезабетону (для іншых выкарыстоўвалі атынкаваную цэглу), гіганцкі згустак з мноства прадуманых формаў, велізарная бетонная скульптура. Загадка, як і чаму ўраджэнцу Тбілісі Льву Мелегі,


WIKIMEDIA COMMONS, PEDRO P. PALAZZO



DEPOSITPHOTOS.COM, BY ARCADI1962

**Натхненне аўтар мінскага ГУМа чэрпаў у французскім Рэнесансе.** Вокны на 4-м паверсе, абрамленыя двума керамічнымі барэльефамі, нагадваюць вокны ў крыле Франсуа I у Луўры (1550 год, яно яшчэ называецца «крыло Леско», архітэктара). А слупы з вентыляцыйнымі адтулінамі ўнутры будынка капіруюць форму камінаў з арачнымі франтонамі ў замку Ане (1552 год).


WIKIMEDIA COMMONS, HOMOATROX

**Праектуючы банк, Парусніка ў шукаў натхнення ў культавай архітэктуры.**

**Высозныя пілястры** надалі будынку велічы, а яшчэ большы акцэнт на каласальным памеры палаца зрабілі вузкія вокны, размешчаныя паміж пілястрамі. Гэты прыём запазычаны ў Мікеланджэла, з апсіды сабора Святога Пятра ў Рыме.

Тонка **прадуманы атык** з простымі вокнамі зноў нагадвае пра фантан Трэві ў Рыме (іншая яго дэталь узятая для будынка КГБ).

Нечаканы элемент у даволі банальным фасадзе, які змякчае суровасць ансамбля, — познебарочныя **пакатыя аркі** ў антаблеменце. Яны злучаюць пілястры і ствараюць пераклічку з паўкруглымі вокнамі. Магчыма, элемент узяты з бакавога фасада царквы Сан-Філіпа Неры ў Турыне (1715 год).







ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН



ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН



ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

стваральніку невялічкіх тыпавых крамак 1930-х гадоў, дазволілі рэалізоўваць настолькі дарагі і складаны праект.

Цэлы арсенал класічных дэталяў: шэрагі антычных гірляндаў, раслінны дэкор з тэракоты, падзел аконных праёмаў на частi салiднымi паўкалонамi, акратэрыі (навершы) у грэчаскім стылі з сярпом і молатамі — робіць акцэнт на прыземістасць будынка і адначасова падкрэслівае пустэчы ў масе бетону, акцэнтуе гульню формаў. Так класічныя элементы трансфармуюцца ў барочнае прачытанне...

Мелегі памёр у час будаўнічых работ, ГУМ стаў яго запаветам. Яго творчасць застаецца ўнікальнай у сваёй неардынарнасці і стылістычным дзівацтве.

### Буйства пілястраў

Жылыя дамы каля банка, ГУМа і КГБ праектаваліся так, каб адпавядаць велічным суседзям.

Пры атмасферы шпіёнаманіі такія англійскія запазычанні выглядаюць дзіўна. Але яны паказваюць, што архітэктары не сталі закладнікамі прапаганды (больш за тое, Асмалоўскі ўласнаруч збіраў ва ўпраўленні беларускай архітэктуры тэчку

**Будынак ГУМа ўнікальны ў сваёй неардынарнасці і стылістычным дзівацтве**

дакументаў пра гісторыю Лондана і планы яго рэканструкцыі). Яны ў роўнай ступені захапляліся італьянскім Рэнесансам і англійскім класіцызмам, адмовіўшыся ▸


WIKIMEDIA COMMONS, PAUL HERMANS

**Ансамбль у італьянскім стылі ля Кастрычніцкай плошчы (дом з універсамам «Цэнтральны» і дом насупраць) праектаваў архітэктар Парусьнікаў.** За ўзор ён узяў палац банкаў у Балоны (1565 год): запазычыў маштаб, сістэму аркад і пілястраў. Астатняе дарабіў на свой густ, даўшы волю таленту.


ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

замыкацца ў паваенным сталінскім ампіры і ствараючы эстэтыку ўніверсалізму.

## Рэмінісцэнцыі з 1812-га

**Штаб Беларускай вайсковай акругі і галоўны корпус БНТУ** спраектаваныя ў «стылі 1812 года»: строгі класіцызм, які набыў патрыятычныя канатацыі ў час адбудовы Масквы пасля вайны з Напалеонам. Такім чынам архітэктары праводзілі паралель між 1812 і 1945 гадамі, нагадвалі пра пераможную барацьбу з захопнікамі.

Эталонам для рэканструкцыі галоўнага корпуса Тэхнічнага





ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

ўніверсітэта стала адна з ключавых вайсковых пабудоў Расійскай імперыі — Адміралцейства ў Пецярбурзе. Веліч класічнага палаца надаюць будынку порцік увахода і два бакавыя крылы, што абрамляюць доўгі цэнтральны фасад. Сцены БНТУ засталіся з даваенных часоў, а вось фасады прыйшлося ствараць нанова. Рабілі гэта Леў Рымінскі і студэнтка Маскоўскага архітэктурнага інстытута Любоў Усава родам з Сібіры. Архітэктараў не хапала, таму праектаваць палацы часта давяралі студэнтам.

### Трохі вар'яцтва на плошчы Перамогі

Многія будынкі цэнтра праектаваў Міхаіл Баршч, колішні мадэрніст, аўтар маніфеста сучаснасці — маскоўскага планетарыя, вучань Жаўтоўскага. Настаўнік ўратаваў яго ад рэпрэсій супраць яўрэяў і сасватаў у Мінск.

Баршч кіраваў перапланіроўкай плошчы Перамогі. Яшчэ да вайны ён задумаў ансамбль жылых дамоў, якія падкрэслівалі берагі Свіслачы: дзве сіметрычныя групы па тры будынкі, аб'яднаныя каланадай. Вуглавыя вежы навеяныя фламандскай архітэктурай XVII стагоддзя. Ніз дамоў — буйная рустоўка ▶



DEPOSITPHOTOS.COM, BY ARCADI1962

WIKIMEDIA COMMONS

**Група будынкаў з «Лакамкай» і фірмовай крамай «Луча» вылучаецца грузнасцю і брутальнасцю.** Тут сапраўднае буйства пілястраў. Сялянскі сын Генадзь Баданаў стварыў гэты праект у нечаканым англійскім стылі. Крыніца яго натхнення — **Грынвіцкі шпіталь у Лондане** XVII стагоддзя, але Баданаў асучасніў яго нечаканымі пілястрамі без цокаля над руставаным ніжнім узроўнем.







**Штаб Беларускай вайсковай акругі (сучаснае Міністэрства абароны) і галоўны корпус БНТУ** праектавалі ў «стылі 1812 года». У ім адбіліся паралелі паміж вайной з Напалеонам і Другой сусветнай.

▸ родам з Фларэнцыі, верх — выкшталцоная тынкоўка ў духу ранняга Рэнесансу.

Архітэктар хоць і прыстасаваўся да сталінскага ампіру, але не падначаліўся яму, імкнучыся прыўнесці элементы сучаснасці ў пацёмкінскія вёскі палацаў на праспекце. З боку двароў Баршч змог усунуць у ансамбль канструктывісцкія элементы: акцэнт на строгай і функцыянальнай вертыкальнасці зашклёных ліфтавых шахтаў. Так нараджалася эклектычная, трохі вар'яцкая архітэктура.

Каб дасягнуць візуальнай сувязі паміж праспектам і зялёнымі насаджэннямі, архітэктары стваралі ўздоўж праспекта порцікі (на ўваходзе ў парк Горкага, парк Чалюскінцаў, Батанічны сад). Для гэтага ж ставілі балюстрады і дэкаратыўныя вазы — набытак французскіх садоў. Раней яны служылі французскаму абсалютызму, цяпер сталінізму.




Баршч таксама спраектаваў порцік мінскага стадыёна «Дынама» — трайную арку з карынфскіх калон. Нібы рымскую археалогію перанеслі ў Мінск.

## Нечаканы канец

У 1950 годзе Масква запатрабавала ад Мінска рэзка скараціць выдаткі на будаўніцтва. Плошча рэканструкцыі скарацілася амаль удвая. У 1954-м увогуле прыйшоў загад спыніцца і пераходзіць да спрашчэння архітэктуры. Наступныя тры гады архітэктары і ўлады БССР яшчэ цягнулі час, спадзяваліся, што чарговы паварот палітыкі дазволіць закончыць задуманае.

У Мінску яшчэ паспелі з'явіцца мікрараёны стандартных дамкоў-палацыкаў. Яны захавалі маштаб, сувымерны чалавеку, таму ў гэтых раёнчыках так утульна. Асмалоўка — чароўнасць сціпласці, мінімум дэкору: франтоны над дзвярыма, вуглавыя эркеры, драўляныя вуглавыя балконы і рустоўка. Аўтазавод: лоджыі, порцікі з тасканскімі калонамі і франтоны, якія абрамляліся здвоенымі аконнымі праёмамі з сандрыкамі. А ў раёне Трактарнага з'яўляюцца элементы Версаля...

Усёй кнігай Фаб'ен Бела паказвае, што наш горад — гэта не толькі і не столькі сталінскі ампір. Карані пасляваеннай архітэктуры Мінска сягаюць і ў Старажытныя Рым ды Грэцыю, і ў Венецыю і Фларэнцыю часоў Рэнесансу, і ў Францыю Людовіка XIV, і ў нямецкае барока, і ў класічную англійскую культуру, і ў Пецярбург часоў Пятра I, і ў Маскву пасля 1812 года... Кожны архітэктар звяртаўся да сваёй любімай эпохі, перапрацоўваючы дэталі любімых будынкаў. З улікам гэтага прагулка па праспекце набывае зусім іншае вымярэнне. Сталічныя калоны не становяцца менш велічнымі, але надзіва зусім перастаюць ціснуць. ◆

**Паўліна Скурко**

# Кароўка-карміцелька

**Вы пісалі, як сена раней рабілі, а я вам раскажу, як мы любілі, як глядзелі сваіх каровак, піша былая настаўніца са Смаргонскага раёна Яўгенія Кулевіч.**



DEPOSITPHOTOS.COM, BY KONSTSEM

У ранейшай вёсцы карову шанавалі, пра яе клапаціліся ўсе члены сям'і.

Пратрымаць карову нялёгка. Дый пра яе здароўе трэба дбаць, ласкай ахінуць. Тут патрэбныя не толькі праца, але і веды.

Усё трэба прыдбаць, а сенакосу вобмаль, ды і час не ўпусціць, за надвор'ем сачыць, каб у пару накасіць, высушыць, калі ўбраць, усё ў гумно ў пару скласці. Касілі на ўзмежках, ля сцяжынак, усё высушанае зносілі і складалі ў гумне. Як зойдзеш у гумно, то там пах неймаверны: вядома, разнатраўе.

Перад дажджом недасушаную травіцу складалі ў копачкі, каб пры сонцы растрэсці і дасушыць.

Асобна — напрыклад, на гарышчы — складалі дзятлік (белую канюшыну) ці самае маладое сенца, каб было даць карове, калі ацеліцца або прыхварэе.

**Асобна складалі дзятлік (белую канюшыну) ці самае маладое сенца, каб было даць карове, калі ацеліцца або прыхварэе**

Полючы агарод, лён, проса, а пазней калгасныя буракі, людзі прыдатнае пустазелле рассцілалі на ўзмежках поля. Трохі пасохне — атрасалі зямлю, а пераварочваючы на другі бок, зноў атрасаюць. Пакуль высахне, то карэньчыкі і без зямелькі стануць, ачысцяцца. І ўсё туды, у гумно.

Сена — гэта найлепшы корм быў, але ішла ў справу і саломка. Дзе таўсцейшыя сцяблінкі саломы, то падразалі на сечку з дабаўленнем трошкі сена. Зімой гэту сечку запарвалі кіпнем у вялікіх цэбрах (драўляная пасудзіна з клёпак), захутвалі, і корм станавіўся мякчэйшым. Такі корм можна было даваць, як няма маразоў, бо інакш змерзнецца.

А ў маразы абыходзіліся трасянкай. Добра перытрасалі мякчэйшую салому з сенам і клалі карове ў кармушку. Каровы любяць ячменную, аўсяную, грэцкую саломку, а жытняй і прасяной не любяць.

Як сталі калгасы, то спачатку жалі збажыну сярпамі. Рвалі лён. Хто колькі выжне, то пасля яго можна было касіць пожню, лянішча пасля вырванага лёну. Усё ішло на корм.

Яшчэ садзілі караняплоды (звычайна буракі), то ад здадзенага аб'ёму некаторы працэнт давалі калгаснікам. Гэта было падмогай для кармоў.

Яшчэ ад велічыні дзялкі тваіх буракоў, якія ты палоў, надзялялі палоскай сенакосу.

Асаблівы клопат і ўвагу да сябе каровы мелі перад ацёлам. Можа, тыдні за два (паводле разліку) хадзілі ўначы па 2–3 разы наглядаць, бо карове магла спатрэбіцца дапамога. Да таго ж пасля яго карову трэба было адразу здаіць, каб вымя не «збруснела», а праз якія паўгадзіны напаіць пойлам з абавязковым дадаткам цукру. Усё для пойла кожны меў у запасе. Таксама трэба было пільнаваць, каб карова «счысцілася», а паслед закапаць у гной у куточку хлява, каб карова яго не з'ела.

Калі ўсё добра, то карова хуценька ўстае да цялятка, ліжа яго, а яно, яшчэ мокранькае, спрабуе падняцца на ножкі. Трэба яму трошкі дапамагчы, падтрымаць азадачак і падсунуць мордачку да вымя. Зрэшты, яно і само дужа добра арыентуецца. Вядома, кладзём пасцілку, каб суxенька было. Клопат, але прыемны.

Раскажыце нам пра вашу родавую вёску або дом, квартал у горадзе — для нашай рубрыкі **«Нацыянальная геаграфія»**.

У ёй ужо пісалі пра:
Калоднае, Столінскі раён;
Берашты, Шчучынскі раён;
Чыжоўскія могілкі, Мінск;
Унорыца, Рэчыцкі раён;
Трашчычы, Карэліцкі раён.

Пап’е цялятка, кладзецца. Галоўку бадзёра трымае, вушкі стаяць. А карова ад яго не адыходзіць і есці не спяшаецца, хоць у кармушцы і сена найлепшае ляжыць. Яна таксама кладзецца, каб трошкі адпачыць пасля такіх выпрабаванняў. Трошкі паляжаўшы, успамінае, аднак, што і падсілкавацца трэба. Есць, але ўвесь час аглядаецца на цяля і лагодна рыкае. На другі ж дзень цялятка ўжо ўстае хуценька, без праблем знаходзіць вымя маткі, а потым і лётае па хляве, толькі хвосцік мігціць.

## Каровы любяць ячменную, аўсяную, грэцкую саломку, а жытняй і прасяной не любяць

Я пры бабулі навучылася ўсім «ветэрынарскім» справам. Ведала нават, як аказваць першую дапамогу кароўцы. І, вядома, з самых малых гадоў яе пасвіла.

У нас па суседстве жыў ужо даволі пажылы чалавек, хвараватыя Бараноўскі Міхаіл. У іх здохла карова. І вось у хуткім часе з’явілася аграмадная-аграмадная пярэстая, чорная з белым, карова. Такіх у нас у сяле не было. Былі чырвона-пярэстыя, чырвоныя, чорныя, палевыя, нават амаль белыя. У нас была чырвоная з белай лысінай — Лысуха.

Усе казалі, што ў Бараноўскага — нямецкая карова. Гэта было адразу пасля вайны. Ці яны купілі гэту карову, ці ім далі ад сельсавета — я не ведаю. Можа, і далі, бо іх сын Коля і зяць Валодзя загінулі на фронце. Міхал Бараноўскі пасвіў яе сам на павадку па прыдарожных канаўках. Казалі, што яна давала ў суткі не менш за 25 літраў малака. Відаць, гэта карова была ўжо хворая, бо калі мачылася, то выпадалі камячкі «мяса», а стары Бараноўскі яго палачкай перакульваў і ўсё разглядаў.

Я пра гэтыя «нямецкія» каровы больш не чула. Але прачытала ў Васіля Быкава, што яму расказвала сястра Валя, як ён вяртаўся дадому. Яна казала: «Пасля выбаўлення з нямецкага палону яе паслалі ва Усходнюю Прусію па каровы для калгаса. Месяц ці болей гналі вялізны статак, даілі і пасвілі па дарозе, баранілі і дагледалі. Цяжка было, але трывалі, бо абяцалі, як прыгоняць, даць карову: нашу ў 1943 годзе забралі партызаны. Але як прыгналі, то аказалася, што каровы патрэбныя для развіцця калгаснай жывёлагадоўлі. І гоншчыцы засталіся з носам».

## «Дзякуй за артыкул пра Нюрнбергскі трыбунал»

Дзякуй вам за ваш артыкул пра Нюрнбергскі трыбунал над нацысцкімі злачынцамі (№12/2020). Такія старонкі гісторыі ніхто не павінен забываць. Вось вытрымка з пратакола рашэння трыбунала над нацысцкімі суддзямі:

«Падсудныя і іх калегі скажалі, перакручвалі і ў рэшце рэшт дасягнулі поўнага знішчэння правасуддзя і закону ў Германіі. Яны зрабілі судовую сістэму складовай часткай дыктатуры. ... Яны скасавалі ўсякае падабенства судовай незалежнасці. Яны пагражалі тым, хто пападаў у суды, запалохвалі іх, пазбаўлялі фундаментальных правоў. “Судовыя працэсы”, якія праводзіліся імі, былі жудаснымі фарсамі з рудыментарнымі рэшткамі прававой працэдуры, якія былі толькі здзекам з няшчасных ахвяр».

**Аляксандр Саўчук, Мінск**

## «Іван Геніюш мой намер пахваліў»

Вітаю, шаноўная рэдакцыя!

Вялікі вам дзякуй за артыкул Андрэя Скурко пра Ларысу Антонаўну ды Івана Пятровіча Геніюшаў (№10/2020). З задавальненнем прачытаў і быццам вярнуўся ў гады далёкага дзяцінства.

У 1964 годзе я скончыў 11 класаў зэльвенскай сярэдняй школы, у якой мая маці Ніна Пятроўна працавала настаўніцай беларускай мовы.

Аднойчы ў старэйшых класах, капаючыся дома ў шафе, знайшоў кнігу вершаў Ларысы Геніюш, выдадзеную ў 1942 годзе ў Празе. Кніга была сіняватага колеру, у мяккай вокладцы, з паперай шэрага колеру, выглядала вельмі сціпла.

Я нічога не ведаў пра паэтку, таму запытаўся пра яе ў маці. Яна неяк неахвотна адказвала на мае пытанні і чамусьці забараніла выносіць кніжку з дому. На кніжцы быў подпіс без даты. Я не ведаю, ці належаў гэты подпіс самой Ларысе Антонаўне і куды кніжка знікла з цягам часу.

А яшчэ, калі я скончыў школу, мне спатрэбілася даведка аб стане здароўя для паступлення ў ВНУ. Медагляд я праходзіў у мясцовай раённай паліклініцы. Іван Пятровіч Геніюш працаваў там дэрматолагам. Мяне ўразіла, што ён быў зусім сівы, хоць і не стары. Я тады нічога не ведаў ані пра ГУЛАГ, ані пра Варкуту. Ён адзіны з дактароў размаўляў са мною як з дарослым. А калі даведаўся, што я збіраюся паступаць у Мінскі медінстытут, то ўхваліў мой выбар. Я збіраўся стаць мікрабіёлагам або эпідэміёлагам, каб змагацца з інфекцыйнымі хваробамі. Што і здзейсніў, працуючы на працягу многіх гадоў у Мінскай вобласці, Мінску і нават у Афрыцы.

Цяпер, калі зрэдку бываю ў Зэльве, дзе ўжо ніхто не жыве з маіх родзічаў, наведваю магілы маці і айчыма і не абмінаю помнік Геніюшам на зэльвенскіх могілках і каля зэльвенскай царквы.

**Анатоль Кажамякін, Мінск**

P. S. Чытаю і захоўваю ваш часопіс пачынаючы з №1/2018. Усё падабаецца і цікава.

**Ад рэдакцыі**

Дарагія чытачы, дасылайце нам тэмы ды ідэі артыкулаў, успаміны, сямейныя гісторыі (і нават рэцэпты!) на **history@nn.by**. А таксама падпісвайцеся, каб штомесяц гарантавана атрымліваць «Нашу гісторыю» ў паштовую скрыню. Падпісны індэкс **00469**.

# Карэйскі шлях

**Кампраміс з аўтарытарным рэжымам ці бескампрамісная барацьба? Гісторыя дэмакратызацыі Паўднёвай Карэі — гэта гісторыя двух лідараў: Кім Ён Сама і Кім Дэ Джуна. Першы паходзіў з заможнага вострава Каджэдо, другі — з беднай правінцыі Чала-Намдо. Абодва ў свой час стануць прэзідэнтамі краіны. Але спачатку двойчы па-дурному змарнуюць шанец, піша Андрэй Акушка.**

Карэйцы — доказ таго, што ніякага «вечнага і нязменнага» нацыянальнага характару, менталітэту няма.

Больш чым 80-мільённы народ вось ужо 70 гадоў жыве падзелены. Каля 50 млн іх — у Паўднёвай Карэі, каля 25 млн — у КНДР.

Поўдзень пабудаваў дэмакратычную дзяржаву, якая ў 2020 годзе стала 10-й эканомікай свету па памеры ВУП. Карэйскія робаты, аўтамабілі, касметыка, музыка і кіно — страшна папулярныя. «Карэйскі тыгр» — так яе сталі называць яшчэ ў 1980-я.

На поўначы трымаецца таталітарны рэжым: страшна бедны, але суверэнны і з атамнай бомбай.

Паўднёвая Карэя таксама доўгі час была беднай, прайшла складаны шлях ад дыктатуры да дэмакратыі. Але калі перамены адбыліся, то эндэмічная карупцыя ў вярхах ужо не прывяла ані да згортвання дэмакратыі, ані да тармажэння ў развіцці.

### Нацыя паміж

Карэя — гэта прыклад «краін паміж». Карэйцы як нацыя сфарміраваліся між двума

**Культурны цэнтр *Dongdaemun Design Plaza* ў Сеуле спраектавалі архітэктары Заха Хадзід і Саму.** Гэты неафутурыстычны комплекс з яго выцягнутымі крывымі формамі і наватарскай арганізацыяй прасторы лічыцца адным з архітэктурных шэдэўраў 2010-х. Цікава, што ў яго далікатна ўключаныя руіны старой сеульскай крэпасці. Стыль Захі Хадзід называюць яшчэ стварэннем «метанімічных краявідаў», ад літаратурнага тэрміна «метанімія». *Dongdaemun Design Plaza*, адкрыты ў 2014 годзе, адразу стаў турыстычнай славутасцю Сеула. Ён таксама сімвалічны сваёй наватарскай эстэтыкай — гэта сучасная Карэя, дэмакратычная, адкрытая для навацый і сама стваральніца навацый.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY COFFEEMATE

вялікімі — і няпростымі — суседзямі. На захадзе — Паднябесная, на ўсходзе — Краіна ўзыходзячага сонца.

Першыя пісьмовыя згадкі пра карэйскую дзяржаўнасць адносяцца да VII стагоддзя. У канцы I тысячагоддзя былі кадыфікаваныя законы, створана грамадзянскае права. Менавіта ў Карэі ў 1377 годзе была надрукавана першая ў свеце кніга з наборнага металічнага шрыфту — збор выбраных месцаў з казаняў Буды.

Аснову карэйскага грамадства з даўніх часоў вызначала жорсткая сацыяльная іерархія.

У карэйскай мове няма агульных слоў «брат» і «сястра», ёсць толькі словы, якія адпавядаюць азначэнням «старэйшы(ая) брат/сястра» і «малодшы(ая) брат/сястра». Такім чынам, карэйцы ступаюць на іерархічную лесвіцу ад нараджэння.

Старэйшы брат — 형 *hyeong*
Малодшы брат — 남동생 *namdongsaeng*
Старэйшая сястра — 언니 *eonni*
Малодшая сястра — 여동생 *yeodongsaeng*

У XX стагоддзі павага да сацыяльнай іерархіі нечакана аказалася выдатным падмуркам для эканамічнага росту.

## Цёмныя часы

У 1910 годзе Карэйская імперыя страціла незалежнасць і была далучана да Японскай. Тыя падзеі дагэтуль негатыўна ўплываюць на адносіны дзвюх краін, хоць суседства з рэжымамі Кітая і Паўночнай Карэі збліжае інтарэсы.

Падчас 35-гадовай каланізацыі прадметы ў школах выкладаліся на японскай мове, а карэйскую забараняли нават на перапынках. У канцы 1930-х у Токіа, на піку імперыялізму, увогуле заявілі, што «карэйскі народ — неад'емная частка японскага».

Менавіта ў гэты кароткі, па мерках гісторыі, перыяд японізацыі нарадзіліся тыя палітыкі, якія ўзначаляць працэс пераходу Карэі ад аўтарытарызму да дэмакратыі.

## Адзін народ, дзве Карэі

У 1945 годзе Чырвоная армія ўвайшла на поўнач Карэі, а амерыканцы высадзіліся на поўдні. Дзве дзяржавы дамовіліся, што праз пяць гадоў пакінуць паўвостраў — і краіна стане незалежнай і адзінай. Гэтага не здарылася. Пачалася халодная вайна. У выніку там узніклі дзве дзяржавы: прасавецкая Карэйская Народна-Дэмакратычная Рэспубліка (КНДР) на поўначы ▸

## РЭСПУБЛІКА КАРЭЯ

**Насельніцтва** 51,7 мільёна чалавек.

**Тэрыторыя** 100 тыс. кв. км (удвая меней, чым у Беларусі).

**Сярэдні заробак** каля 2500 долараў — у пяць разоў большы, чым у Беларусі.

Тэрыторыя **Рэспублікі Карэя** размяшчаецца на паўвостраве, горы займаюць да 70% тэрыторыі. Высокіх сярод іх няшмат, і землятрусаў на паўвостраве амаль не бывае. Амаль усе лясы ў мінулым былі высечаныя, але цяпер карэйцы іх аднаўляюць. Краіну з трох бакоў акружае вада, а на поўначы яна мяжуе з таталітарнай КНДР, таму рэспубліку часам называюць «палітычным вострвам».

У палітыцы краіна ад 1950-х арыентуецца на ЗША. У эканоміцы ад 1960-х — на высокія тэхналогіі.



Першая кніга з наборнага металічнага шрыфту надрукаваная ў Карэі ў 1377 годзе. Уключаная ў рэестр ЮНЕСКА «Памяць свету», захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Францыі.

і праамерыканская Рэспубліка Карэя (РК) на поўдні. Першую ўзначаліў былы афіцэр Чырвонай арміі Кім Ір Сен, другую — змагар за незалежнасць Лі Сын Ман.

Абодва лідары абралі аўтарытарны стыль кіравання, абодва жадалі аб'яднаць паўвостраў пад сваёй уладай.

### Канструктыўныя супраць прынцыповых

Погляды лідараў руху за дэмакратыю Паўднёвай Карэі — Кім Ён Сама і Кім Дэ Джуна — фарміраваліся ў перыяд амерыканскай прысутнасці і амерыканскіх уплываў.

Кім Ён Сам вырас у багатай сям'і і з маладосці быў прыхільнікам правых поглядаў.

У 1950-я ён уступіў у Ліберальную партыю, заснаваную прэзідэнтам Лі Сын Манам, і марыў дэмакратызаваць Карэю знутры. Малады палітык стаў дэпутатам і звяртаў увагу на «асобныя недахопы».

Кім Дэ Джун, выхадзец з небагатай сям'і, з маладосці спачуваў левым. Праўда, ён расчараваўся ў КНДР, калі пабачыў, як жаўнеры Поўначы расстрэльваюць «буржуяў». Яго і самога тады ледзь не забілі, бо палічылі «капіталістам» — як уладальніка транспартнай кампаніі. Потым ён паўтараў: «Гэта дазволіла зразумець небяспеку камунізму лепш, чым тысяча антыкамуністычных кніг».

Кім Дэ Джун абраў апазіцыю, якая працістаяла ўраду і пры аўтарытарным рэжыме не мела шанцаў трапіць у парламент з-за фальсіфікацый.

**Карэйцы былі першым народам** супраць якога сталінскі рэжым у СССР выкарыстаў метад прымусовай дэпартацыі. У 1937 годзе ўсіх карэйцаў з Далёкага Усходу перасялілі ў Сярэднюю Азію. Карэйцы дагэтуль масава жывуць ва Узбекістане (200 тысяч) і Казахстане (100 тысяч).

### Як Поўдзень захапляўся Поўначчу

На 1950 год насельніцтва КНДР складала каля 10 мільёнаў жыхароў, а Рэспублікі Карэя — амаль удвая больш. На Поўдні было шмат тых, хто жадаў пераехаць на Поўнач, дзе жылося лепш. Прычына простая: большая частка прамысловасці старой Карэі дасталася КНДР. Эканоміка Паўднёвай Карэі грунтавалася на сельскай гаспадарцы, краіна залежала ад замежнай (у першую чаргу амерыканскай) дапамогі.

**Прозвішча Кім** носіць кожны пяты карэец. У выдатнага дзеяча беларускай культуры, стваральніка ініцыятывы «Кінаконг» Андрэя Кіма — таксама карэйскія карані.

Нават калі ў 1960-я ў Рэспубліцы Карэя пачаўся эканамічны рост, яго плён не адразу адчулі ўсе. Грамадзянам даводзілася працаваць на чэболі, дзейнасць якіх кантраляваў урад. Фактычна ў краіне панаваў дзяржаўны капіталізм, для якога галоўным былі прыбытак і экспарт, а не правы працоўных. Заробкі былі нізкія, а забастоўкі забароненыя. Таму сімпатыі да Поўначы захоўваліся.

Усё пачало мяняцца ў 1970-х.

### 38-я паралель

25 чэрвеня 1950 года КНДР пры падтрымцы Пекіна распачала Карэйскую вайну. Сталін не сказаў кітайцам ні «так», ні «не», каб не браць на сябе абавязкаў: Савецкі Саюз не быў гатовы да маштабнага канфлікту з Амерыкай, і ў той





**Цырымонія ў мемарыяле Карэйскай вайны ў Сеуле.** Гэты комплекс адкрылі ў 60-ю гадавіну яе пачатку.

Так Сеул выглядае цяпер.

DEPOSITPHOTOS.COM BY FENLIO

жа час сутыкнуць амерыканцаў з кітайцамі, каб Амерыка загрузла і знякровілася ў канфлікце, дыскрэдытавала сябе ў вачах краін трэцяга свету. Кітай выставіў прыкладна паўтара мільёна салдат. На баку Поўдня выступіў міжнародны кантынгент ААН на чале з амерыканцамі. У яго складзе ваявалі вайскоўцы 15 краін, у тым ліку Эфіопіі і Люксембурга.

Разлік Сталіна аказаўся правільны, а вынік — трагічны, як гэта часта бывала з ім. У вайне

## Што пачытаць

Пра ранні этап станаўлення дэмакратыі ў Карэі добра расказаў Грэг Бразінскі (*Gregg Brazinsky*) у англамоўным выданні *«Nation Building in South Korea»*.

А пра Кім Дэ Джуна і «палітыку сонечнага цяпла» добра напісаў Дональд Кірк (*Donald Kirk*) у *«Korea Betrayed: Kim Dae Jung and Sunshine»*.


Так выглядаў Сеул у 1960-я.

DESIGNERSPARTY.COM

1950–1953 гадоў не перамог ніхто, хоць і КНДР, і Паўднёвая Карэя ў свой час былі на мяжы поўнага паражэння. У выніку фронт прайшоў амаль па той самай лініі, з якой усё пачыналася. Загінулі 170 тысяч вайскоўцаў з боку Паўднёвай Карэі і ЗША і 600 тысяч кітайцаў і паўночнакарэйцаў, і гэта яшчэ не лічачы мірных грамадзян. Мірная дамова не заключаная і сёння, а Паўночная Карэя застаецца смяротным ворагам Вашынгтона.

Рэспубліка Карэя фактычна стала часткай абарончага перыметра ЗША ў Азіі, таму Вашынгтон заплюшчваў вочы на парушэнні ў ёй правоў чалавека. Працаваў стары прынцып, які сфармуляваў некалі прэзідэнт ЗША Франклін Дэлана Рузвельт датычна нікарагуанскага дыктатара Анастасіа Самосы: «Можа, ён і сукін сын, але гэта наш сукін сын».

## Фатальная змена канстытуцыі

Шляхі «канструктыўнай апазіцыі» і «прынцыповай апазіцыі» сышліся вымушана — ▸

▸ у 1954-м Лі Сын Ман дабіўся змены канстытуцыі, каб кіраваць пажыццёва. Гэтага не сцярпелі нават ягоныя былыя аднадумцы. Кім Ён Сам таксама перайшоў у апазіцыю — і разам з Кім Дэ Джунам апынуўся ў шэрагах Новай дэмакратычнай партыі.

Там два Кімы часта ўваходзілі ў супярэчнасць, бо адзін гаварыў пра інтарэсы бізнэсу, а другі — працоўных. Толькі наяўнасць супольнага ворага — дыктатуры — трымала партыю разам.

У 1960-м народ Лі Сын Мана скінуў. Дыктатар усім надакучыў, а ваенная пагроза адступала перад эканамічнымі выклікамі. Тым не менш дэмакратызацыя аказалася кароткай: у канцы 1961-га генерал Пак Чон Хі здзейсніў новы пераварот.

Зноў кіравалі вайскоўцы. Гэтым разам зрабілі стаўку на чэболі, дзяржаўнае планаванне, замежныя інвестыцыі, выхаванне кадраў і экспарт. З апорай на традыцыйную паслухмянасць перад старэйшымі гэта прывяло да «паўднёвакарэйскага цуду».

Узровень жыцця рос, апазіцыя тым часам падзялілася на некалькі партый. Адныя былі гатовыя ўбудоўвацца ў рэжым, пры якім краіна хоць трохі мянялася ў лепшы бок, іншыя выступалі супраць і патрабавалі рашучых палітычных перамен.

**Чэболі** (літаральна «багатыя сем'і») — карэйскія фінансава-прамысловыя групы, падобныя да японскіх дзайбацу. Складаюцца з асобных фірмаў, якімі кіруюць з аднаго цэнтра (часцей за ўсё адной дынастыяй). Раней у чэболях былі прадпрыемствы рознага кірунку — адна карпарацыя можа і рабіць электроніку, і гатаваць ежу, і будаваць гатэлі. Хоць былі і абмежаванні: чэболям забаронена займацца турыстычным бізнэсам, валодаць банкамі і СМІ.

Першыя чэболі з'явіліся ў гады Карэйскай вайны, але іх росквіт пачаўся ў 1960-я пры Пак Чон Хі. Ён даў карпарацыям ільготы пры ўмове, што яны будуць развіваць прамысловасць і экспарт. Кожны чэболь узначаліла адна сям'я, якая атрымала ў ім абсалютную ўладу. Аўтарытарны стыль кіравання дазволіў падняцца тым, хто быў гатовы самаахвярна працаваць і прымушаў рабіць тое самае падначаленых.

Працаваць у чэболях стала прэстыжным, заробкі там былі вышэйшыя. Па стане на 1989 год на 50 буйных карпарацый прыходзілася 73% гандлёвага абароту краіны. Амаль усе вядомыя ў свеце паўднёвакарэйскія брэнды, у тым ліку і такія, як *Samsung, LG, Hyundai,* — чэболі.

Але ў канцы 1990-х многія чэболі перасталі быць лакаматывамі эканомікі, набралі даўгоў. Урад Кім Дэ Джуна вырашыў такіх не падтрымліваць, і яны пайшлі на дно, як *Daewoo*, што збанкрутаваў у 1999-м. Нават тыя, што выжылі, змяніліся, адмовіўшыся ад стратных бізнэсаў (як *Samsung* — ад аўтамабіляў).

## Забіты кіраўніком уласнай спецслужбы

Кімы засталіся ў адной партыі, але працягвалі сварыцца.

Кульмінацыяй супрацьстаяння сталі прэзідэнцкія выбары 1971-га. Партыя на з'ездзе выбрала Кім Дэ Джуна, а не Кім Ён Сама і прайграла: спрацавалі адміністрацыйны рэсурс і фальсіфікацыі. Новы прэзідэнт Пак Чон Хі таксама змяніў канстытуцыю на рэферэндуме. Цяпер права абіраць прэзідэнта атрымалі некалькі тысяч дэлегатаў Аб'яднанага нацыянальнага сходу.

Апазіцыя пратэставала супраць узурпацыі ўлады, пачаліся рэпрэсіі. Кім Дэ Джуна, які збег у Японію, выкралі спецслужбы, напаілі наркотыкамі і пасадзілі на карабель, каб скінуць у мора. Перашкодзіў японскі флот, які распачаў пераслед. Прыйшлося везці апазіцыянера дадому, дзе за яго заступіўся ўжо амерыканскі пасол.

Кіраванне Пак Чон Хі скончылася не выбарамі, ён загінуў ад рукі кіраўніка ўласнай спецслужбы.

У выніку ўладу захапіў трэці генерал — Чон Ду Хван. Ён жорстка задушыў пратэсты, арыштаваў апазіцыянераў (у тым ліку Кім Ён Сама), а Кім Дэ Джуна прыгаварыў да смяротнага пакарання як «галоўнага бунтара». Праўда, потым змяніў прысуд на турэмны тэрмін і дазволіў выехаць за мяжу для лячэння.

## Замена смерці турмой

У маі 1980 года ў гарадах Рэспублікі Карэя пачаліся студэнцкія дэманстрацыі. Моладзь патрабавала дэмакратызацыі, у адказ Чон Ду Хван увёў ваеннае становішча. Адным з галоўных цэнтраў пратэсту стаў Кванджу, дзе на вуліцы выйшлі 300 тысяч гараджан.

Пратэстоўцы занялі адміністрацыйныя будынкі, тады Чон Ду Хван увёў у горад армію. Пралілося шмат крыві. У краіне распачаліся масавыя рэпрэсіі, 12% СМІ былі зачыненыя за «антыдзяржаўны падыход у падачы інфармацыі». Тысячы дзяржслужбоўцаў страцілі працу, іх падазравалі ў сімпатыях да незадаволеных.

Найбольш жорстка помсцілі жыхарам Кванджу — гараджанам нават ставілі ў пашпарт метку «нелаяльны грамадзянін».

У 1990-я гады арганізатараў падаўлення паўстання, генералаў Чон Ду Хвана і Ро Дэ У, прыгаварылі да смяротнага пакарання. Выратаваў іх Кім Дэ Джун — магчыма, таму, што Чон калісьці таксама замяніў Кіму смерць турмой.

## Фатальная канкурэнцыя

Толькі ў лютым 1985-га былы кандыдат у прэзідэнты вярнуўся — у самалёце з групай амерыканскіх палітыкаў і журналістаў. Яны былі гарантамі таго, што Кім Дэ Джуна не заб'юць, як двума гадамі раней забілі на Філіпінах Бенігна Акіна (чытайце падрабязней у «Нашай гісторыі» № 10/2020).

Як і на Філіпінах, у Карэі амерыканцы падтрымлівалі дыктатараў, але ў той жа час штурхалі іх да дэмакратызацыі і паралельна падтрымлівалі апазіцыю.

Чон Ду Хван злаваў, але сцярпеў: Карэя атрымала права правесці Алімпіяду 1988 года і не хацела псаваць сабе рэпутацыю. Да таго ж халодная вайна канчалася, амерыканцам больш не патрэбны былі дыктатары, апраўданне для іх прайшло.

Восенню 1987-га, праз сем гадоў пасля Кванджу, у Паўднёвай Карэі прайшлі першыя за 16 гадоў свабодныя выбары.

Выбары маглі стаць трыумфам апазіцыі. Але не сталі: два Кімы, два гістарычныя лідары апазіцыі, пасварыліся і пайшлі на выбары паасобку. У выніку перамог генерал Ро Дэ У, паплечнік Чон Ду Хвана. Ён набраў усяго 36% галасоў, але гэтага стала дастаткова (другі тур па заканадаўстве не прадугледжваўся). Кім Дэ Джун набраў 28% галасоў, а Кім Ён Сам — 27%. Так апазіцыя страціла шанец, якога так доўга чакала і за які былі прынесеныя такія ахвяры.




**Сучасная архітэктура Сеула.**

## Сімбіёз былых праціўнікаў

У красавіку 1988-га прайшлі першыя свабодныя выбары ў парламент — зноў амаль без фальсіфікацый. Партыя прэзідэнта атрымала 125 мандатаў, апазіцыянеры — 174. Але яны зноў не змаглі дамовіцца, і Кім Ён Сам зрабіў нечаканы крок — аб'яднаўся з партыяй улады. 70 дэпутатаў Кім Дэ Джуна сталі меншасцю.

Ро Дэ У паабяцаў, што на наступныя выбары ад улады пойдзе Кім Ён Сам. Прэзідэнт на 100% скарыстаўся тым, што атрымаў большасць: аднойчы новая аб'яднаная партыя без абмеркаванняў, як «шалёны прынтар», правяла 26 законаў за 30 секунд! Кім Дэ Джун пасля такога абвінаваціў саперніка ў здрадзе.

Той адказаў перамогай на выбарах 1992-га. На гэты раз не без дапамогі адміністрацыйнага рэсурсу. Былы апазіцыянер палічыў яе невялікай платай за тое, каб стаць першым абраным грамадзянскім кіраўніком Паўднёвай Карэі.

Кім Дэ Джун пераступіў цераз сябе і публічна прызнаў паражэнне, чаго раней ніхто не рабіў. Ён палічыў, што гэта ▶




**Скульптура *Gangnam Style*** у аднайменным раёне Сеула.

▸ будзе добрым крокам на шляху да дэмакратыі. Тым больш што новы прэзідэнт выканаў частку абяцанняў: забараніў сілавікам лезці ў палітыку і зняў частку абмежаванняў на палітычныя выступленні. Частку, але не ўсе: прафсаюзам па-ранейшаму нельга было праводзіць палітычныя забастоўкі, а дзяржаўным службоўцам — патрабаваць павышэння заробкаў.

### Палітыка сонечнага цяпла

Кім Ён Сам на пасадзе прэзідэнта паддаўся тым самым спакусам, якія ў апазіцыі так крытыкаваў. Ён усё жыццё абяцаў свабоду слова, але спрабаваў заткнуць рот прэсе, калі тая стала пісаць пра яго пазашлюбных дзяцей. А законны сын Кім Ён Сама аказаўся замешаны ў карупцыі.

А ў 1997-м на краіну абрынуўся Азіяцкі эканамічны крызіс. Заробкі скараціліся, валюта (вона) патаннела ўдвая за некалькі месяцаў. Банкрутамі стала і частка чэболяў, у тым ліку *KIA*. Кім Ён Сам прапанаваў выйсце: супрацоўніцтва з МВФ, якое патрабавала скарачэння сацыяльных праграм. Кім Дэ Джун у адказ кінуў лозунг «Скажам не ганебнай дамове з МВФ!» — і ў снежні 1997-га перамог. І гэта быў яшчэ адзін крок у кірунку дэмакратыі. Упершыню ў гісторыі краіны прэзідэнтам абралі апазіцыянера.

Перад галасаваннем Кім Дэ Джун абяцаў, што стане «народным прэзідэнтам». Палітычная рэальнасць была іншая: ён быў вымушаны выконваць праграму МВФ, супраць якой раней агітаваў. Кім Дэ Джун, які столькі паклаў на ахвярнік барацьбы за свабоду — гады ў турме, выгнанні, выкраданне, — марыў пра большае, чым проста прэзідэнцтва. Ён хацеў застацца ў гісторыі як аб'яднальнік паўвострава. Прыдумаў «палітыку сонечнага святла», скіраваную на прымірэнне і развіццё



ARCHIVES.KNOWHOW.OR.KR

**Інаўгурацыя Ро Му Хёна, 2003 год.** Мужчына ў зялёным гальштуку па левую руку прэзідэнта — Кім Дэ Джун, за жанчынай у аранжавым — Кім Ён Сам.

**Прэзідэнты Рэспублікі Карэя:**



KYSCD.ORG

**Кім Ён Сам (1993–1998),**



WIKIMEDIA COMMONS

**Кім Дэ Джун (1997–2003),**



WIKIMEDIA COMMONS

**Ро Му Хён (2003–2008).**

## Карэйскае кіно

Вы чулі, а можа, і бачылі «Паразітаў» рэжысёра Пон Джун Хо, які здабыў «Оскар».

У 2017-м з'явіўся навукова-фантастычны серыял «Кола» рэжысёраў Мін Джын Гі і Юн Х'юн Нама. Падзеі дэманструюцца ў дзвюх паралельных плынях часу — 2017 і 2037 гадах. Але гэтыя плыні звязаныя праз агульных герояў, а фінал вельмі нечаканы.

У 2018-м выйшла драма «Палаючы» ад Лі Чан Донга. Фільм заснаваны на апавяданні японскага аўтара Харукі Муракамі і распавядае пра маладога хлопца, які марыў стаць пісьменнікам. Далей будзе гісторыя пра эмоцыі звычайнага чалавека, які апынуўся ў складанай і нетыповай сітуацыі.

A ў 2019-м выйшаў дэтэктыўны серыял «Назіральнік» рэжысёра Ан Гіль Хо. Ён пра расследаванне карупцыі ў паліцыі, пракуратуры, судах і парламенце Карэі.

MYDRAMALIST.COM

супрацоўніцтва з КНДР з мэтай эканамічнага збліжэння дзвюх Карэй як зарукі для будучага аб'яднання, шмат часу праводзіў за мяжой, укладаў грошы ў эканоміку КНДР і нават арганізаваў першую сустрэчу лідараў Поўначы і Поўдня. Гэта прынесла Кіму Нобелеўскую прэмію міру, але не прынесла любові дома — грамадзяне жадалі, каб прэзідэнт займаўся іх справамі, а не чужымі. Для моладзі КНДР ужо была чужой і варожай дзяржавай, ім добра было і ў межах толькі Паўднёвай Карэі.

### Былыя непрымірымыя

На выбарах у снежні 2002-га прыхільнік Кім Дэ Джуна — Ро Му Хён — паабяцаў выкінуць з палітыкі «старое пакаленне» — і перамог.

Выбары прайшлі сумленна, краіна яўна дарасла да стандартаў дэмакратыі. Нават у плане сімвалаў: на інаўгурацыі Ро Му Хёна былі і два Кімы, і Ро Дэ У, і Чон Ду Хван — усе былыя непрымірымыя палітычныя праціўнікі, што нармальна для заходніх дэмакратый.

Паўднёвая Карэя пераўтварылася ў дзяржаву, дзе перамога апазіцыі на выбарах — звычайная справа, а зменнасць улады — спосаб рухаць краіну наперад.

Гісторыкі і сёння спрачаюцца на тэму, якая тактыка апазіцыі была найлепшай. Здаецца, што без ідэі аб кампрамісе з уладамі пераход да дэмакратыі быў бы магчымы, толькі значна пазней. Тады трэба пахваліць Кім Ён Сама, які не пабаяўся абвінавачванняў у здрадзе, выклікаў агонь на сябе і мяняў рэжым знутры.

Але змены было немагчыма завяршыць, калі б не прынцыповасць Кім Дэ Джуна, які таксама ўрэшце дасягнуў прэзідэнцкай вяршыні.

### Адзіная непераможная

Адзінае, што карэйцам пакуль не ўдалося, — гэта перамагчы карупцыю. У гэтым аказаліся роўныя і Чон Ду Хван, і Ро Дэ У, і Кім Ён Сам, і Кім Дэ Джун. І нават дачка дыктатара Пак Чон Хі, Пак Кын Хе (Пак, як і Кім — гэта прозвішча, яго карэйцы ставяць у пачатку), якая здабыла пасаду прэзідэнта на хвалі расчаравання палітыкамі-дэмакратамі, у 2017-м за карупцыю патрапіла пад імпічмент і атрымала 24-гадовы турэмны тэрмін. Незалежныя суды, пракуратура і СМІ робяць сваю справу чысцільшчыкаў. ◆

## *K-pop*

Утварыўся як сумесь моднай заходняй музыкі і высокаэнергетычнага японскага попу.

Самым вядомым выканаўцам «кей-попу» з'яўляецца Пак Чжэ Сан (*PSY*). Яго кампазіцыя *Gangnam Style* у снежні 2012-га ўпершыню ў гісторыі *Youtube* набрала больш за мільярд праглядаў.

А кліп *DNA* гурта *BTS* стаў першай карэйскай кампазіцыяй, што атрымала залатую сертыфікацыю ад Амерыканскай асацыяцыі кампаній гуказапісу.

Сярод жаночых калектываў можна адзначыць *Black Pink*, які ў чэрвені 2018-га выпусціў кампазіцыю *Ddu-Du Ddu-Du*, якая мае амаль паўтара мільярда праглядаў у *Youtube*.



Гурт ***Black Pink.***

SAMSUNG.COM

# МАЧУЛЬ

## Тут плавалі на дубах,

### а шляхта і сяляне, хоць тыя і тыя праваслаўныя, мелі асобныя могілкі і называлі тыя ж прадметы living рознымі словамі

**Пра вёску Мачуль на Століншчыне піша настаўніца музыкі і паэтка Ірына Ляшкевіч.**

«А вы чулі, шчо ў Мочулі? А ў Мочулі воўкоў чулі!» — гэтая жартаўлівая прыказка пра маю родную вёску недалёкая ад праўды. З поўдня адрэзаная ракой Моўствай, з усіх бакоў акружаная балотамі, а праз іх — толькі сцежкамі-гацямі або па вадзе. Адасоблена жылі людзі тут, свой тут быў свет. У густых лозах сярод балот вылі ваўкі.

Мачуль — вёска старажытная. Яшчэ ў XV стагоддзі княгіня Ганна, удава князя Свідрыгайлы (гл. пра яго артыкул Сяргея Палехава ў № 1/2018 «Нашай гісторыі»), за асаблівыя заслугі ў бітве пад Грунвальдам надала шляхецтва і падаравала землі ў ваколіцы Альпень нейкаму Лешку. Лешка меў двух сыноў: Марціна і Зяновія. Аднаму з іх належаў Альпень, а другому — Мачуль. Ад таго Лешкі і пайшлі, відаць, Ляшкевічы — род, да якога я маю гонар належаць і які 600 гадоў сядзіць на адным месцы.

**Мачуль**

Сяло ў Столінскім раёне. Цяпер тут 172 гаспадаркі і 449 жыхароў. У школе навучаецца 43 дзіцяці. 136 жыхароў — пенсіянеры.



**Рака Моўства, Мачуль.** Фота Джона Кунштатэра.

У XIX стагоддзі дваранін Дутаў з Рамля ўзяў у прымы да сваёй дачкі майго продка Хвэлюся Ляшкевіча Зяновіча Альпенскага (з Альпеня). Мачулец Ілья Іванавіч Сядляр (1914–1996) занатаваў гэта ў сваіх «Аповедах па ўспамінах людзей сталага веку». Гэтыя аповеды, тры рукапісныя тоўстыя сшыткі, беражліва захоўваюцца ў сям'і яго ўнука Віктара Іванавіча Седляра.

У пасаг мой продак атрымаў вадзяныя млыны на рацэ Моўства. Рака бярэ свой выток ва Украіне і недалёка ад Мачуля ўпадае ў Сцвігу. Грэблі млыноў трымалі ў ёй узровень вады. Цёмная, амаль чорная, на торфе настоеная вада, магчыма, і дала назву рацэ: «мост» — чорны ў фіна-вугорскіх мовах, «ва» — вада. Вось толькі спрадвеку вымаўляюць у нас не Мостваа, як афіцыйна прынята цяпер, а Моўства. Гэтак раку пазначыў на карце 1917 года і акадэмік Яўхім Карскі. А ў ніжнім цячэнні, дзе яна плыве праз знакамітыя Альманскія балоты, гэтая самая рака завецца ўвогуле па-іншаму — Льва.

## Вада не бяда

Маё дзяцінства і юнацтва — гэта Моўства. Яна хоць і стварала мачульцам праблемы, але потым шчодра адгоджвала. У канцы сакавіка рака з грукатам вызвалялася з ледзянога палону і імкнула да сядзіб, запаўняла Бабінскае балота. Дзядуля ставіў палачкі-меткі, правяраў узровень вады кожны ранак і прыкідваў, ці вялікая будзе паводка. Мы на ўсякі выпадак выцягвалі бульбу з лёха, а насенку — з ярусоў*, масцілі ў хлявах худобу, падцягвалі да вышэйшага месца лодку.

Лодку ў нас называлі дубам. Дуб абавязкова быў у кожнай ▶

* **Ярус**, або **ямка** — спосаб захоўвання бульбы ці іншай гародніны (буракоў, морквы). Выкопваецца яма, у якую засыпаецца бульба ці іншая гародніна горкай. Горка абкладваецца вішом (віш, віша, вішар — скошаная і высушаная непрыдатная на сена трава з пяскоў і прыбалаткаў, якую косяць пад восень, калі яна робіцца грубая, аж рэжа скуру, тады яе баяцца мышы), зверху ярус засыпаецца пяском. У вялікія маразы ярусы дадаткова прыкрываюць зверху, нават і гноем, калі мароз вялікі. Многія гаспадары ў ярус клалі высушаную на Тройцу лепашню (аер) і палын, каб дадаткова адпуджвалі мышэй.

## Адкуль назва Мачуль?

Можна дапусціць, што ў яе аснове ляжыць слова «мачула» ці «мачыла» — шырокая яма ў нізкім месцы, сажалка, лужына на балоце, акно сярод плаву. Такія месцы раней звычайна выкарыстоўваліся для мачэння лёну.
Назваў з падобным коранем у Беларусі нямала, прытым яны раскіданыя па самых розных рэгіёнах. Самае вядомае з іх — гарадскі пасёлак Мачулішчы (старадаўняя назва Мочул) пад Мінскам. Недалёка ад гэтых Мачулішчаў, у Сеніцкім сельсавеце, ёсць і вёска з такой назвай. Дзве вёскі ў Крупскім раёне і па адной у Камянецкім, Расонскім, Буда-Кашалёўскім, Лагойскім і Мінскім (Астрашыцка-Гарадоцкі сельсавет) раёнах носяць назву Мачулішча, у Рэчыцкім — Мачульскія, у Бабруйскім — Мачулкі, у Ваўкавыскім — Мачульна. А ў Астравецкім раёне быў хутар Мачулы.



ФОТА ДЖОНА КУНШТАТЭРА

**Новы човен майстра Мікалая.** У Мачулі лодкі традыцыйна называюць «дубамі».

гаспадарцы. Многія мелі па два: лёгкі, з нізенькімі бартамі, і больш цяжкі, глыбокі — для матораў. Кожную раніцу мы садзіліся ў дуб — цёпла апранутыя, бо прыбытна́я вада несла за сабой пранізлівы вецер і холад нават у сонечнае надвор'е. Дзядуля адвозіў нас да школы, а потым у абед сустракаў. Лодкамі ездзілі ў суседнія вёскі, вазілі дровы, сена.

«Вада не бяда: прыйшла і пайшла!» — паўтаралі мачульцы, апраўдваючы сваю адвечную адысею.

Калі цяплела і вада спадала, на Бабінскім балоце пачыналі біцца язі. Вечарамі мужчыны на дубах выязджалі па рыбу. Балота дыхала, варушылася, шумела ад крумкатання жаб і сцішаных галасоў. Я памятаю тую рыбу! Яе хапала ўсім! А ўюны, якіх лавілі недзе ў старыках і балотцах! Асабліва смачнымі яны былі ў юшцы. А яшчэ іх варылі, сушылі, смажылі. Елі ў свята, у пост, давалі ў падарунак. Нас, малечу, бацькі пільнавалі, каб не каталіся на лодках, каб не патанулі. Але схапіць лодку і ўцячы па сітнік і рагоз з іх салодкім на смак карэннем было для нас звычайнай забавай.

**«Вада не бяда: прыйшла і пайшла!» — паўтаралі мачульцы**

Цяпер няма больш той вялікай вады. У сухія леты Моўства амаль перасыхае. Дубы ціха дажываюць век на яе берагах, а сакрэты вырабу добрых лодак адышлі ў нябыт разам з колішнімі майстрамі.

### Цяслярскія тэрміны з Мачуля

**Спуст** — вялікі гэбель
**Шклюд** — выгнутая сякера
**Цэнтар** — вялікі свердзел
**Грундвага** — прыстасаванне для вымярэння вертыкальнага ці гарызантальнага становішча, каб не было касіны
**Тэбель** — драўляны завостраны кол, якім звязвалі вянцы

### Абкладзіны, шлапавое і канчыны

У кожнай палескай вёсцы свае майстры. Мой дом 28 гадоў таму будавалі мясцовыя цеслі, ужо немаладыя, але заўзятыя. Як палажылі на падмурак першы вянок — спраўлялі *акла́дзіны*. Другі раз спраўлялі *шлапавое*, калі вянцом перакрывалі вокны. Трэці раз — *бэлькавое*, калі



**Пяць пакаленняў сям'і Ляшкевічаў. Мачуль, 2014 год.** Фота Джона Кунштатэра. Аўтарка гэтага тэксту стаіць злева.






**«Чого селезён смуцен, невесёл»** — песня ў выкананні гурта «Каляжанкі». Спявачкі жывуць у вёсках Мачуль, Рамель і Альшаны.



клаліся бэлькі. Калі падымаліся і звязваліся шчыты, то цесляры вешалі паміж шчытамі «кветку» — венік, каб гаспадар бачыў і зноў рыхтаваў стол. А пяты раз майстроў належала частаваць на *канчы́ны* — калі хата была накрытая. І гэты апошні раз быў сапраўдным святам: з добрай чаркай і магутнымі спевамі.

### Уюны сушаныя на мэтцы

Уюны мылі і нанізвалі галовамі да верху на метровы вярбовы прут, завостраны з аднаго боку, — мэтку. Распальвалі вогнішча. Калі заставаўся жар, мэткі з уюнамі падвешваліся гарызантальна над вуголлем, каб злёгку прыпякліся. Дасушвалі іх потым у печы, не знімаючы з мэтак, у лёгкім духу на саломе ці бляхах. Захоўвалі ў сухім халодным месцы.

Сушаныя ўюны елі так або варылі з імі боршч.

### Юшка з уюноў

Уюны чысцім (адразаем галаву) і мыем. У кіпячую ваду апускаем уюны, дадаём соль да смаку, здробненую цыбулю, лаўровы ліст. Калі скурка на ўюнах злёгку пабялее, дадаём зеляніну кропу, а потым перац. Гатуецца юшка прыкладна хвілін 20–25 ад моманту закіпання, час залежыць ад велічыні ўюноў. Трэба даць юшцы пастаяць пад накрыўкай.

Уюноў выкладалі на талерку асобна, хто любіць — прысыпалі яшчэ соллю і кропам, а юшку елі з бульбай ці хлебам.

## Уюноў лавілі ў старыках*. Асабліва смачнымі яны былі ў юшцы

### Песні і танцы

Колькі песень змяшчаецца ў вясковай душы, наўрад ці палічыш. Ішлі на працу і з працы — спявалі, на бяседах — спявалі, і ў радасці, і ў горы знаходзілі людзі спатоленне ў песні.

Даўно спачывае Агрыпіна Піліпаўна Супрунчык, а яе песні ўжо 30 гадоў спяваюць дзяўчаты з узорнага фальклорнага аб’яднання «Згадка» пры Мачульскім доме фальклору ды дарослы гурт «Каляжанкі».

Усе мы тут у радзіне маем як не адмысловых спевакоў, то музыкаў. Некалі па ваколіцах ішла слава пра скрыпачоў братоў Клімовічаў, скрыпача Статкевіча, пра флейціста Максіма Пыталя, пра Яна Ранчынскага, які граў на трубе. А колькі гарманістаў! І цяпер у Мачулі вы іх знойдзеце.

Пра колішнія танцы старэйшыя людзі ўспамінаюць з гонарам. Трэба добра пастарацца, каб цябе прызналі найлепшай танцоркай на сяле. На вячорках пад скрыпкі ды гармонікі танчылі «Карапет», «Падэспань», «На рэчаньку», «Какетка», «Кракавяк», «Месяц», «Абэрак», «Шэн» і іншыя. Зважайце: вячоркі ладзіліся асобна для мужыкоў** і шляхты. Не дай Бог завітаць каму не ў тую хату — быць бойцы.

Прыкладаў, калі шляхцянка збягала замуж за мужыка, было няшмат. Але былі. Недзе ў 1930-я гады злюбілася дзяўчына Анюта з Вяшчыцкіх з мужыцкім хлопцам Раманам Супрунчыкам. Бацькі дзяўчыны былі супраць. Але яна іх не паслухала і ўпотайкі павянчалася з каханым. Бацькам прыйшлося змірыцца. Нарадзілі трох дачок: Надзею, Волю і Любоў (якія імёны!). Але шчасце было кароткім. Раман захварэў і памёр ▸

### Словы мачульскія

**Осісё** — вось тут
**Онёво** — вось там
**Онінё** — так выказвалі здзіўленне, у сэнсе «няўжо? анягож?»
**Квашаніна** (на шляхце), **юха** (на мужыках) — халадзец
**Глёк** (на мужыках казалі), **гладышка** (на шляхце) — гэта збанок без вуха
**Корэц** — драўляны кубак
**Кварта** — металічны кубак
**Рыхцік** — рыхтык, зусім такое ж, вельмі падобнае
**Кадоўб** — бочка, якую выдзёўбвалі з суцэльнага дрэва
**Своец** — сувой палатна
**Страпкач** — вузкі ручнік з доўгімі страпкамі

* **Ста́рык** — старыца, старое рэчышча.

** Слова **«мужык»** было раней сінонімам слова «селянін», абазначала прыналежнасць да саслоўя. Параўнай Купалава «Я мужык-беларус, пан сахі і касы…».

▸ ад сухотаў. Калі ж вярнуўся з фронту яго брат Адам, то ажаніўся з Анютай. І нарадзілі яшчэ дачку — Веру.

## Тры крыжы

Хай жывуць у Мачулі шляхта і мужыкі побач не адно стагоддзе, а спачываюць на розных могілках. Мужыцкія — у канцы вёскі, а шляхецкія — на гары. На Радаўніцу збіраюцца вяскоўцы разам у невялічкай царкве, што самі і фундавалі ў 2013 годзе, а потым разыходзяцца па розных могілках наведаць радзіну.

Пакуль не было царквы, людзі збіраліся на малітвы ля трох крыжоў-абярэгаў, што ўзвышаюцца ва ўрочышчы Заяцель. Іх гісторыю прыадкрыла мясцовая настаўніца і паэтка Галіна Бабарыка. Першы крыж паставіў бацька Гаўрылы, якога забралі на руска-японскую вайну (1904–1905). У 1915 годзе Пятро паставіў другі крыж, калі яго сын Піліп пайшоў на Першую сусветную вайну. Гэтыя два хлопцы вярнуліся жывымі.



**Дзед Павал з жонкай і праўнукам на старой брукаванцы** паміж вёскамі Цераблічы і Мачуль. 2007 год

ФОТА ДЖОНА КУНШТАТЭРА

А трэці крыж быў пастаўлены ў гады Другой сусветнай вайны сынам таго Гаўрылы Мікалаем.

Больш за 100 гадоў жыхары Мачуля нясуць крыжам свае малітвы-просьбы ды традыцыйныя аброкі-ручнікі. А ў 2016 годзе сям'я Галіны Міхайлаўны Пыталь, былой настаўніцы беларускай мовы, замяніла старыя пахіленыя крыжы на металічныя. Буслiная сям'я зрабіла побач з крыжамі жытло — добры знак.

### Хаты ў Мачулі

Цяпер каштуюць ад 2000 да 8000 долараў, у залежнасці ад стану будынка і памеру пляца. Але большасць трымаецца сваіх родавых сядзіб. «Мае суседзі аж з Пецярбурга прыязджаюць кожны год у бацькоўскую хату і жывуць па паўгода», — расказвае Ірына Ляшкевіч.



WIKIMEDIA COMMONS

## На лаўцы каля Раі

У цэнтры вёскі, каля хаты Раісы Аляксандраўны Ляшкевіч, стаіць доўгая лаўка. Па святах і нядзелях яна ніколі не бывае пустой. Няма, мабыць, ні аднаго чалавека ў вёсцы, які хоць раз не спыніўся і не прысеў на яе. Так і кажуць: «На лаўцы каля Раі».

Летам павыганяюць гаспадары і гаспадыні кароў на пашу ў абед і прысядуць на лаўку. На Вялікдзень збіраюцца мужчыны, дзеці і гуляюць у біткі. А позна вечарам лаўку займае моладзь. Піску, смеху, размоў!

Недалёка ад Раінай лаўкі — вясковы клуб. Ён пабудаваны



**Мачуль, 1929 год.** Будынкі тады тут ставілі на па́лях — дубовых калодах. Фота Станіслава Бохніга з фотаальбома «Палессе. Фотаздымкі з 1920-х і 1930-х».

**Родам з Мачуля**

**Емяльян Вітун** (нар. 1933) — кандыдат эканамічных навук, прафесар, у 1990–1995 гадах рэктар Гродзенскага аграрнага ўніверсітэта.

**Міхаіл Ляшкевіч** (нар. 1968) — кандыдат педагагічных навук, выкладчык Мазырскага ўніверсітэта.

ў 1954 годзе, каб вяскоўцы маглі сабрацца разам, адзначыць святы, адпачыць і патанчыць. А вёска ж спеўная! У клубе заўсёды было людна. Святой жаночай справай было паглядзець вяселле, каб назаўтра было пра што гаварыць на Раінай лаўцы. Напісаныя чырвонай фарбай кінаафішы паведамлялі мачульцам пра фільмы, што тры разы на тыдзень прывозіла кінасетка. Асабліва ішлі людзі на індыйскае кіно. Быў выпадак, калі нехта пажартаваў і дапісаў «індыйскі фільм» на афішы дзіцячай стужкі «Чук і Гек». Доўга смяяліся з тых дарослых, хто не разабраўся і прыйшоў.

У невялічкім пакоі бібліятэкі ў страшэннай цеснаце месціўся велізарны фонд кніг. Вера Герасімаўна Кірэчка магла з парога параіць нешта цікавае, бо ведала на памяць густы людзей.

Яшчэ пяць гадоў таму клуб віраваў жыццём, але будынак патрабаваў рамонту — і яго зачынілі. Не адзін мачулец уздыхае з жалем, калі бачыць, як дажывае гэтае дарагое кожнай сям'і месца. І ў маіх успамінах — высокія таполі вакол клуба і духмяны залаты кілім пад імі ўвосень. Я спыняюся і шукаю самы прыгожы лісток, але мама-настаўніца падганяе, каб не спазніцца ў школу.

* * *

Стары дуб павяртаецца ў паваротах Моўствы. Цёмная вада нібы расступаецца ў бакі і дае мне дарогу. Я плыву сярод густага вербалозу, якім зараслі берагі. Месцамі даводзіцца прыгінаць галаву, нібы ў жывым зялёным тунэлі. Страказа стамілася і прысела на насок дуба. Плёскат вады, галасы птаства, спужанае лапатанне крылаў качкі — усё тут як калісьці. Толькі вясло цяпер тоне напалову ды дзе-нідзе выглядаюць бабровыя гаці.

* * *

Ой, рэчанька-рэчанька,
Чаму ж ты не поўная,
З беражком не роўная?

Як у дзяцінстве, вяслую і спяваю... Бо вольна душы. ◆

## Мачульскія прыказкі

У мамы быў закалец на палец, а ў мане* на два. (Самакрытычнае, калі нешта не ўдаецца: мама не ўмела хлеб пячы, ён знізу падграў, і я дачка — такая ж. Які бацька, такі і сын, якое дрэва, такі і клін — але з прыгожай самаіроніяй.)

* **мяне** — дыялектнае.

Дай Божэ нашому целяці воўка задраці.

Шчо ўбіў, шчо ўехаў — однаково. (Калі чалавеку ўсё роўна.)


ФОТА УЛАДЗІМІРА РАДЫЕНАВА, РИА НОВОСТИ

# Як я быў народным дэпутатам СССР

## З'езд народных дэпутатаў звёў маладога гомельскага рабочага Віктара Карняенку з Быкавым і Сахаравым і даў пуцёўку ў палітыку

**У 1989 годзе Віктар за лічаныя месяцы адолеў шлях ад заводскага брыгадзіра да дэпутата. Ён дзеліцца сваімі ўспамінамі пра той бурны час.**

Мне тады быў 31 год. Я быў простым хлопцам з Магілёўшчыны, паспеў скончыць Магілёўскі політэхнічны тэхнікум і адслужыць два гады ў ракетных войсках стратэгічнага прызначэння. А пасля працаваў брыгадзірам наладчыкаў станкоў на Гомельскім радыёзаводзе, які ў той час працаваў на патрэбы абароны.

Абралі мяне брыгадзірам па волі калектыву, якая ва ўмовах перабудовы ўжо пачынала быць больш важнай, чым жаданне начальства. Нешта мяняць

**Перабудова, галоснасць, паскарэнне**
ключавыя напрамкі курсу рэформаў у СССР, ініцыяванага генеральным сакратаром ЦК КПСС Міхаілам Гарбачовым.

Неабходнасць **паскарэння** ў эканоміцы дыктавалася застоем і нарастаннем тэхналагічнага адставання ад краін Захаду. Па сутнасці, лозунг пра паскарэнне быў прызнаннем гэтага адставання і меў на мэце мадэрнізацыю, хоць меры па яе правядзенні прымаліся, як было заўсёды і раней, выключна адміністрацыйныя.

Асноўнай мэтай **галоснасці** было звярнуць увагу на недахопы гаспадарчай сістэмы, але практычна адразу ж лозунг сарваў літаральна ўсе інфармацыйныя табу: сталі гучна гаварыць і пра палітычныя злачынствы, і пра экалагічныя катастрофы, і пра іншыя вострыя праблемы, якія раней замоўчваліся.

**Перабудова** была афіцыйна абвешчана новым дзяржаўным курсам 27 студзеня 1987 года. Гэта была кардынальная рэформа — не толькі гаспадарчая, але ўсёй сістэмы, у тым ліку палітычнай.

на прадпрыемстве мы пачалі з увядзення справядлівасці ў размеркаванні прэмій і сацыяльных даброт: кватэр, аўтамабіляў, пуцёвак на адпачынак і падобнага. Гэта здавалася важным і актуальным.

У другой палове 1980-х гадоў разам з лозунгамі абранага ў сакавіку 1985-га генеральным сакратаром ЦК КПСС Міхаіла Гарбачова пра паскарэнне, галоснасць і перабудову ў жыццё заводскіх калектываў усяго Савецкага Саюза прыйшла карпаратыўная дэмакратыя. Прыняты ў 1987 годзе закон «Аб дзяржаўным прадпрыемстве» ўзмацніў самакіраванне: раней фактычна бяспраўныя рабочыя пачалі ўплываць на эканамічныя рашэнні і прызначэнне кіраўнікоў.

«Рабочае самакіраванне» югаслаўскага ўзору пры Брэжневе лічылася небяспечным «рэвізіянізмам». А Гарбачоў паспрабаваў увесці яго элементы для ціску знізу на наменклатуру, якая супраціўлялася яго спробам рэфармаваць сістэму, што пагражала абваліцца ў кожны момант. Вярхі, Гарбачоў тое бачылі, нізы, наменклатура ў рэгіёнах поўнай карціны не мелі.

Зрэшты, каб аб'ектыўна ацаніць тагачасныя дасягненні і перспектывы СССР, не трэба было разбірацца ў такіх нюансах, як узровень інфляцыі ці эфектыўнасць вытворчасці. Дастаткова згадаць пра адно: хоць Гомель ніколі не быў захалусцем, а Беларусь лічылася адной з самых паспяховых і заможных рэспублік Саюза, каўбасу са смакам заляжалага сала можна было ў горадзе набыць толькі ў крамах кааператыўнага гандлю па падвоеных цэнах, мяса ў крамах з'яўлялася час ад часу, а каб купіць тэлевізар ці аўтамабіль, трэба было чакаць гадамі.

Увогуле, запыт на рэформы сістэмы тады быў відавочны, ледзь не ўсеагульны, хоць, як засведчыў час, розныя людзі разумелі пад неабходнымі пераменамі нешта сваё. І не заўсёды гэтае сваё адпавядала чаканням іншых людзей.

### Чэргі па газеты

Акрамя попыту на спажывецкія тавары, якіх усім не хапала, існавала тады і неймаверная прага да праўдзівай інфармацыі. Паколькі інтэрнэту яшчэ не было, асноўныя навіны людзі даведваліся праз тэлебачанне, радыё і газеты. Накладаў папулярных выданняў, рэдакцыі якіх актыўна ўключыліся ў працэс перабудовы — «Крыніца», «Аргументы и факты», «Літаратура і мастацтва», «Московские новости», «Огонёк», «Знамя юности», — не хапала. Каб на іх падпісацца, цягнулі жэрабя, каля газетных шапікаў стаялі чэргі, а здабытымі газетамі і часопісамі абменьваліся паміж сабой. Такая сітуацыя ўзнікала з-за савецкай зарэгуляванасці ўсяго, што можна: нават наклады выданняў вызначаліся не рэальным попытам на іх, а партыйнымі пастановамі.

Пісьменнік Алесь Адамовіч, навуковец Іван Нікітчанка і іншыя пісалі пра катастрофу ►




**Адзін з дэмакратычных мітынгаў часоў перабудовы** на плошчы Леніна (цяпер Незалежнасці) у Мінску.

З АРХІВА АЎТАРА

на Чарнобыльскай АЭС, якая адбылася ў 1986 годзе. Гэта была вялізная бяда для Беларусі і Украіны. Але і ў іншых рэгіёнах Савецкага Саюза былі свае «чарнобылі»: перасыхала Аральскае мора, знікалі малыя народы, іскрылі міжэтнічныя і міжрэлігійныя канфлікты.

Беларуская партнаменклатура адзначалася вялікай кансерватыўнасцю, ад галоснасці яна актыўна адбівалася. І часта з-за неразумення і неўспрымання новых павеваў трапляла ў недарэчныя сітуацыі. Незадаволенасць народа расла, а ў газеце «Правда» тым часам выйшаў хвалебны артыкул у падтрымку першага сакратара Гомельскага абкама партыі Аляксея Камая. У ім распісваліся казачныя сацыяльна-эканамічныя дасягненні рэгіёна




**Передвыбарчы мітынг у Гомелі.** Каля мікрафона — Юрый Воронежцаў і Віктар Карняенка. У цэнтры — старшыня Гомельскага гарвыканкама Анатоль Казлоўскі. Крайні злева, з паперкай у руках — будучы заснавальнік Беларускай партыі «Зялёныя» Алег Грамыка.

пад яго кіраўніцтвам, геройская ліквідацыя наступстваў Чарнобыльскай катастрофы. Артыкул толькі падліў смалы ў агонь, бо напісанае ў ім мела мала дачынення да рэчаіснасці.

## Яшчэ ў 1989-м Масква была выдатна забяспечаная прадуктамі. Літаральна праз год гэта рэзка зменіцца

Тое ж і з гучнай справай Курапатаў. Стварэнне афіцыйнай урадавай камісіі нагадвала спробу перахапіць ініцыятыву і адвесці расследаванне ўбок ад праўды. Але грамадскасць і прэса ўжо пільна кантралявалі сітуацыю — і пракуратура БССР вымушана была прызнаць факты рэпрэсій нашых грамадзян у 1930-я гады менавіта з боку сталінскага НКВД. У 1990 годзе тагачасны пракурор БССР Георгій Тарнаўскі нават стаў адным з аўтараў кнігі «Куропаты: следствие продолжается».




**Аральскае мора — былое бяссцёкавае возера на мяжы Казахстана і Узбекістана**, некалі чацвёртае па велічыні ў свеце. Праз выкарыстанне для арашэння водаў рэк, што сілкавалі яго, у 1989 годзе возера распалася на два вадаёмы. Да нашага часу паўднёвая частка мора высахла, паўночную яшчэ намагаюцца ўратаваць. Праблема перасыхання Аральскага мора паднятая ў знятым у 1988 годзе культавым фільме казахстанскага рэжысёра Рашыда Нугманава «Ігла» з удзелам у якасці выканаўцы адной з галоўных роляў спевака Віктара Цоя.

### Дэмарш Ельцына

21 кастрычніка 1987 года першы сакратар Маскоўскага гаркама партыі Барыс Ельцын выступіў на пленуме Камуністычнай партыі з крытыкай кіраўніцтва краіны: перабудова ідзе занадта павольна, партыйная ўлада застаецца ў руках аднаго чалавека, якога неапраўдана ўсхваляюць. За гэтую прамову Ельцына вызвалілі ад партыйных пасад і перавялі на гаспадарчую работу.

У ранейшыя часы гэта азначала б фактычна канец кар'еры, але для Ельцына тая часовая апала стала, наадварот, магутным кар'ерным трамплінам. Набыўшы народную папулярнасць, Ельцын у маі 1990 года стаў старшынёй Вярхоўнага Савета РСФСР, а ў ліпені 1991-га трыумфальна перамог на першых дэмакратычных выбарах прэзідэнта Расіі.

**З'езд народных дэпутатаў СССР** найвышэйшы орган дзяржаўнай улады ў СССР у 1988–1991 гадах. У яго кампетэнцыі было прыняцце Канстытуцыі і ўнясенне ў яе зменаў, вызначэнне асноўных кірункаў развіцця краіны, абранне Вярхоўнага Савета СССР і найвышэйшых службовых асоб.

Да 1989 года выбары ў Вярхоўны Савет СССР праводзіліся ўсеагульным, роўным і прамым галасаваннем насельніцтва, аднак у бюлетэні стаяла толькі адно прозвішча — выбары былі безальтэрнатыўнымі. Курс на палітычную рэформу быў абвешчаны Міхаілам Гарбачовым улетку 1988 года, а закон, паводле якога з'явілася магчымасць выбіраць з некалькіх кандыдатаў, быў прыняты ў снежні 1988-га.

Першыя выбары народных дэпутатаў адбыліся 26 сакавіка — 21 мая 1989 года. Выбарчая сістэма была прадуманая так, каб улады ў любым разе атрымалі большасць.

Абіраліся 2250 чалавек: 750 — ад грамадскіх аб'яднанняў (кампартыя, камсамол, прафсаюзы і г.д.), 750 — ад тэрытарыяльных і 750 — ад нацыянальна-тэрытарыяльных акруг.


**Віктар Карняенка** на адной з перадвыбарчых сустрэч.

З АРХІВА АЎТАРА

## Гульня па-новаму

Між тым дэмакратычныя працэсы ў СССР няўхільна развіваліся, і зусім ігнараваць іх ніхто ўжо не мог. У лістападзе 1988-га мяне запрасілі да дырэктара завода, у ягоным кабінеце былі таксама сакратар парткама і старшыня прафкама. Для гульні ў дэмакратыю ім быў патрэбен для выстаўлення на выбарах народных дэпутатаў СССР, якія набліжаліся, кандыдат з рабочых. Я прапанову начальства не прыняў: было загадзя вядома, хто атрымае мандаты на пленуме, а маё вылучэнне планавалася толькі для імітацыі канкурэнцыі.

Але ўжо адчувалася, што правілы змяніліся і можна гуляць па-новаму і самастойна. Таму ў канцы восені 1988 года на Гомельскім радыёзаводзе з'явілася ініцыятыўная група па маім вылучэнні ў народныя дэпутаты СССР. Заснаваная самімі рабочымі, без узгаднення з начальствам.

## Дзякуючы парткамаўцу і прафкамаўцу

Тры канферэнцыі працоўных калектываў, якія вылучылі мяне ў якасці кандыдата, акруговая камісія адну за адной забракавала, дачапіўшыся да фармальных момантаў. Але дзякуючы прынцыповасці і настойлівасці старшыні прафкама і сакратара парткама суседняга прадпрыемства, канструктарскага бюро «Прамень», мяне запрасілі на чацвёртую. І да справы гэтым разам падышлі максімальна сур'ёзна. У фінальны для вылучэння дзень у залу літаральна пад канвоем прывялі старшыню акруговай камісіі. З ім узгаднялі кожнае галасаванне і іншыя працэдуры. Падстаў забракаваць працэдуру і вынікі галасавання пасля таго ▶

больш не было, таму ўрэшце мы вырваліся «за заводскі плот» і выйшлі на шырокі прастор.

У гэты час я пазнаёміўся са сваім будучым калегам і сябрам Юрыем Варонежцавым. Юрыя, кандыдата тэхнічных навук, вылучыў у дэпутаты акадэмічны Інстытут механікі металапалімерных сістэм, які месціўся ў Гомелі. На фільтрацыйным акруговым сходзе мы з паплечнікамі выступілі адзінай камандай — і перамаглі афіцыйных кандыдатаў. А назаўтра пачалася непасрэдна выбарчая кампанія, якая была першай для ўсіх без выключэння. І вялі мы яе без фондаў, падручнікаў і паліттэхнолагаў.

Афіцыйнымі вылучэнцамі па 84-й нацыянальна-тэрытарыяльнай выбарчай акрузе былі намеснік галоўнага доктара абласной бальніцы Станіслаў Здота і дырэктар завода станочных вузлоў Леанід Дзялец. Пасля нашага няпланавага вылучэння акруговая камісія пастанавіла сабраць сход і пакінуць у бюлетэні толькі двух (спадзяваліся, сваіх) кандыдатаў.

Паводле закона, палову дэлегатаў сходу прызначалі кандыдаты, а другую палову набіралі ад працоўных калектываў горада. Мы дамовіліся, што нашы з Юрыем прадстаўнікі будуць галасаваць за нас абодвух. Гэта стварыла на сходзе відавочную атмасферу супрацьстаяння старога з новым. Таемнае галасаванне дало нечаканы і для нас, і для камісіі вынік: у бюлетэнь трапілі Карняенка і Варонежцаў. Так мы з Юрыем часова сталі сапернікамі.

Запыт на перамены тады быў вялікі, але пры першым галасаванні ні ён, ні я не набралі патрэбныя 50% галасоў, таму мелі адбыцца перавыбары. На перавыбарах мы ўлічылі сваю памылку і раздзяліліся, каб не пераходзіць дарогу адзін аднаму: я застаўся ў 84-й нацыянальна-тэрытарыяльнай акрузе, а Юрый перайшоў у 555-ю тэрытарыяльную. Але і стратэгія барацьбы партнаменклатуры з намі памянялася: каб адцягваць галасы, улады навылучалі ў акругах для складання канкурэнцыі як мага больш сапернікаў — у мяне іх было дзевяць, у Юрыя шэсць.

Гэта была самая напружаная і найбольш цікавая ды запамінальная частка кампаніі. Цягам трох месяцаў адбылося больш за 450 сустрэч: у перапоўненых залах, на мітынгах, прыватныя дыялогі. Ад кандыдатаў звычайна патрабавалі выказаць сваё стаўленне да гучных карупцыйных спраў, пракаментаваць антыпартыйны дэмарш Барыса Ельцына, стаўленне да вядомых дысідэнтаў і чыноўнікаў, да адраджэння беларускай

**У процівагу Віктару Карняенку свае кандыдатуры выставілі**

Мікалай Афанасьеў, **генеральны дырэктар** «Гомсельмаша»;
Рыгор Шыцікаў, **начальнік** Гомельскага тралейбуснага ўпраўлення;
Алег Пяскоўскі, **дырэктар** будаўнічага трэста №14;
Леанід Шамяткоў, **рэктар** Гомельскага ўніверсітэта;
Іван Враб'ёў, **начальнік** авіятэхнічнай базы;
Анатоль Юніцкі, **дырэктар** навукова-тэхнічнага цэнтра моладзі «Зорны свет»;
Аляксандр Бухвостаў, **старшыня прафкама** аб'яднання «Гомсельмаш»;
Аляксандр Сасноў, **загадчык кафедры** эканомікі Політэхнічнага інстытута.

Галоўным жа сапернікам, на падтрымку якога быў скіраваны адміністрацыйны рэсурс, быў **першы сакратар** Савецкага райкама Гомеля Валянцін Вялічка, які ў незалежнай Беларусі пайшоў па дыпламатычнай лініі, быў паслом нашай краіны ў Латвіі, Фінляндыі і Украіне, міністрам па справах СНД і першым намеснікам міністра замежных спраў.

З АРХІВА АЎТАРА



Віктар Карняенка: **«Людзі хацелі не адгаворак, а салідарнасці».**

культуры. І людзі хацелі не адгаворак, а салідарнасці з імі: адказы на многія задаваныя пытанні яны ўжо цвёрда сфармавалі для сябе самастойна.

Кампанія набыла такія змест і дынаміку, што перамога была наканаванай. А 7-й раніцы 21 мая 1989 года мы з Юрыем Варонежцавым даведаліся, што перамаглі з вялікім адрывам — і акруговыя выбарчыя камісіі прызналі гэта. А праз некалькі гадзін мы ўжо ляцелі ў Маскву, на першы з'езд народных дэпутатаў СССР.


ФОТА СТАНІСЛАВА ШУШКЕВІЧА

**Вялікі ўплыў на фармаванне мяне як палітыка зрабіў, незаўважна для сябе, Васіль Быкаў.** Аднойчы дэпутаты з Грузіі прапанавалі паглядзець дакументальны фільм пра гвалтоўны разгон мітынгу ў Тбілісі. Выпадкова мы апынуліся побач з Васілём Уладзіміравічам, абменьваліся думкамі, каментавалі ўбачанае. Пасля ён прапанаваў мне наведаць разам з ім беларускую дыяспару ў Маскве. Сустрэча дала зразумець, наколькі для беларускага палітыка важным з'яўляецца нацыянальнае пытанне. Беларуская мова была мне тады не чужая, але прызабытая. Тым разам я ледзь паспеў адрэпеціраваць перад выступленнем у галаве кароткую прамову па-беларуску, але ўсвядоміў: калі хочаш мець палітычную будучыню ў Беларусі, неабходна валодаць беларускай мовай. На фота злева направа: Юрый Варонежцаў, Аляксандр Дабравольскі, Васіль Быкаў. Крайні справа — Віктар Карняенка.

**Адно слова Быкава магло змяніць усім настрой, хоць увогуле Васіль Уладзіміравіч быў негаваркі, больш слухаў**

### І 25 рублёў сутачных

Падчас рэгістрацыі кожны дэпутат атрымаў папку з дакументамі, нумарок з месцам у зале пасяджэння і па 25 рублёў сутачных. Цяпер дэпутаты самастойна аплачвалі пражыванне ў гатэлі і харчаванне.

Пасяліліся мы, як і ўсе іншыя беларусы, у гатэлі «Масква» ў звычайным пакоі на дзве асобы. Ніякай аховы, арганізаванай культурнай праграмы, забеспячэння дэфіцытам не было. Цікавыя і патрэбныя ў дэпутацкай працы выданні мы набывалі самі, за свой кошт і па сваёй ахвоце, нам толькі прапанавалі іх спіс.

Масква, якую я тады ўспрымаў як і сваю сталіцу, у той час была яшчэ досыць добра забяспечаная таварамі і прадуктамі. Але праз год усё рэзка памянялася — і ўжо мы частавалі масквічоў беларускім сырам.

Вялікае ўражанне на мяне зрабілі залы, палаты і палацы Крамля. Гэта не была экскурсія — у Гранавітай палаце, Вялікім Крамлёўскім палацы, Георгіеўскай зале мы працавалі.

У Маскве нас ужо чакалі іншыя дэпутаты дэмакратычных поглядаў, абраныя ў Беларусі. Спачатку такіх было не больш за дзесяць чалавек, сярод якіх малады інжынер Аляксандр Дабравольскі, аўтарытэтны пракурор Мікалай Ігнатовіч і прарэктар БДУ Станіслаў Шушкевіч з Мінска, а таксама Мікалай Бабрыцкі з Бабруйска, Сяргей Габрусеў і Уладзімір Фаменка з Магілёва. Безумоўным аўтарытэтам гэтай невялікай групы быў Васіль Быкаў, абраны ад Саюза пісьменнікаў. Адно яго слова магло змяніць усім настрой, хоць увогуле Васіль Уладзіміравіч быў негаваркі, больш слухаў. ▸

**«Тбіліскія падзеі», або Трагедыя 9 красавіка**

21 чалавек загінуў (па іншых звестках — 19) і больш за 250 пацярпелі ў выніку разгону мітынгу ў Тбілісі перад Домам урада ў ноч на 9 красавіка 1989 года.

### ▸ Збірае першы сакратар

За два дні да з'езда ў адным з памяшканняў гасцініцы «Масква» беларускіх дэпутатаў сабраў першы сакратар ЦК КПБ Яфрэм Сакалоў. Партыйныя босы збіраліся ўзначаліць умоўную беларускую фракцыю. Гэта быў маналог-інструктаж аб тым, як павінны дзейнічаць дэпутаты, паводле меркаванняў ЦК. Але, на шчасце, інструкцыі і даручэнні мне ўжо выдалі выбаршчыкі, а да партыі я не меў дачынення.

Правадыр тагачасных беларускіх камуністаў увогуле падчас той сустрэчы расчараваў як асоба. Усё ж адна справа — зачытаць з трыбуны падрыхтаваную рэферэнтамі прамову, і зусім іншая — імправізацыя. У ёй Сакалоў выглядаў як рыбіна, выцягнутая з вады.

Аднадумцы-дэмакраты з розных рэспублік аб'ядналіся ў Міжрэгіянальную дэпутацкую групу. Яе ядром былі масквічы, сярод якіх — вядомыя па публікацыях у прэсе інтэлектуалы: легендарны акадэмік Андрэй Сахараў, прафесар-гісторык Юрый Афанасьеў, эканаміст Гаўрыіл Папоў, будучы мэр Масквы. Дзякуючы ім я перагледзеў некаторыя свае ранейшыя погляды. Напрыклад, я лічыў, што варта скарачаць касмічныя праграмы, бо галоднай краіне не да космасу. Але Папоў на гэта адказаў, што лепш ліквідаваць усю адсталую аўтавытворчасць, чым закрываць адзіную галіну, дзе мы не толькі канкурэнтаздольныя, але і на вышыні.

### Але на трыбуну нечакана выйшаў Вілен

З першых гадзін працы з'езда стала ясна, што арганізатары планавалі яго як дэкаратыўны орган. Не было нават механізму падліку галасоў — здаецца, лічыць іх і не планавалі, прынамсі, раней у гэтым не было патрэбы: рашэнні прымалі аднагалосна.

Аднак адразу пасля дзяжурнай прамовы старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі на трыбуну нечакана выйшаў дэпутат з Латвіі лекар-рэнтгенолаг Вілен Талпежнікаў. Ён прапанаваў ушанаваць памяць мірных пратэстоўцаў у Тбілісі, што загінулі напярэдадні з'езда, і ўнёс дэпутацкі запыт аб расследаванні гэтых падзей. Прапанову сустрэлі апладысментамі — і стала зразумела, што форум не стане будзённым мерапрыемствам.

Барацьба за ініцыятыву пачалася са спрэчак пра парадак дня. Апазіцыя разумела, што, пакуль яна ў меншасці, не варта ставіць на галасаванне склад Вярхоўнага Савета. Мы прапаноўвалі пачаць з дыскусіі аб палітычнай сітуацыі ў краіне, вызначэння спісу неабходных для развіцця перабудовы законапраектаў і толькі потым, пад акрэсленыя задачы, правесці выбары. Аднак камуністычная большасць пастанавіла спачатку ўсё ж абраць старшыню і сам Вярхоўны Савет. Прапановы прадэмакратычнай «Міжрэгіянальнай дэпутацкай групы» набіралі крыху больш за **400 галасоў з 2250 дэлегатаў з'езда.** Гэтая магічная лічба і надалей адлюстроўвала колькасць маіх аднадумцаў-дэпутатаў пры галасаванні.

З'езд не стаў трыумфальным шэсцем дэмакратыі. Складвалася ўражанне, што ініцыятары перабудовы змагаліся з наступствамі папярэдняй




**Андрэй Сахараў** (1921–1989) — фізік-тэарэтык, акадэмік АН СССР, адзін са стваральнікаў савецкай вадароднай бомбы. Тройчы Герой Сацыялістычнай Працы. З канца 1950-х рэзка разышоўся з савецкай уладай у поглядах, стаў адным з твараў дысідэнцкага руху ў СССР і барацьбітоў за мір і дэмакратыю. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру за 1975 год.
Публічна асудзіў увядзенне савецкіх войскаў у Афганістан, за што быў пазбаўлены ўсіх пасад і званняў і ў студзені 1980-га высланы ў горад Горкі (цяперашні Ніжні Ноўгарад). У 1986-м Сахараву дазволілі вярнуцца ў Маскву з умовай спыніць публічныя выступленні. У 1989 годзе ён стаў дэпутатам З'езда народных дэпутатаў, шматразова браў на ім слова, а ў апошні дзень яго працы, 9 чэрвеня 1989-га, зачытаў праект «дэкрэта аб уладзе», ключавымі пунктамі якога было скасаванне кіроўнай ролі Камуністычнай партыі, абмежаванне паўнамоцтваў КГБ, а таксама выбарнасць найвышэйшых органаў улады. У снежні 1989 года раптоўна памёр.



**«Агрэсіўна-паслухмяная большасць»** — гэтая фраза з выступлення Юрыя Афанасьева 27 мая 1989 года стала крылатай. Пад ёй разумеюць супольнасць асоб, якія праз фармальна дэмакратычныя працэдуры прымаюць рашэнні, прадыктаваныя ўладай.

уласнай актыўнасці, спрабуючы намацаць запаветны рычаг кіравання масамі. Не было ліквідавана двухуладдзе паміж саветамі і КПСС, а эканамічная частка пастановы з'езда была фармальнай.

Разам з тым гістарычную ролю з'езда пераацаніць цяжка. Для будучых палітыкаў і ўсяго грамадства на абшарах былога СССР форум стаў адкрытым урокам дэмакратыі. У маўзалеі на Краснай плошчы ўсё яшчэ ляжаў Ленін, на Доме ўрада вісеў савецкі герб, але з'езд стварыў дэпутацкія камісіі па расследаванні гвалту над **дэманстрантамі ў Тбілісі** і па палітычнай **ацэнцы пакта Молатава – Рыбентропа 1939 года**. Упершыню публічна прагучала крытыка ленінскай сістэмы не таму, што яе, маўляў, сапсавалі Сталін з Брэжневым, а з прычыны заганнасці ад самага пачатку.

А праз два з паловай гады пасля таго першага з'езда на сумесным пасяджэнні дзвюх палат Вярхоўнага Савета СССР менавіта мне даручылі паведаміць, што ў сувязі з дэнансацыяй дамовы аб стварэнні СССР і спыненнем яго існавання народныя дэпутаты СССР, абраныя на тэрыторыі Беларусі, спыняюць паўнамоцтвы ў Вярхоўным Савеце і іншых органах улады СССР. Дэкларатыўны перыяд незалежнасці скончыўся, і Беларусь займела рэальны шанец стаць сапраўды самастойнай суверэннай краінай. Пачыналася новая старонка нашай гісторыі.

**Пакт Молатава — Рыбентропа, або пакт Гітлера — Сталіна** міжурадавае пагадненне пра ненападзенне, падпісанае 23 жніўня 1939 года паміж Германіяй і Савецкім Саюзам. Важнай часткай пакта былі сакрэтныя дадатковыя пратаколы, паводле якіх бакі размежавалі сферы ўплыву ва Усходняй Еўропе на выпадак «тэрытарыяльна-палітычнай перабудовы». Частка Польшчы (па Нараў, Віслу і Сан, разам з Заходняй Беларуссю) дэкларавалася як зона зацікаўленасці СССР.

**Юрый Афанасьеў** (1934–2015) — рэктар Маскоўскага гісторыка-архіўнага інстытута, адзін з лідараў Міжрэгіянальнай дэпутацкай групы. У канцы 1980-х здабыў вялікі аўтарытэт сярод інтэлігенцыі праз публікацыю цыкла артыкулаў з крытыкай становішча ў гістарычнай навуцы.


ФОТА УЛАДЗІМІРА ЗАЎЯЛАВА, TASS.RU

**Гаўрыіл Папоў** (нар. 1936) — доктар эканамічных навук, прафесар Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, адзін з лідараў дэмакратычнага руху ў СССР. У 1991–1992 гадах быў першым дэмакратычна абраным мэрам Масквы.


RIA.RU

### Разумны шукае сяброў

Пасля вяртання са з'езда я вырашыў, што важкі мандат трэба выкарыстоўваць і на развіццё дэмакратыі ў сваім родным горадзе.

У чэрвені 1989 года мы стварылі пляцоўку для сустрэчы выбаршчыкаў з кандыдатамі — Гомельскі клуб выбаршчыкаў. Штотыднёвыя пасяджэнні ў Політэхнічным інстытуце збіралі сотні людзей. Стратэгічнай задачай было падрыхтавацца да выбараў у Вярхоўны Савет БССР і гарадскі савет. У Вярхоўны Савет я балатавацца не стаў, але атрымаў мандат дэпутата гарадскога савета. Тым разам, дзякуючы нашай папярэдняй сістэмнай працы, апазіцыя атрымала ў Гомельскім гарсавеце большасць. Падобных прыкладаў у Беларусі больш не было.

Ледзь толькі я стаў дэпутатам, адразу зразумеў, як мала значу без каманды. Як ні дзіўна, тады самыя розныя людзі і па сацыяльным становішчы, і па прафесіі станавіліся аднадумцамі. У 1990 годзе падчас выбараў у Вярхоўны Савет БССР нечакана вызначыўся прынцыповасцю палкоўнік міліцыі Ігар Пырх, і мы ніколі не пашкадавалі, што падтрымалі яго. Недарэмна кажуць: разумны шукае сяброў, а дурань стварае ворагаў. Гэта была, магчыма, галоўная мая выснова з таго кароткага «паходу» ў саюзныя дэпутаты. ◆

**Выбары ў Вярхоўны Савет БССР** адбыліся 4 сакавіка 1990 года, адначасова з выбарамі ў мясцовыя саветы. Гэта былі першыя ў Беларусі выбары з магчымасцю выбіраць з некалькіх кандыдатаў. Да 1990 года Вярхоўны Савет БССР, як і СССР, «выбіраўся» на безальтэрнатыўным галасаванні.

**Многія едуць у Афрыку ў пошуках сэксу без абавязкаў. Але востраў Занзібар — гэта яшчэ і найчысцейшы акіян, родны дом Фрэдзі Мэрк'юры, перапляценне афрыканскай і арабскай спадчыны і магчымасць адключыцца ад кавіднага зімовага беларускага холаду. Толькі турыстам тут трэба быць пільнымі, піша Зміцер Каспяровіч.**

У час пандэміі ўсходнеафрыканская дзяржава Танзанія з'яўляецца адной з нешматлікіх краін, куды для беларусаў адкрыты ўезд. Самым танным спосабам наведаць архіпелаг Занзібар, што ўваходзіць у яе склад, аказаўся турпакет з Кіева: 1000 долараў на чалавека з пражываннем у чатырохзоркавым гатэлі і віза за 50 долараў проста ў аэрапорце. У рэальнасці, праўда, гатэль не дацягваў да дзвюх зорак, а па прылёце давялося даплаціць яшчэ 50 долараў зверху, каб не згубіць тры гадзіны ў чэргах на мытню і да памежнікаў. У Афрыцы так часта бывае.

## Без праблем

Пасля дыснэеўскага мультфільма «Кароль Леў» 1994 года фраза «Акуна матата!» (літаральна «Ніякіх праблем!», «Не бяды!») стала брэндам, які прадае. Ужо ў аэрапорце Занзібара ёй сустракаюць турыстаў, і надалей вы будзеце чуць яе без перапынку — разам з прапановамі купіць экскурсію, сувенір або марыхуану.

Афіцыйная мова Занзібара — суахілі. Таксама тут гавораць на іншых мовах банту і варыянтах арабскай мовы, і ўсюды разумеюць англійскую. Але менавіта гэты выраз на суахілі ўвасабляе мясцовую філасофію жыцця. ▶

# Занзібар

архіпелаг з 75 астравоў у Індыйскім акіяне, каля ўсходняга ўзбярэжжа Афрыкі. Агульная яго плошча — 2654 км², што прыблізна роўна плошчы буйнога беларускага раёна, накшталт Лунінецкага ці Рэчыцкага.

У 1964 годзе Занзібар аб'яднаўся з Танганьікай у супольную дзяржаву, назву якой склалі з дзвюх: Танзанія. Большая частка архіпелага складае аўтаномію ў складзе Танзаніі з уласнымі парламентам, прэзідэнтам, сцягам і сталіцай у аднайменным горадзе Занзібар.

Аб'яднанне ў адну дзяржаву суправаджалася фізічным вынішчэннем арабскай меншасці (каля 17% насельніцтва), якая стагоддзямі валадарыла на Занзібары і прыгнятала чорную большасць.

З 1890 па 1964 год Султанат Занзібар быў пад брытанскім пратэктаратам. Калі брытанцы сыходзілі, то перадалі ўсю ўладу мясцоваму арабскаму султану. У крывавым паўстанні 1964 года загінула, паводле некаторых ацэнак, да 20 000 чалавек. Адным з еўрапейскіх сведкаў таго паўстання быў вядомы польскі журналіст-падарожнік Рышард Капусцінскі, выхадзец з нашага Пінска. Ягоны цікавы нарыс пра тыя падзеі пад назвай «Занзібар» сёння можна прачытаць і па-беларуску ў кнізе **«Чорнае дрэва. Афрыканская ліхаманка»**, выдадзенай у 2016 годзе ў выдавецтве «Логвінаў».



«Акуна матата» — гэта адначасова і «Рады вітаць», і «Без праблем», і «Не парся», і «Мне ўсё адно», і «Ды не дуры сабе галавы». «Не працуе душ? Акуна матата, дружа!» Гэта частка мясцовай культуры: не зважаць на праблемы і, адпаведна, не вырашаць іх.

Любы турыст для мясцовых жыхароў — гэта «мзунгу», што значыць «замежнік, нетутэйшы», а таксама «чужынец, у якога шмат лішніх грошай». Таму цэны для турыстаў тут будуць у тры-пяць разоў большыя, чым для сваіх. Нажывацца на турыстах — звычайны для ўсёй Афрыкі спосаб зарабіць.

## Каменны горад

Каменны горад — старая частка сталіцы Занзібара. Гэта архітэктурная пярліна архіпелага, яна знаходзіцца ў спісе аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны ЮНЕСКА. Арабскія кварталы заварожваюць сваёй аўтэнтычнасцю. Дзясяткі мячэцяў, каталіцкія і пратэстанцкія храмы, Стары порт, палац султанаў — гэта толькі невялікая частка аб'ектаў, якія варта тут паглядзець. Перасоўвацца па вузкіх вулачках можна толькі пешшу.







**Аўтар гэтага артыкула Зміцер Каспяровіч** з мясцовым жыхаром на фоне баабаба ў нацыянальным парку Мікумі ў кантынентальнай Танзаніі.

Раз-пораз сустракаюцца знакамітыя занзібарскія дзверы з шыпамі на ўваходах у дамы. Кожныя дзверы — прадмет мастацтва. Калісь шыпы служылі для абароны жытла ад сланоў, якіх цяпер на архіпелагу, на жаль, не засталося.

У цэнтры Каменнага горада і на прылеглых да яго вуліцах — рынак, дзе прадаюць садавіну і гародніну. Экзатычныя для нас рамбутаны, маракую, дурыяны ды іншае тут можна купіць літаральна за капейкі.

Яшчэ нядаўна турыстычнай адметнасцю быў Дом цудаў

Песня *Hakuna Matata* са знакамітага мультфільма «Кароль Леў» атрымала прэмію «Оскар». Мелодыю да яе напісаў Элтан Джон.



Старэйшае пакаленне памятае песню *Jambo — Hakuna Matata* заходнегерманскага гурта *Boney M*, дазволенага ў Савецкім Саюзе.



Свая песня «Акуна матата» была і ў мазамбікскага спевака Афрыка Сімона, які пераехаў на жыхарства ў Германскую Дэмакратычную Рэспубліку і быў папулярны ў рэспубліках СССР. Афрык Сімон спяваў на суахілі з устаўкай слоў з іншых моў. У выніку выходзіў запальны мікс традыцыйнай афрыканскай музыкі і еўрапейскага *Happy Sound*.



Па спасылцы — музыка Занзібара і кантынентальнай Усходняй Афрыкі.






**У Каменным горадзе** сталіцы Занзібара.

**Масаі** прадаюць на пляжах усялякія афрыканскія сувеніры.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY OLEGDOROSHENKO

**Фрэдзі Мэрк’юры**

DEPOSITPHOTOS.COM, BY BUIJSERSTRAAT38

На Занзібары ў 1946 годзе нарадзіўся слынны саліст гурта *Queen* Фрэдзі Мэрк’юры. Яго сапраўднае імя было Фарух Булсара, ён нарадзіўся ў іранска-індыйскай сям’і. У ягоным доме ў Каменным горадзе цяпер знаходзіцца музей спевака, а каля дома ў дзённы час заўсёды таўкуцца дзясяткі турыстаў.

Фарух Булсара ўцёк з Занзібара ў Брытанію разам з сям’ёй у 1964 годзе, падчас рэвалюцыі. Турыстычны культ Мэрк’юры на Занзібары неяк спалучаецца з татальнай нецярпімасцю да геяў — аднаполыя адносіны тут лічацца злачынствам і караюцца аж да пажыццёвага зняволення.

(Бейт-аль-Хукум): палац, пабудаваны ў 1883 годзе для другога султана Занзібара як парадны. Домам цудаў яго назвалі праз тое, што гэта быў першы будынак на Занзібары, у якім была электрычнасць, і першы ва Усходняй Афрыцы, у якім быў ліфт. У пачатку 2000-х у будынку зрабілі Музей культуры суахілі, але 25 снежня 2020 года ён часткова разбурыўся. Ідзе рэканструкцыя.




DEPOSITPHOTOS.COM, BY STYLEPICS

**Насельніцтва Занзібара** каля 1,5 мільёна чалавек (у сталіцы, горадзе Занзібар, у 2002 годзе жыло 205 000, гэта прыкладна як у Баранавічах). Этнічна гэта вельмі розныя людзі, але пераважна афрыканцы. Пастаяннага белага насельніцтва на архіпелагу амаль няма, белыя — толькі супрацоўнікі турыстычных кампаній.

### Жывы тавар

Рынак рабоў — раён Каменнага горада, з якім звязана самая ганебная частка гісторыі Занзібара. Ад часоў позняга Сярэднявечча да 1873 года (год адмены рабства) востраў быў ▶



**Дом цудаў**, фота 1907 года.

WIKIMEDIA COMMONS

асноўнай перавалачнай базай гандлю рабамі для ўсёй Усходняй Афрыкі. Сотні тысяч рабоў прайшлі праз невыносныя пакуты ў чаканні адпраўкі ў розныя часткі свету.

У пачатку II тысячагоддзя нашай эры Занзібар быў зручнай, абароненай гаванню для гандлю спецыямі ды слановай косткай і расцвіў менавіта як порт. У 1503–1504 гады ён стаў часткай Партугальскай імперыі, і гэта партугальцы ў сярэдзіне XVII стагоддзя распачалі тут надзвычай прыбытковы гандаль рабамі. У 1698 годзе Занзібар трапіў пад кантроль арабскага султана Амана. І наступныя два стагоддзі транзіт жывога тавару праз Каменны горад толькі рос.

Праз год пасля адмены рабства брытанцамі на плошчы Рынку рабоў пачалі будаваць вялікі англіканскі сабор. Цяпер побач з саборам знаходзіцца манумент: у квадратнай яме ў поўны рост стаяць пяць фігур закаваных у ланцугі рабоў.

**Дала-дала** — транспарт, якім карыстаюцца мясцовыя жыхары. Як наша маршрутка, толькі без вокнаў і дзвярэй. У такі «аўтобус» улазіць людзей удвая больш, чым можна чакаць.



DEPOSITPHOTOS.COM, BY RICHTPHOTO

## Джуліус Ньерэрэ

Першым кіраўніком Танзаніі быў Джуліус Ньерэрэ (*Jiulius Nyerere*). Яго тут шануюць як бацьку нацыі, хоць не ўсе з гэтым згодныя.

У параўнанні з многімі іншымі афрыканскімі кіраўнікамі, Ньерэрэ не быў жорсткім дыктатарам і не вылучаўся ні эксцэнтрычнасцю, ні клептаманіяй Мабуту Сэсэ Сэка (Заір), Жана Бедэля Бакасы (Цэнтральнаафрыканская Рэспубліка) ці Ідзі Аміна (Уганда). Жыў сціпла і паслядоўна рэалізоўваў свае ідэі. Танзанія — адна з нешматлікіх краін Афрыкі, дзе дзяржаўная мова — суахілі, а не каланіяльная.



DEPOSITPHOTOS.COM, BY KUCHERANDREY

**Экзатычная садавіна** тут каштуе капейкі.



DEPOSITPHOTOS.COM, BY OLEGDOROSHENKO

**На нагах тут носяць самаробныя сандалі, змайстраваныя на падэшвах з аўтамабільных шын.** І тыповыя яркія бранзалеты.


**Дом цудаў**, фота 1 студзеня 2021 года.

WIKIMEDIA COMMONS

Сфарміраваны пад уплывам заходніх левых ідэй, Ньерэрэ спрабаваў пабудаваць у Танзаніі сацыялізм з афрыканскім абліччам. У Ньерэрэ спалучаўся і сацыяліст, марксіст, і афрыканскі нацыяналіст. Ён трымаў дыстанцыю ад СССР і балансаваў між Кітаем і левымі еўрапейскімі ды амерыканскімі лідарамі. Многія з яго эканамічных ідэй, напрыклад калектывізацыя і ўзбуйненне вёсак, не спрацавалі. А вось развіццё адукацыі і аховы здароўя, наадварот, мелі пазітыўны ўплыў на развіццё краіны. ▸

## На Занзібары адбылася самая кароткая вайна ў свеце. Брытанцы разбілі Занзібар за 38 хвілін

Вялася яна паміж Вялікабрытаніяй і Султанатам. Пасля смерці султана Хамада ібн Тувайні, які цесна супрацоўнічаў з брытанцамі, уладу ў краіне захапіў яго стрыечны брат Халід ібн Барган, якога падтрымлівалі немцы. 27 жніўня 1896 года англійскі каралеўскі флот разбурыў султанаў палац Бейт-аль-Хукум — і праз 38 хвілін было абвешчана перамір'е.

У выніку абстрэлу загінула 570 чалавек з занзібарскага боку, з боку англічан быў адзін паранены.

Мяцежны султан Халід схаваўся ў германскай амбасадзе, адкуль яго праз нейкі час эвакуявалі на шлюпцы, якую нямецкія матросы неслі на сваіх плячах ад амбасады да карабля *Seeadler*.

Паводле тагачасных законаў шлюпка з'яўлялася часткаю карабля і была экстэрытарыяльнай, дзе б ні знаходзілася. Таму фармальна султан увесь час знаходзіўся на германскай тэрыторыі.

Ад позняга Сярэднявечча да 1873 года востраў быў перавалачнай базай гандлю рабамі для ўсёй Усходняй Афрыкі. Сотні тысяч людзей прайшлі тут праз невыносныя пакуты. Праз год пасля адмены рабства брытанцамі на плошчы Рынку рабоў пачалі будаваць вялікі англіканскі сабор. **Цяпер побач з саборам знаходзіцца манумент: у квадратнай яме ў поўны рост стаяць пяць постацяў.**

DEPOSITPHOTOS.COM, BY GIUSEPPEMASCI.ME.COM

«Вы не можаце развіць людзей. Але вы абавязаныя дазволіць людзям развівацца», — любіў паўтараць Ньерэрэ, які шмат пісаў і перакладаў, у тым ліку Уільяма Шэкспіра, на суахілі. Ён быў самабытным марксісцкім філосафам, ягоная тэорыя называецца «Уджамаа», што перакладаецца як «сямейнасць» — такі «афрыканскі шлях развіцця сацыялізму абшчыннага тыпу»

Ньерэрэ кіраваў краінай з 1961 да 1985 года, пасля чаго ў 63 гады перадаў уладу пераемніку, аднапартыйцу Алі Хасану Мвіны — не так і часта такое здараецца ў краінах трэцяга свету. Пражыў ён у адстаўцы — на радзіме — да 1999 года. Яго шануюць як *Mwalimu* — на суахілі гэта значыць «настаўнік». А прэзідэнты Танзаніі пасля таго, дарэчы, хоць заўсёды і належаць да адной, заснаванай Ньерэрэ ў 1977 годзе партыі Чама Ча Мапіндузі (Рэвалюцыйная партыя), рэгулярна мяняюцца, адбыўшы пры ўладзе два прадугледжаныя Канстытуцыяй тэрміны. Цяперашні лідар Джон Магуфулі, які кіруе з лістапада 2015 года, для Танзаніі ўжо пяты прэзідэнт.

**Спіс краін па ВУП**
на душу насельніцтва.



У цэлым сацыялістычная Танзанія не перажыла эканамічнага цуду. З чым, праўда, параўноўваць у Афрыцы? Напэўна, аб'ектыўна можна — з суседняй Кеніяй, якая рабіла стаўку на капіталізм і сувязі з ЗША і Брытаніяй. На сённяшні Кенія прыкладна ўдвая абганяе Танзанію па сваім эканамічным узроўні. З другога боку, марксісцкі эксперымент суседняга Мазамбіка, які выбраў арыентацыю на СССР, прывёў да грамадзянскай вайны. Сёння Мазамбік удвая бяднейшы за Танзанію.

Нягледзячы на пачатак здабычы газу на шэльфе і яго гіганцкія запасы, Танзанія пакуль што яго не экспартуе, а ўвесь выкарыстоўвае на ўласныя патрэбы для выпрацоўкі электрычнасці. У той жа час на экспарт ідуць золата і многія прамысловыя тавары, а таксама тытунь, рыба, кава, арэхі кеш'ю і прыправы.


DEPOSITPHOTOS.COM, BY KJORGEN


З АРХІВА АЎТАРА

**Палёт на самалёце ў нацыянальны парк Мукумі** каштаваў мне 350 долараў.

## Самалётам на сафары

У аўтаномію Занзібар уваходзяць два буйныя астравы: Пемба і Унгуджа (Занзібар), а таксама шматлікія ненаселеныя выспы. Трэці населены востраў (Мафія) і рэшта архіпелага Занзібар уваходзяць у склад Аб'яднанай Рэспублікі Танзанія непасрэдна. У кантынентальнай частцы Танзаніі размешчаныя такія геаграфічныя выбітнасці, як найвышэйшая гара Афрыкі —


DEPOSITPHOTOS.COM, BY DAVEPRIMOV

**Рэальны жыраф каля самай дарогі.**

вулкан Кіліманджара — і азёры Вікторыя і Танганьіка.

У раёне Старога порта можна арандаваць лодачку і дабрацца на ёй да *Prison Island*, выспы, на якой была пабудаваная турма, якая ніколі не выкарыстоўвалася паводле прызначэння. Выспа вядомая папуляцыяй сейшэльскіх гіганцкіх чарапах, узрост некаторых перавышае 150 гадоў, а памер панцыра — больш за 1,5 метра ў дыяметры.

Яркім уражаннем для мяне было падарожжа на сафары з Занзібара ў кантынентальную Танзанію. Самы танны варыянт, які я знайшоў, — аднадзённы самалётны тур у нацыянальны парк Мікумі (350 долараў). Выгодна, што самалёт прызямляецца адразу ў парку і застаецца больш часу на агляд жывёл у жывой прыродзе.

Мне ўдалося пабачыць ільвоў, жырафаў, сланоў, гіпапатамаў, кракадзілаў, барадавачнікаў, зебраў.

## Васьміногі і лобстары

Кошт вячэры без алкаголю на адну асобу ў самай просценькай кавярні пачнецца ад 10 долараў. Затое напоі можна прыносіць з сабой (звычайна гэта каньягі — джын мясцовай вытворчасці, 4 долары за паўлітра).

У меню вы знойдзеце па адной-дзве стравы з курыцы і ялавічыны, астатняе — гэта морапрадукты. Вось стандартны спіс амаль любой рэстарацыі: васьміног смажаны, васьміног на грылі, васьміног у какосавым малацэ, кальмары смажаныя і на грылі, лобстары, крэветкі. Таксама розная рыба: баракуда, дарада, акула, тунец. Усё гэта з бульбай фры альбо з рысам.

Васьмінога варта пакаштаваць: гэта вельмі смачна.

## Небяспечныя вожыкі

Турысты прыязджаюць на Занзібар у першую чаргу дзеля чысцюткага акіяна, беласнежных пляжаў і цёплага надвор'я. Рай на зямлі — так можна ахарактарызаваць гэтае месца на карце свету. З папраўкай: не ў залеўны сезон.

Самае небяспечнае — захварэць на малярыю, і ў сезон залеў на тое найболей шанцаў. Вакцыны ад яе няма. Менавіта таму турысты спяць пад балдахінамі з сетак — нават у сухі перыяд, калі маскітаў вобмаль. ▶

Зялёная чарапаха ў празрыстай вадзе.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY KJORGEN

Архіпелаг Занзібар таксама называюць астравамі спецый: тут вырошчваюць **мускатны арэх (на фота)**, карыцу, гваздзік і чорны перац.



DEPOSITPHOTOS.COM, BY MBRUSKA

DEPOSITPHOTOS.COM, BY SHALAMOV

Час у Занзібары супадае з беларускім. Джэтлагу не будзе.

▶ Іншая небяспека для светласкурага турыста на Занзібары — сонца. Архіпелаг знаходзіцца ў паўднёвым паўшар'і, даволі блізка да экватара. Крэмам трэба карыстацца абавязкова, SPF 50 і вышэй. А лепш — хавацца пад парасонам: за грошы яго паставяць там, дзе вам зручна.

Яшчэ адна небяспека — марскія вожыкі. Наступіць на такога падчас адліву вельмі проста, а вось каб выняць яго калючкі, папамучыцеся. Яд марскога вожыка не смяротны, але можа выклікаць алергію і анафілактычны шок, а калі іголкі з завусеніцамі засядуць глыбока, давядзецца ісці да афрыканскага хірурга.

## Ёсць дах, але няма вокнаў

Турызм — асноўная крыніца даходаў для аўтаноміі, і дзякуючы гэтаму начныя клубы для турыстаў тут — бяспечнае месца.

Начны клуб на Занзібары ўяўляе сабой будынак на па́лях на беразе акіяна. Такая тыповая мясцовая архітэктура: у будынка ёсць дах, але няма вокнаў. Удзень ён можа выкарыстоўвацца як рэстарацыя.

Уваход для белага чалавека каля 5 долараў у эквіваленце. На барнай стойцы можна купляць



DEPOSITPHOTOS.COM, BY OLEGDOROSHENKO

**Смажаныя шчупальцы васьмінога з рысам.** Да рыбы і прадуктаў мора тут падаюць кавалак лайма.


DEPOSITPHOTOS.COM, BY OLEGDOROSHENKO

**Еўрапейскія жанчыны з афрыканцамі,** апранутымі пад масаяў.

выпіўку, вельмі нятанную (40 мл рому — 3 долары, карктэйль — 6–8 долараў). Іграе жывая музыка (барабаны), якая мяняецца на звычайную клубную.

Мясцовыя жыхары зусім не супраць знаёмстваў з турыстамі. Парачкі — звычайная карціна: белы мужчына каля 50 гадоў у суправаджэнні 20—25-гадовай мясцовай жыхаркі альбо белая жанчына за 40 з маладым «масайчыкам». Сапраўдных масаі, праўда, на Занзібары няма: гэта качавое племя ў Кеніі і Танзаніі. У іх славутую чырвоную вопратку тут убіраюцца ахоўнікі і проста маладзёны: мабыць, яна добра «прадае».

## Жыццё з пляжа

Занзібар — гэта краіна трэцяга свету. Сярэдні заробак чалавека, які працуе «ў полі», каля 30 долараў на месяц — кошт аднаго абеду для дваіх турыстаў без алкаголю.

Занзібарцы жывуць у мураваных аднапавярховых дамах без выгод, могуць спаць проста на падлозе. Увечары мясцовыя альбо ідуць у мячэць, альбо збіраюцца на тэлевізар: нярэдка — адзін на вёску. Яго выстаўляюць на вуліцу і ставяць перад ім крэслы.

Што новага для тых, хто звык да Чорнага і Балтыйскага мораў, — гэта моцныя прылівы і адлівы. Турыста адліў можа паставіць у нязручнае становішча, калі ўвечары ты ідзеш у начны клуб па беразе акіяна, а вяртацца мусіш па пояс у вадзе.

У той жа час прылівы і адлівы — крыніца даходаў для тутэйшых. Уздоўж берагоў архіпелага створаныя цэлыя фермы: проста ў пясок, нацягнуўшы вяроўку між дзвюма палкамі, жанчыны высаджваюць каштоўныя водарасці, багатыя на натуральныя загушчальнікі — агар-агар і карагінаны.

У час адліву можна хадзіць па дне акіяна і назіраць за жыццём розных марскіх стварэнняў: напрыклад, марскіх зорак, якіх свабодна можна браць у рукі. А пакуль вы ў час адліву разглядаеце марскія стварэнні, мясцовыя на пляжах працуюць: збіраюць акіянскіх рачкоў і васьміногаў — магчыма, вам жа на вячэру. ◆

### Беларускі *Zanzibar*

У аматараў сучаснай беларускай культуры слова «Занзібар» асацыюецца не толькі з далёкай Афрыкай. Такую назву мае айчынны музычны гурт, заснаваны ў 2016 годзе. Гурт выкарыстоўвае змяшэнне розных альтэрнатыўных стыляў (панк-рок, рэп, поп-рок) з сучаснымі тэндэнцыямі гучання электроннай музыкі. Два гады таму ён выдаў альбом пад назвай «Таксікоз».




WIKIMEDIA COMMONS

**Жанчыны збіраюць ураджай водарасцяў.**

Аер — лекі, ежа для беднякоў і

# ТАТАРСКАЕ ЗЕЛЛЕ

**Пра водную траву, якую некалі нібыта завезлі да нас усходнія заваёўнікі і якой мы пасля шчодра падзяліліся з Еўропай і Амерыкай, піша доктар гісторыі Алесь Белы.**

### Прарадзіма — Непал?

На землі Вялікага Княства Літоўскага аер прыйшоў як «татарская» зёлка. Нібыта яшчэ ў часы мангольскага нашэсця татары вазілі з сабой карані аеру, адмыслова засяляючы ім вадаёмы, у якіх паілі сваіх коней (бо лічылі, што аер ачышчае ваду).

Усходнеславянскія назвы аеру (бел. *аер*, рус. *аир*, укр. *аїр*) сапраўды паходзяць ад турэцкага і татарскага *ağir*, але само гэтае слова — ад старажытнагрэцкага *ἄκορος* (як і лацінская назва *acoros*). Ядро кораня слова *ἄκ-* тлумачаць як «востры». Так што да нас расліна сапраўды магла трапіць праз татар, але не з усходу, а з поўдня. Бо цюркскія народы, відаць, самі пазнаёміліся з аерам на тэрыторыі Візантыйскай імперыі.

Сёння аер расце ў Еўропе паўсюдна, але не ўтварае пладоў, памнажаецца вегетатыўна: уломкамі кораня. І толькі ў Цэнтральнай Азіі на расліне выспяваюць чырвоныя ягады, бо там жывуць непрыкметныя жоўтыя мошкі роду *Contarinia*, здольныя апыляць кветкі аеру. Адгэтуль і гіпотэза, што прарадзіма расліны — Паўночная Індыя, Непал.



DEPOSITPHOTOS.COM, BY DABJOLA

**Аер** (*Acorus calamus*) шматгадовая травяністая расліна сямейства ароннікавых. Мае доўгае мечападобнае лісце і тоўстае (да 3 см у дыяметры) паўзучае карэнішча, усярэдзіне белае, мяккае, губчатае, зверху жоўтае або жоўта-зялёнае. У нашых прыродных умовах дасягае вышыні 120 см. Цвіце ў маі – чэрвені зеленавата-жоўтымі кветкамі ў цыліндрычных катахах, плады не ўтвараюцца.

Любіць вільгаць, расце па ўсёй Беларусі: па берагах рэк, азёр, старыц. На балотах утварае зараснікі. Не любіць хуткай плыні вады. Карэнішча дасягае 1,5 метра даўжыні і моцна пераплятаецца.

Народныя назвы расліны — ірны корань, шувар, касатар, явар, ярнік, татарнік, татарскае зелле, плюшнік, нюнькі, бабкі, бабнік, ляпеха, рабрэй, хавір і іншыя.

Ва Усходняе Міжземнамор'е, далёка на захад ад прарадзімы, расліну маглі прывезці арабскія ці фінікійскія купцы: часткі аеру звычайнага былі знойдзены нават у грабніцы фараона Тутанхамона (XIV стагоддзе да н. э.).

### Сродак ад усяго

Аер быў добра вядомы старажытным персам, габрэям і грэкам як кампанент парфумерных вырабаў і спецыя. Бацька медыцыны Гіпакрат (V–IV стагоддзі да н. э.) зацвердзіў за ім рэпутацыю важнай лекавай расліны. Старажытнагрэцкі лекар Дыяскарыд (I стагоддзе н. э.) рэкамендаваў ужываць яго пры захворваннях пячонкі, касы, дыхальных шляхоў, а таксама як мачагонны і танізуючы сродак. А перс Авіцэна (XI стагоддзе) раіў як ачышчальны сродак пры захворваннях пячонкі і страўніка.

Дзве тысячы гадоў таму не было выразнага ўяўлення пра дэзынфекцыю ў сучасным сэнсе. Але аер адпалохваў патэнцыйна шкодных насякомых — і яго сталі ўжываць для абароны ад хваробаў, а заадно ад злых духаў і ўвогуле любых бедаў.

Не толькі народная свядомасць, але і даўнейшая схаластычная навука істотна перабольшвалі гэтыя ўласцівасці аеру. Польскі батанік і лекар Шыман Сырэнскі прысвяціў аеру ладны кавалак свайго фундаментальнага «Зельніка», выдадзенага ў Кракаве ў 1613 годзе. Ён сцвярджаў, што соль аеравага кораня, ►

**Сёння аер расце ў Еўропе паўсюдна, але не ўтварае пладоў, памнажаецца вегетатыўна: уломкамі кораня. І толькі ў Цэнтральнай Азіі на расліне выспяваюць чырвоныя ягады, бо там жывуць непрыкметныя жоўтыя мошкі роду *Contarinia*, здольныя апыляць кветкі аеру**



WIKIMEDIA COMMONS

**Ілюстрацыя з кнігі Германа Адольфа Кёлера** *«Köhler's Medizinal-Pflanzen in naturgetreuen»*. 1887 год.

прыгатаваная са старым моцным віном, нейтралізуе атруту змей і іншых ядавітых жывёл.

Сёння навука прызнае за раслінай моцнае інсектыцыднае, бактэрыцыднае і фунгіцыднае дзеянне — без магічных перабольшанняў. У аптэках, апроч сушанага кораня, можна знайсці алей з аеравага карэнішча, настойку і экстракт.

У народнай медыцыне карэнішча аеру ўжываецца значна шырэй, чым у навуковай. Яго спіртавой настойкай у даўніну абмывалі гнойныя раны і язвы. Корань узмацняе цыбуліны валасоў, памагае пры рэўматызме. Спіртавую настойку і адвар ужываюць пры хваробах




Раней аерам **высцілалі падлогу на Тройцу.**

страўнікава-кішэчнага тракту, паносах, хваробах жоўцевых шляхоў, пры камянях у нырках і пры малярыі. Карэнішча аеру лічацца адным з галоўных кампанентаў сумесяў для ваннаў для залатушных і рахітычных дзяцей.

Аер жавалі, ратуючыся ад эпідэмій халеры (пра яе пісаў у № 7/2019 «Нашай гісторыі» Андрэй Вашкевіч), «іспанкі» 1919 года (гл. пра гэтую хваробу артыкул Андрэя Акушкі ў № 5/2020) і сыпнога тыфу, хоць эфектыўнасць расліны супраць гэтых хвароб сумнеўная.

Згадваюць таксама, што корань аеру наразалі кавалачкамі, сушылі, а потым, калі адчувалі пяршэнне і боль у горле, такі горкі кавалачак грызлі і смакталі.

## Нарыхтоўка

Збіраюць карэнішчы аеру або ў маі ці на пачатку чэрвеня, або позняй восенню. Найлепшыя якасці мае карэнішча двух-трохгадовых раслін. Іх выкопваюць віламі, ачышчаюць ад зямлі, мыюць, адкідаючы больш тонкія карані, рэжуць на дробныя кавалкі і сушаць, затым захоўваюць у сухім памяшканні ў скрынях або мяхах. Характэрны бальзамічны водар аеру цяжка зблытаць з нейкім іншым: спрактыкаваныя «нюхачы» кажуць, што чуюць у яго букеце тонкі водар ружы, фіялкі, лаўровага лісця, імбіру і шалвеі.

Цікава, што карэнішча аеру можа аказваць лёгкае галюцынагеннае ўздзеянне. Дакладней кажучы, такі эфект можа мець эфірны алей расліны, у якім канцэнтрацыя актыўных рэчываў вельмі высокая. Алей аеру не выклікае страты памяці, трызнення або блытаніны ў адносінах да часу, месца і сацыяльнага асяроддзя, але спараджае зрокавыя і некаторыя іншыя галюцынацыі. Але любы даступны ў побыце прэпарат з аеру не мае такой канцэнтрацыі нават і блізка.




**Корань аеру** прарастае вось так.

**У водары аеру адчуваюцца ноткі ружы, фіялкі, лаўру, імбіру і шалвеі**

### Аер-ахоўнік

Ахоўная функцыя аеру, бадай, самая прыкметная ў беларускай народнай культуры. Сцёблы або кавалкі карэння расліны раскідалі па падлогах дамоў і лазняў, у хлявах і на падворку, асабліва па дарожках. У некаторых мясцовасцях Беларусі тое самае рабілі ў пакоі, дзе да пахавання заставаўся нябожчык. Коранем

аеру чысцілі калодзежы. Сушаным лісцем набівалі падушкі і матрацы. Аерам мылі валасы (асабліва жанчыны), каб надаць ім сілы. Рабілі для дзяцей прымітыўныя музычныя духавыя інструменты. А яшчэ выкарыстоўвалі доўгае лісце ў якасці шнуроў для звязвання вянкоў цыбулі і часнаку.

Як і некаторыя іншыя сімвалічна важныя зёлкі, аер асабліва ўшаноўвалі падчас свята Сёмухі (Тройцы), якое называлі таксама Зелянец або Зялёныя святкі. Сцёблы аеру было прынята ў гэты дзень раскладаць па хатах, аерам «умайвалі» падлогу і інтэр’ер цэркваў і касцёлаў. А дзяўчаты плялі сабе вянкі з гаючых і чарадзейскіх траў (аеру, буквіцы, палыну і іншых).

### Ежа для беднякоў і экспартны прадукт

Ужываць аер у ежу беларусаў навучылі татары. Даўней яны варылі лісце і парасткі аеру як гародніну. З карэнішчаў аеру гатавалі цукаты. Іх выраб потым перайшоў і ў шляхецкі побыт. У часы, калі цукар быў неверагодна дарагім, для падсалоджвання цукатаў выкарыстоўваўся мёд.

Аер дадавалі ў збітні, узвары і падобныя напоі. Павел Шпілеўскі пісаў у 1853 годзе ў сваім артыкуле «Нізкі рынак у Менску»: «Проста насупраць Бернардзінскай вуліцы ўбачыце некалькіх жыдовак, якія гандлююць збітнем, але збітнем беларускім, альбо менскім, прыгатаваным з бярозавага лісця, аеру, ліпавага цвету і патакі; збіцень кіпяціцца ў вялізных, не надта прыгожых самаварах і разліваецца ў кубкі са сподачкамі».

Гэтак жа, як лісцем клёна або дуба, лістамі аеру выкладалі хлебную лапату. Хлеб з упечанымі ў яго скарынку зялёнымі «стужкамі» меў прыемны водар і своеасаблівы выгляд.

А дзеці і беднякі вясной перабіваліся маладымі парасткамі аеру (белыя часткі лісця ля самага кораня) проста так, без усялякай апрацоўкі. І сёння многія памятаюць пра гэты «ласунак»:

**Смак парасткаў аеру нагадвае некаторым людзям авакада**

праз 2–3 дзесяцігоддзі, што мінулі ад вясковага дзяцінства, смак аеру нагадвае некаторым людзям... авакада!

І цукаты, і сушанае карэнне аеру былі адным з артыкулаў экспарту з Вялікага Княства Літоўскага ў Заходнюю Еўропу, дзе аер прыкладна да сярэдзіны XVII стагоддзя яшчэ не рос. Еўрапейскія геаграфічныя энцыклапедыі, пачынаючы з «Усеагульнай касмаграфіі» 1550 года прафесара Базэльскага ►

### Сімвал страчанага раю

Менавіта такі вобраз аеру нярэдка выступае ў беларускай літаратуры. Рыгор Барадулін у сваім вядомым вершы-песні «Трэба дома бываць часцей» настальгічна згадвае бацькоўскую хату:

*Не забыць, як падвялы аер*
*На памытай падлозе пахне,*
*Як у студню цыбаты асвер*
*Запускае руку да пахі…*

У Ніла Гілевіча ёсць шчымлівы верш «А раніцы ўжо не было», напісаны ў памяць пра спаленыя ў гады вайны беларускія вёскі. У ім голас дзяўчыны, што загінула ад рук нацыстаў, успамінае:

*Раніцай, раніцай...*
*Рана-раненька, ледзь сонца ўзыдзе...*
*Я збіралася, нагрэўшы вадзіцы,*
*Вымыць чысценька падлогу ў святліцы,*
*Потым, думала, да рэчкі я збегаю,*
*Каб аеру там нарваць каля берага*
*Ды раскідаць на вільготным памосце —*
*Хай у хаце водар чуецца моцны,*
*Каб мой любы, завітаўшы на парог,*
*Зноў сказаў мне, быццам так, незнарок:*
*«Да чаго ж люблю, як пахне аер!..*
*Лепш за ўсё на свеце пахне аер!..»*
*Але раніцы не было.*
*Але сонца ў той дзень для мяне*
*не ўзышло.*

А Міколу Мятліцкаму, чыя родная вёска Бабчын, што ў Хойніцкім раёне, спыніла існаванне пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС, аер у аднайменным вершы таксама нагадвае пра тое, што было і ўжо не вернецца:

*Узбалоткі, пабраныя раскай густой,*
*Зноўку памяць абыдзе мая —*
*збудзіць дні.*
*І пачуе душа: смакавіты настой*
*Прэла цэдзяць з балота твае карані.*

*Збіты ў грады, ты рос — шапацеў*
*на вятрах,*
*Ліст зялёны і гойстры пусціўшы з вады.*
*І чакаў я, малы, па вясне ў вечарах,*
*Як праклюнецца імі балота,*
*Тады*

*Ценькі парастак кволы шукала рука*
*(Смак яго духавіты у роце й цяпер)*
*Па-над корнем тваім парасла асака,*
*Смутна пудзіш душу мне, палескі аер.*

*У карэнні тваім гусла цэзій залёг,*
*Смутна ў зоне рыкае пакінуты звер.*
*Сумам страты маёй, болем горкіх трывог*
*Прарастаеш вясной на ўзбалотку, аер!..*




WIKIMEDIA COMMONS

**Аер на паштовай марцы** Беларусі 1996 года.




Хлеб, выпечаны на лісці аеру.

▶ ўніверсітэта Себасцьяна Мюнстэра, паведамлялі, што найбольш «духмянага трыснягу» (*Calamo Aromatico*) расце менавіта на Белай Русі.

Вядомы французскі аптэкар часоў Людовіка XIV Маісей Шарас адзначаў у напісаным у 1676 годзе фармакалагічным даведніку, што аер трапіў у Францыю менавіта з ВКЛ. А ў XVIII стагоддзі ён нават перасек акіян і рассяліўся ў Паўночнай Амерыцы.

## «Навошта тут пасадзілі "татарскую траву"?»

У XVI стагоддзі нямецкія аптэкары штогод прадавалі амаль цэнтнер кораня аеру. Але атрымлівалі яго кавалачкамі з Канстанцінопаля, а цэлай расліны не бачылі нават батанікі.

Батанік Клюзій моцна ўзрадаваўся, калі ў 1574 годзе атрымаў з Канстанцінопаля жывое карэнішча аеру. Яно было ўрачыста пасаджанае на беразе сажалкі ў адным з першых батанічных садоў Вены. З карэнішча з'явілася доўгае мечападобнае лісце. А праз тры гады аер зацвіў. На пляскатым трохвугольным полым сцябле ўтварыўся зародак, які выдаваўся ў бакі дробнымі зеленавата-жоўтымі кветкамі з шасцю вузка-лускаватымі пялёсткамі і шасцю тычынкамі, хоць пладоў расліна не дала.

У 1601-м Клюзій апублікаваў дакладнае апісанне і малюнак аеру. А праз дваццаць гадоў пасля высадкі Венскі батанічны сад наведаў нейкі польскі лекар. Убачыўшы венскі аер, госць засмяяўся і спытаў: «Навошта тут пасадзілі "татарскую траву", якой процьма ўздоўж канаваў па ўсёй Літве?»

*З кнігі Мікалая Вярзіліна «По следам Робинзона. Сады и парки мира» (1964 год).*

## Карэнішча аеру як спецыя

Аер можна ўжываць як духмяны дадатак у супы (замест лаўровага лісця), фруктовыя салаты, напоі, кампоты са свежых і сухіх яблыкаў, груш, рэвеню. Як замяняльнік імбіру, карыцы, мускатнага арэху карэнішчы ўжываюць для араматызацыі пудынгаў, печыва, крэмаў.

Палачку сухога карэнішча закладаюць у салодкую вадкую гарачую страву звычайна за 3 хвіліны да гатоўнасці, а выдаляюць перад падачай. Можна закладаць аер і за 1 хвіліну да гатоўнасці, а пасля даць пастаяць 5 хвілін, але абавязкова выняць яго, перш чым падаваць страву на стол.




## Аераўка-калмусоўка

Прыемны бальзамічны водар аеру здаўна выкарыстоўвалі ў вытворчасці алкагольных напояў. Часам яго ўжывалі ў піваварстве заміж хмелю, а таксама араматызавалі ім віно.

У 1758 годзе ў выдавецтве Супрасльскага базыльянскага манастыра выйшла кніга *«Alexego Podemontana medyka y filozofa taiemnice...»* — пераклад на польскую мову славутай энцыклапедыі разнастайных «сакрэтаў» па розных галінах ведаў італьянскага аўтара XVI стагоддзя, які пісаў пад псеўданімам «Аляксей з П'емонта». На розных еўрапейскіх мовах гэтая кніга вытрымала больш за 100 выданняў. Сярод вялікай колькасці іншых «сакрэтаў», даволі наіўных або спрэчных з нашага сённяшняга гледзішча, там прыводзіцца і рэцэпт араматызацыі аерам салодкага віна тыпу мускат.

Але самай распаўсюджанай у Рэчы Паспалітай была



Больш пра аер і іншыя беларускія расліны можна даведацца ў Фэйсбук-суполцы **«Сімвалічны свет беларускіх раслінаў»**, якую адмініструе аўтар гэтага артыкула.

настойка аеру на гарэлцы, якую называлі «аераўка», але часцей «калмусоўка» — ад лацінскай назвы расліны *Acorus calamus*. Што асабліва ўражвае ў гэтым своеасаблівым напоі аранжава-жоўтага колеру, дык гэта рэзкі кантраст паміж яго вельмі прыемным, бальзамічным водарам, ад якога інтуітыўна чакаеш салодкага смаку, і нечаканай горыччу. Калмусоўкі наўрад ці вып'еш цэлую шклянку. Хворым яе давалі маленькімі лыжачкамі, некалькімі кроплямі на цукры, а ў даўняй шляхецкай традыцыі пілі маленькімі кілішкамі як аперытыў або дыжэстыў.

Даўней без аераўкі не абыходзілася аніводная прыстойная шляхецкая «прыемная аптэчка» — адначасова і набор лекаў, і хатні міні-бар. Ва ўспамінах Леана Патоцкага з 1820-х гадоў кілішкам аераўкі-калмусоўкі пачынаўся звычайны сняданак шляхціча-ліцвіна, што і задавала настрой на ўвесь дзень, на працягу якога належала яшчэ шмат чаго з'есці і выпіць.

Некалькі разоў хваліць «дасканалую калмусоўку» славуты пісьменнік Юзаф Ігнацы Крашэўскі ў гістарычнай аповесці «Кароль Пяст», дзеянне якой адбываецца ў 1668–1669 гадах. Праўда, мы не ведаем дакладна, сапраўды аераўка ў XVII стагоддзі выконвала тую ж ролю, што і ў XIX-м, ці Крашэўскі проста перанёс на два стагоддзі раней стэрэатыпы свайго часу. ◆

## Прыемная аптэчка

адмысловая шафа ў заможных дамах XVIII стагоддзя, накшталт сучаснага міні-бара, звычайна навясная, замыканая на ключ, а таксама яе змесціва — прыправы, наліўкі, ласункі (сушаныя слівы, разынкі, мігдалы, пернікі), экзатычныя тавары накшталт кавы ці гарбаты.
Звычайна ключ ад прыемнай аптэчкі знаходзіўся ў распараджэнні гаспадыні дома або яе блізкай даверанай асобы. Прыемную аптэчку адмыкалі ў прамежках паміж асноўнымі прыёмамі ежы або з нагоды прыёму гасцей.

## Цукаты з аеру

**Інгрэдыенты:** свежае карэнішча аеру і цукар у суадносінах па вазе 1:1.

Прамыйце карэнішчы, аблупіце іх і нарэжце кавалачкамі таўшчынёй 3–5 мм. Варыце ў невялікай каструлі 4 разы па 30–40 хвілін, кожны раз мяняючы ваду. На чацвёрты раз дадайце да карэнішчаў цукар і ваду ў суадносінах 1:1:4 (напрыклад, 50 г карэнішчаў, 50 г цукру, 200 мл вады), дайце закіпець і варыце на малым агні, пакуль вада не выкіпіць амаль зусім. Пасля выкладзіце цукаты на дошку або сурвэтку. Падавайце, калі яны астынуць і падсохнуць.
Пры выварванні горыч амаль знікае, а прыемны, непараўнаны водар аеру застанецца.
Слодыч жа можна дадаць толькі мёдам або цукрам.




## Настойкі з аеру

Аер шырока прадаецца ў нашых аптэках, таму вы можаце паспрабаваць зрабіць з яго настойку. Удалых вам эксперыментаў!

### Аераўка
*(адзін з мноства магчымых рэцэптаў)*

- 150 г свежага кораня аеру або 70 г сушанага
- 1 палачка карыцы
- 5 зерняў кардамону
- 1 л гарэлкі 40%

Усе кампаненты скласці ў слоік, заліць алкаголем. Пакінуць на 2 тыдні, часам трэсці слоік. Зліць настой, прафільтраваць рэшту, дадаць у настой і вытрымаць яшчэ 4 месяцы. Можна падсаладзіць цукрам або мёдам. Дасканалай закускай да аераўкі лічыліся цукаты з таго ж аеру.

### Аераўка на зубны боль
*(віленская традыцыя)*

Аераўка ўжываецца таксама пры зубным болі.
У такім выпадку на паўлітра гарэлкі ў 60 градусаў бяруць 10 г дробнага парашку карэнішча аеру, боўтаюць, бутэльку закаркоўваюць, корак абвязваюць шпагатам. Бутэльку ў вертыкальным становішчы абкладаюць цестам і пякуць, як хлеб. Атрымліваецца гэткі гарэлкавы адвар аеру, чарку якога набіраюць у рот і трымаюць на хворым зубе. Гэтую ж гарэлку пілі пры падазрэннях на сухоты, па чарцы перад абедам (адзін раз на дзень). Калі гарэлка замоцная, яе трохі разводзяць гатаванай вадой. Лічыцца, што праз два тыдні такога лячэння кашаль становіцца мяккім, з'яўляецца апетыт і значна лепшае агульны стан хворага.

«Родны дом 52 гады даглядаў брат. Верыў, што яны вернуцца».

З СЯМЕЙНАГА АРХІВА АДЭЛАІДЫ АРЫАС

**Адэлаіда Арыас вырасла ў Мінску.** Але бацькі і дзяды дома гаварылі па-іспанску.

# І яны вярнуліся

**У 1936–1939 гадах Іспанія перажыла крывавую грамадзянскую вайну. Уцякаючы ад яе, некаторыя іспанцы апынуліся ў Беларусі. А нашчадкі многіх з іх жывуць тут і дагэтуль. З Адэлаідай Арыас, унучкай іспанскага лётчыка, пагутарыў Андрэй Дзмітранок.**



SCH3.BARANOVICHI.EDU.BY

У СШ № 3 Баранавіч ёсць незвычайны музей. Экспазіцыю пра вайну 1936–1939 гадоў у Іспаніі, да якой фармальна Савецкі Саюз не меў дачынення, але на практыцы актыўна ў ёй удзельнічаў, стварылі школьныя настаўнікі Паліна Татарыновіч, Валерый Варакса, Ніна Пташук і дырэктар школы Мікалай Шырко яшчэ за савецкім часам. Паміж Беларуссю і Іспаніяй тры тысячы кіламетраў, але зусім чужой нам тая вайна не была.

Еўрапейская катастрофа тады была яшчэ наперадзе, а пакуль адбывалася рэпетыцыя, падчас якой выпрабоўвалі новае ўзбраенне, а авіяцыя і артылерыя руйнавалі цэлыя гарады.

## No pasarán

Вядомы лозунг *«No pasarán»* («Яны не пройдуць») прыйшоў у беларускую і іншыя мовы менавіта ў 1930-я, у час Грамадзянскай вайны ў Іспаніі. Дэмакратычна абраным левым рэспубліканцам-атэістам супрацьстаялі мяцежныя правыя нацыяналісты-каталікі, якім дапамагалі Італія і Германія.

Савецкі Саюз падтрымліваў рэспубліканцаў, сярод якіх дамінавалі камуністы, але свой удзел хаваў як мог. Сёння такі фармат атрымаў назву «гібрыдная вайна». Савецкія спецыялісты і вайскоўцы траплялі ў Іспанію пад выдуманымі імёнамі, па падробленых пашпартах, таемна пастаўлялася і зброя ды вайсковая тэхніка. Агулам у той вайне паўдзельнічала каля 2000 савецкіх грамадзян, з якіх загінула пры розных абставінах каля 200.

Падчас вайны рэспубліканцы афіцыйна звярнуліся да СССР з просьбай прыняць на захаванне частку залатога запасу краіны. У СССР было перавезена 510 тон золата. Але, як і ў выпадку з нашымі слуцкімі паясамі, што таксама былі ў свой час перавезеныя ў Расію для захоўвання, ніхто нічога вяртаць нават не збіраўся. Сталін сказаў: «Іспанцам не бачыць гэтага золата як сваіх вушэй». Падрабязней пра гэта чытайце ў артыкуле Аляксея Ластоўскага «Як беларусы перавезлі ў Маскву залаты запас Іспаніі» ў № 6/2019 «Нашай гісторыі».

## І трапіў у Кіравабад

Калі нацыяналісты перамаглі, дзясяткі тысяч іх праціўнікаў эмігравалі. Каб уратаваць жыццё, рэспубліканцы расфармоўвалі атрады і перабіраліся ў Францыю. А адтуль ужо — хто куды мог. Некаторыя ехалі ў Лацінскую Амерыку, у ЗША. Члены іспанскай кампартыі часцей абіралі Савецкі Саюз. Сюды пераехала каля пяці тысяч іспанцаў.

Адэлаіда Арыас, унучка ўдзельніка Грамадзянскай вайны ў Іспаніі, якая цяпер жыве ў Мінску, расказвае: «Мой дзед, Антоніа Арыас, паходзіў з Мадрыда і быў адным з першых іспанскіх лётчыкаў. У 1936 годзе ён трапіў у савецкі горад Кіравабад, каб вучыцца на пілота. Цяпер гэта азербайджанскі горад Гянджа, ён знаходзіцца амаль на адной шыраце з Мадрыдам.

Бабуля — Адэла Дэльгада Рамэра — таксама з Мадрыда, яны нават жылі ў суседніх раёнах, але пазнаёміліся толькі ў Савецкім Саюзе, пасля вайны. Бабуля была ў дзіцячай арганізацыі кампартыі Іспаніі, дапамагала рэспубліканцам на барыкадах, працавала на работах у арміі.

Пасля заканчэння вайны разам з сям'ёй перабралася ў Францыю, дзе яны трапілі ў лагер для інтэрнаваных. ▶

▶ СССР для іх здаваўся ўзорнай краінай. Эмігрантаў пагрузілі на цеплаход “Марыя Ульянава” і пераправілі ў Савецкі Саюз, у Харкаў, дзе ўладкавалі працаваць на трактарны завод».

Там і сустрэліся іспанцы Антоніа і Адэла.

### Капітан буржуазнай арміі

«У канцы 1930-х іспанцам давялося вельмі хутка навучацца лётнай справе. Спачатку яны проста патрулявалі асобныя зоны, а потым удзельнічалі і ў баях: над Мадрыдам, над Тэруэлем, а таксама ў Каталоніі.

Не адразу, але іспанцы фарміравалі нават уласныя эскадрыллі. Мой дзед узначальваў адну з іх. Аднойчы ён збіў нямецкі самалёт над тэрыторыяй рэспубліканцаў. Лётчык скокнуў з парашутам дый павіс на дрэве. Вісеў і крычаў, каб яму паказалі рускага аса, які яго збіў. А ў той дзень савецкія лётчыкі зусім не падымаліся ў неба.

**Ён мне заўсёды казаў: «Каб я мог, я б падняў цябе на самалёце ў неба, каб ты пабачыла воблака»**

Калі пачалася вайна Германіі супраць СССР, Харкаўскі трактарны завод, а з ім і маю бабулю, перавезлі ў Казахстан, а дзед са сваёй лётнай кніжкай пайшоў добраахвотнікам у войска. Ён быў капітанам




З СЯМЕЙНАГА АРХІВА АДЭЛАІДЫ АРЫАС

**Антоніа Арыас** быў сярод першых лётчыкаў-рэспубліканцаў.

авіяцыі, але яму сказалі: “Прабачце, вы афіцэр буржуазнай арміі, таму будзеце пачынаць з ніжніх чыноў”. Дзед скончыў вайну ў Баранавіцкім авіяатрадзе таксама ў званні капітана. У 1946 годзе ён дэмабілізаваўся і застаўся ў Баранавічах».

### Родная мова

Яшчэ ў Азербайджане, на курсах пілотаў, Антоніа Арыас пачаў вывучаць рускую мову. Яго будучая жонка пачала вучыць рускую ў Харкаве ў інтэрнаце: разам са сваімі суседкамі яна вешала напісаныя лацінкай назвы прадметаў, якія іх атачалі, і паволі засвойвала. Але гаварыла яна заўсёды з вялікім акцэнтам.

Пражыўшы ў СССР дзясяткі гадоў, сям’я не пакінула сваю родную мову, іспанскую. Спадарыня Арыас згадвае: «Дзед заўсёды адчуваў сябе іспанцам, які быў вымушаны жыць тут. Ён не быў чужым: на паліграфкамбінаце, дзе ён працаваў наладчыкам, яго партрэт вісеў на дошцы гонару, у Баранавічах дзед быў дэпутатам. Аднак нават я, яго ўнучка, адчувала сябе больш іспанкай, чым савецкім чалавекам.

Дзесьці ў 1996-м ці 1997-м я выпадкова пазнаёмілася з дзяўчынай, што была нашчадкам іспанскіх дзяцей, якіх СССР прымаў пасля вайны. Яна распавяла, што яе бабуля баялася гаварыць па-іспанску, бо большую частку яе сям’і выслалі ў Сібір без права перапіскі. У нас такога не было. У нашай сям’і ўсе ўвесь час гаварылі па-іспанску. Нават не ведаю, на якой мове я загаварыла раней».



З СЯМЕЙНАГА АРХІВА АДЭЛАІДЫ АРЫАС

**Антоніа і Адэла: такія іспанскія твары.**

## Гібрыдная вайна

Іспанія калісьці была найвялікшай у свеце каланіяльнай імперыяй, аднак золата калоній толькі кансервавала яе адсталасць. Да пачатку XX стагоддзя краіна моцна адстала ад перадавых прамысловых дзяржаў. Акрамя таго, краіну раздзіралі ўнутраныя ваенныя канфлікты: Краіна Баскаў і Каталонія прэтэндавалі на незалежнасць, радыкальныя левыя і радыкальныя правыя рваліся да ўлады.

Іншыя вялікія дзяржавы бачылі ў Іспаніі і іспанцах поле для барацьбы ідэалогій: Германія і Італія падтрымлівалі нацыяналістаў «Іспанскай фалангі», а Савецкі Саюз марыў узяць Пірэнейскі паўвостраў пад кантроль з дапамогай камуністаў.

Рэспубліканскі «Народны фронт» перамог на выбарах 1936 года, але не змог узяць сітуацыю пад кантроль, працягвалася фактычна вулічная вайна левых і правых. Мяцеж вайскоўцаў супраць рэспубліканцаў распачаўся ў Марока 17 ліпеня 1936 года па радыёпаролі «Над усёй Іспаніяй бязвоблачнае неба» і перакінуўся на паўднёва-заходнюю Іспанію. Рашучай перавагі ніводзін з бакоў у першыя дні не атрымаў — і занялася працяглая грамадзянская вайна.

Добраахвотнікі з краін дэмакратычных і прафесійныя вайскоўцы з таталітарных краін ехалі ў Іспанію з усяго свету. Ехалі і беларусы — як «усходнікі», так і «заходнікі».

Вобраз заходнебеларускага маладога камуніста, зняволенага ў польскай турме і смяротна хворага на сухоты, але ў той жа час апантанага ідэяй паехаць у Іспанію і там змагацца «на чале беларускіх брыгад», выведзены ў паэме Валянціна Таўлая «Таварыш»:

*Над турмой — неспакойныя думы*
*і мадрыдскія сны плывуць...*
*Знемагае душа ад глуму, —*
*па-іспанску трымай галаву!*

*Назмагаўшыся днём з Грабоўскім,*
*ноччу (дзверы адчыніць сон)*
*у брыгадзе імя Каліноўскага*
*маршыруе таварыш на фронт.*

*І заўсёды — патрон апошні,*
*і заўсёды — паўзе, як гад,*
*люты вораг, агнём не падкошаны...*
*І таварыш хапае прыклад.*

*...Ах, чаму ж гэта сілы вянуць*
*і няма як рукой крануць?*
*Што гара, налёг мараканец, —*
*грудзям сціснутым не дыхнуць...*

*...— Не магу, на хвіліну прылягу,*
*хай гарачка перагарыць.*
*Ах Малага, мая Малага!*
*Мой высокі, родны Мадрыд!*

*Загадай, Даларэс Ібаруры,*
*каб ні кроку болей назад!..*
*Я прыйду, я паспею да штурму*
*на чале беларускіх брыгад.*

*Непрытомны, схапіўся ноччу*
*і датуль выстукваў пароль,*
*аж пакуль недзе ў цэлі змрочнай*
*з нары сакратара не спароў.*

*Злез адказны з пасцелі нехаця,*
*да халоднай сцяны прылёг, —*
*дзіўны сказ укладае рэха*
*з літар, выстуканых здалёк:*

*— Я чакаць... не магу, таварыш...*
*там сцякаюць... крывёй сябры...*
*дазваляй... сакратар, мне... адразу...*
*на іспанскі фронт... у Мадрыд...*

*Усміхнуўся ў вусы адказны:*
*«Хлопцу жарты наўме, — няхай...»*
*І адстукаў дробна, выразна:*
*«Не пярэчу. Шчаслівa. Бывай».*

*Жартаваў сакратар не ў пору*
*і падумаў зусім не так:*
*смерць стаяла з таварышам поруч,*
*выбіваючы дзіўны такт...*

*...Ён ляжыць на нары халоднай,*
*малады — як ніколі раней.*
*Яго сэрцу ў вятрах паходняй*
*з пірэнейскіх скал палымнець.*



**Добраахвотнікі рэспубліканскай арміі.** Тэруэль, 1938 год.

## Забыць пра вайну

Пра што ў сям'і стараліся забыць, дык гэта пра вайну.

«У нас у сям'і было чацвёра дзяцей, мы раслі разам: мая родная сястра, стрыечны брат і стрыечная сястра. Дык вось, у майго брата не было не тое што цацачнай зброі, у яго не было нават звычайнага мяча. Дзед ніколі не купляў зброі.

Пра вайну стараўся не распавядаць, апроч хіба што смешных побытавых момантаў ці нейкіх кур'ёзных выпадкаў падчас бою. Так, падчас аднаго з палётаў нешта пайшло не так — і дзед прызямліўся проста ў вінаграднік. Усе пабеглі ▶

глядзець, што з ім здарылася, — думалі, што знойдуць труп, а ён спакойна стаяў і еў вінаград.

Яшчэ дзед узгадваў, як лятаў разам з Сяргеем Грыцаўцом. Пэўны час яны вельмі сябравалі. Калі дзед пасля ранення збег са шпіталя, Грыцавец падарыў яму свой шлемафон. На жаль, пасля Іспаніі дзядуля больш з ім не бачыўся».

## Жылі з асцярогай

«У нас у першых у доме з'явіўся тэлефон, і суседзі хадзілі да нас тэлефанаваць, — прыгадвае спадарыня Адэлаіда. — Неяк адна з суседак прыйшла і пачала вярзці нейкую лухту наконт дня нараджэння Гітлера і што будуць нейкія непарадкі. А гэта было задоўга да перабудовы. Дзед проста адключыў тэлефон і папрасіў яе выйсці ды больш да нас не звяртацца. Відаць, падазраваў, што тэлефон праслухоўваецца.


WIKIMEDIA COMMONS

**Сяргей Грыцавец** першы ў гісторыі двойчы Герой Савецкага Саюза. Нарадзіўся 6 ліпеня 1909 года ў вёсцы Бараўцы пад Баранавічамі. Быў лётчыкам-знішчальнікам, камандзірам знішчальнага авіяпалка. Падчас Грамадзянскай вайны ў Іспаніі збіў больш за 30 самалётаў, прычым 6 з іх за адзін дзень. Таксама вызначыўся ў баях з японцамі на рацэ Халхін-Гол: прызямліўся за параненым камандзірам, на вачах у ворага забраў яго і падняўся ў паветра. Загінуў у 1939 годзе ў авіякатастрофе ў Аршанскім раёне Віцебскай вобласці. Больш пра яго гл. у артыкуле Мікалая Кавалёва ў № 11/2019 «Нашай гісторыі».


З СЯМЕЙНАГА АРХІВА АДЭЛАІДЫ АРЫАС

**Мадрыд. Антоніа і Адэла дома.**

Я ведаю, што ён дакладна слухаў іспанскае радыё, але нам пра тое не казаў. Аднойчы ўляцела да яго ў пакой — а там радыё на іспанскай. "Што гэта такое? Я таксама хачу паслухаць!" А дзед выключыў і сказаў, што слухае маскоўскія навіны на іспанскай.

У 1970-х у Іспаніі сталі штогод ладзіць сустрэчы лётчыкаў-рэспубліканцаў. Дзед наведваў іх і, канечне, бачыў розніцу паміж эфектыўнасцю капіталістычнай і сацыялістычнай сістэм — але маўчаў.

Мы размаўлялі пра жыццё ў Іспаніі, пра нейкія дзіцячыя ўспаміны — не пра палітыку. Відаць, што падобнае было і з астатняй іспанскай дыяспарай. У Мінску было каля 10 чалавек, адзін з іх таксама лётчык. Дарослыя і некаторыя іспанскія "дзеці вайны" збіраліся на Трактарным заводзе ў Доме культуры».

Да пачатку 1990-х клуб распаўся. Іспанія стала развіваць праграму па рэпатрыяцыі, усім, хто пакінуў краіну пасля вайны, вярталі грамадзянства і давалі грамадзянства іх сем'ям. Іспанцы пачалі з'язджаць.

Больш не патрэбна было дабівацца дазволу на выезд на кожнага члена сям'і, нават непаўналетняга. Нарэшце можна было пакінуць СССР свабодна, не запаўняючы ніякіх паперак.


WIKIMEDIA COMMONS

**Манола Эскабар** — іспанскі спявак і акцёр. Самым прадаваным у Іспаніі стаў ягоны альбом *«Y viva España»* («І жыве Іспанія»).

### Дранікі і тарцілья

«Сіеста на халодных тэрыторыях нібыта і не патрэбная: гэта адпачынак у самы гарачы час, калі немагчыма рабіць у полі, таму гэтай традыцыі не трымаліся. Але ў доме ў нас увесь час гучала іспанская музыка: дзед прывозіў з Іспаніі касеты Манола Эскабара, Марыі Хесуса Градаса Вентуры, Лаліты Торэс, а таксама фламенка.

Паколькі дзед ездзіў у Іспанію, то ў мяне заўсёды было фірмовае адзенне, лялькі, канцтавары ды іншая дробязь, якую толькі можна правезці ў самалёце.

Прывозіў ён, натуральна, і хамон.

**«Я адчувала сябе больш іспанкай, чым савецкім чалавекам»**

З беларускай кухні мы елі дранікі і боршч, з іспанскай — гатавалі амлет з бульбай (тарцілью). Бабуля гатавала адаптаваную паэлью. Рыбы і тым больш морапрадуктаў было не дастаць, таму яна дадавала ў яе мяса — і атрымлівалася такая сумесь плову і паэлы. Пілі піва, віно і вельмі мала гарэлкі. Выключэннем былі іспанская анісаўка і лікёр. А яшчэ дзед навучыў мяне традыцыі *carajillo* — піць каву з каньяком.

Новы год сустракалі тройчы: па тутэйшым часе, па іспанскім і па кубінскім, бо там жыла цётка. Тэлефанавалі ёй на Кубу. Таксама мы трымаліся традыцыі 12 вінаградзін. Праўда, у савецкі час вінаградзіны часцей за ўсё даводзілася замяняць мандарынамі. З 5 на 6 студзеня ў нас было дзіцячае свята *Reyes Magos* (Тры каралі)».


WIKIMEDIA COMMONS

### Тры каралі

Напярэдадні Вадохрышча (6 студзеня) у Іспаніі ладзяць дзіцячае свята *Reyes Magos* (Тры каралі). Дзеці пішуць лісты да трох каралёў, у якіх пералічваюць свае поспехі і жаданыя падарункі. У ноч на 6 студзеня ля абутку пакідаюць пачастункі для мудрацоў і ваду для вярблюдаў. Наўзамен паслухмяныя дзеці атрымліваюць тое, што прасілі, а непаслухмяныя — салодкі вугаль: адмысловы ласунак з цукру і вады, афарбаваны дымам або чорным фарбавальнікам.

### Іх чакаў дом

«У святле таго, што і тэлефон праслухоўваўся, і магчымасці выехаць усёй сям'ёй не было, зразумела, дзед не мог не вярнуцца з паездкі ў Іспанію, каб не падвяргаць рызыцы тых, хто заставаўся. Але яны прагнулі вяртання на радзіму. Як толькі стала магчыма, яны спакавалі рэчы і з'ехалі».

Антонія і Адэла вярнуліся на радзіму. У Іспаніі іх чакалі сваякі, сябры і родны дом, які ўвесь гэты час даглядаў брат: не губляў веры, што яны вернуцца. Іспанскі ўрад прызначыў ім добрыя пенсіі: не паглядзеў, што былі ў эміграцыі, як за поўны працоўны стаж.

Цікава, што старэйшае пакаленне, хоць і расчаравалася ў СССР, але на выбарах працягвала галасаваць за «левых» — а вось дзеці і ўнукі ўжо мелі іншыя палітычныя прыхільнасці. ◆


DEPOSITPHOTOS.COM_ALEXSALCEDO

### 12 вінаградзін

Іспанцы сустракаюць Новы год пад бой вежавага гадзінніка на мадрыдскай плошчы Пуэрта-дэль-Соль. З кожным ударам з'ядаюць па вінаградзіне: на поспех і ўдачу.

# Тарцільяя (*tortilla*)



DEPOSITPHOTOS.COM. BY ILDI_PAPP

## Іспанскі амлет,
## што спадабаецца кожнаму беларусу

**Інгрэдыенты:** бульба, яйкі, цыбуля, соль, чорны перац.

Бяром у роўных прапорцыях цыбулю і бульбу, стандартная порцыя — 6 бульбін. Цыбулю наразаем паўкольцамі, бульбу тонкімі скрылькамі. У глыбокую патэльню наліваем алей (лепей аліўкавы, але справа густу) на сантыметр. Калі алей разагрэецца, выкладаем у яго бульбу. Потым, калі бульба падсмажыцца і стане мякчэйшай, дадаём нарэзаную цыбулю, змешваем і накрываем. Смажым да гатоўнасці прадуктаў, перыядычна памешваючы, каб усё роўна прасмажылася (не солім!).

Асобна ўзбіваем яйкі. Трэба, каб яечнай сумесі было прыблізна на трацінy цыбульна-бульбяной масы. Дадаём соль і перац — менавіта ў яечную сумесь! Калі цыбуля з бульбай будуць гатовыя, выкладаем іх у міску, даём трохі астыць і ўжо тады ўліваем узбітыя яйкі, старанна змешваем і выкладаем на патэльню (якая можа быць меншага дыяметра за папярэднюю).

Па шчырасці, мне і сама яечная сумесь з бульбай падабаецца. У дзяцінстве мы наляталі і заўсёды выпрошвалі па лыжачцы або цішком каштавалі.

Абсмажваем з аднаго боку, перыядычна пакручваючы патэльню, каб маса знізу адстала ад дна. Накрываць вечкам не трэба.

І вось тут пачынаецца той этап, якога я заўсёды баялася, але за якім назірала з велізарным захапленнем. Накрываем патэльню талеркай большага дыяметра і нясём да ракавіны. Акуратна і моцна прытрымліваем талерку рукой і перакульваем патэльню. Будзьце асцярожныя, рукі лепш трымаць паралельна, каб рэшткі алею не выліліся на скуру!

Цяпер трэба абсмажыць верхнюю частку. Для гэтага асцярожным рухам прымушаем амлет спаўзці з талеркі на патэльню і ставім яе зноў на агонь. Паверце, нічога не прыгарыць: гэта як з блінамі — хапае свайго алею. Абсмажваем другі бок тарцільі і падаём на стол.

Есці можна гарачай і халоднай, з соусам або без. Мы часта бяром яе ў паход. Гэта наедная і вельмі смачная страва. Лепш за ўсё есці пад піва, віно ці пад беларускі кефір. У некаторых рэстаранах Іспаніі, між іншым, гэта падаюць як эксклюзіў.

Выйшлі з друку два абсалютна новыя для Беларусі часопісы. Адзін называецца «Дуду», а другі — «Асцярожна: дзеці!». Купіце сваім малым два: яны самі разбяруцца, каторы ім цікавейшы. Часопісы прадаюцца ва ўсіх шапіках, кнігарнях, а таксама гіпермаркетах.

«Асцярожна: дзеці!». Тут галоўныя героі — Цім, Мара, сабака Газ, кот Тормаз і Занадта Разумны Смартфон — разблытваюць розныя дэтэктыўныя гісторыі. І заадно разам з чытачамі спазнаюць свет. У часопісе — і карысная інфармацыя, і захапляльныя прыгоды, і заданні, якія трэба выканаць, і конкурсы, у якіх можна перамагчы, і QR-коды, па якіх можна будзе выйсці на старонкі ў інтэрнэце з цікавай інфармацыяй. У кожным выпуску Цім, Мара, Газ і Тормаз будуць шукаць скарбы, апынуцца ў надзвычайных сітуацыях і пры гэтым будуць карыстацца самымі сучаснымі тэхналогіямі. Купляйце і чытайце! А найлепш — выпісвайце! Гэта самы выгадны варыянт.

**Падпісны індэкс**
**«Асцярожна: дзеці!» — 75080**
(ведамасны 750802)




# Найлепшы падарунак дзецям **«Дуду» і «Асцярожна: дзеці!»**




Часопіс «Дуду» разлічаны на дзяцей да сямі гадоў, але чытаць яго могуць дзеці ад 1 да 101 года. Казкі, вершы і нават музыка ды песні (іх можна прайграць па QR-кодах), інтэрактыўныя гульні, коміксы, конкурсы, дзівосы, сюрпрызы — усё гэта будзе ў кожным нумары часопіса. А таксама заданні на развіццё логікі, увагі і памяці, дробнай маторыкі, для папаўнення слоўнікавага запасу і падрыхтоўкі да школы. Яшчэ мы будзем дапамагаць дзецям вучыцца чытаць, пісаць і лічыць. Нумары часопіса будуць тэматычнымі. Тэмы нумароў: каты і іх жыццё, метро і іншы транспарт, булачкі і цукеркі, зоркі і касмічныя караблі, сонца і хмары, любімыя святы, небяспечныя драпежнікі і пеўчыя птушкі і іншае… Героі часопіса — хлопчык Зор, дзяўчынка Лёля і падушка Дуду — стануць надзейнымі сябрамі чытачоў. Купляйце і чытайце! А найлепш — выпісвайце! Гэта самы выгадны варыянт.

**Падпісны індэкс «Дуду» — 75081** (ведамасны 750812)



**Ліст да каханага.** 1930-я гады.

З КНІГІ ІГАРА ЦІТКОЎСКАГА «МАСТАЦТВА СЛУЧЧЫНЫ: ГІСТОРЫЯ, ІМЁНЫ, ТВОРЫ»

# *Алена Кіш*

## з гэтай зямлі, не ад гэтага свету

**Пры жыцці гэтую беларуску-тулягу лічылі дзівачкай, але прайшло менш за палову стагоддзя — і імя Алены Кіш трапіла ў «Сусветную энцыклапедыю наіўнага мастацтва». І яна адзіная прадстаўляе ў гэтым спісе Беларусь. Пра незвычайную мастачку са Случчыны піша пісьменніца Зараслава Камінская.**

### Час вандроўных мастакоў

У першай палове XX стагоддзя па Беларусі хадзіла шмат самадзейных мастакоўвандроўнікаў. Яны грукалі ў дзверы і прапаноўвалі стварыць упрыгожанне для хаты шаноўных

## Наіўнае мастацтва

ці «інсітнае мастацтва», то-бок «прыроджанае», «уласцівае з нараджэння», — гэта самадзейнае мастацтва непрафесійных творцаў, што парушаюць акадэмічныя традыцыі і законы перспектывы, бо не ведаюць іх, а замест гэтага вынаходзяць уласны стыль. Іншымі словамі, гэта мастацтва насуперак лёсу: ствараць «для душы» пачынаюць тыя, хто ніколі не вучыўся ў мастацкіх акадэміях і ніякіх асаблівых умоў для творчасці не меў.

гаспадароў — маляваны дыван. Гэта было модна, гэта было ярка: трохі колераў у хату. Большасці беларусаў вядомы адзін такі вандроўнік — Язэп Драздовіч, які за міску заціркі і начлег у цяпле размалёўваў дываны сялянам Заходняй Беларусі.

Але Драздовіч быў далёка не адзіны ў сваім рамястве, чыё імя мы ведаем. Гісторыя захавала імя яшчэ адной прадстаўніцы вандроўнай «мастацкай школы» і толькі адзін яе фотаздымак. Звалі гэтую жанчыну Алена Кіш. Жыццё мастачкі — прыклад нешчаслівага жыцця творцы і справядлівасці, якая прыходзіць толькі пасля смерці.

### А замуж выйшла толькі адна

Алена Кіш нарадзілася ў мястэчку Раманава (цяпер — аграгарадок Леніна ў Слуцкім раёне) ці то ў 1889, ці то ў 1896 годзе — дакладных звестак няма. На пачатку XX стагоддзя гэтае мястэчка было даволі вялікае: 260 двароў і каля 1500 жыхароў.

Сям'я была шматдзетнай: старэйшы Мітрафан, пасля Алена, пасля — яшчэ шэсць дзяцей. Даследчыкі лічаць, што мастацкі талент Кіш — гэта сямейнае. Бацька майстраваў, брат Мітрафан быў вядомым ▶



EN.MUZEO.COM

**«Жанчына ў чырвоным у лесе» Анры Русо** (1905 год).

### Вялікія наіўныя мастакі

Француз **Анры Русо** (1844–1910) працаваў у парыжскай мытні, а маляваць пачаў толькі пасля сарака гадоў — вольнага часу паболела, калі Мытнік (мянушка, якая замацавалася за мастаком, яго часта так і называюць па-французску *Douanier Rousseau*) выйшаў на пенсію. Менавіта пра яго творчасць упершыню сказалі як пра «наіўнае мастацтва» (*art naïf*).

Сярод сюжэтаў Русо, як і ў Алены Кіш, сустракаюцца джунглі, падобныя да райскіх садоў: агнягрывыя львы і апельсінавыя тыгры, дзівосныя кветкі і экзатычныя птушкі. І ўсё гэта, як і ў Кіш, жыло і дыхала толькі ва ўяўленні мастака. Бо Русо ніколі не выязджаў за межы Францыі, а для натуры меў хіба толькі батанічны сад.

Гэта было мастацтва пары, калі людзі маглі толькі марыць пра далёкія падарожжы і заморскія краі.

Грузін **Ніко Пірасмані** (1862–1918), адзін з сусветных геніяў наіўнага мастацтва, таксама быў самавукам. Замест палатна выкарыстоўваў цырату (чорную ці белую), часта знятую проста са стала ў якой-небудзь карчме, і самаробныя фарбы.

Алена Кіш малявала сюжэты, якія вельмі адрозніваліся ад яе штодзённага жыцця. Так і адзін з галоўных сюжэтаў Пірасмані — застолле і бяседа — таксама кантраставаў з рэчаіснасцю мастака, бо сам ён жыў у галечы, галадаў. Але ў творах ягоных было ўсё іначай. Як пісаў пра яго расійскі пісьменнік Канстанцін Паўстоўскі, «наведнікам падабаліся шыльды Пірасмана — празрысты вінаград, гарбузы, памаранчавая хурма, кучаравыя мандарынавыя сады і багатыя нацюрморты з розных травак, баклажанаў, шашлыкоў, сыру і смажанай рыбы “лока”… Пірасман пачаў пісаць на шыльдах шматлюдныя пагулянкі на траве, на вузкіх сялянскіх абрусах. На шыльдах з'явіліся людзі, пейзаж і жывёлы, галоўным чынам шматцярплівыя ішакі».

Нават памёр грузінскі мастак-самавук ад голаду. Знясіленага Пірасмані знайшлі ў сутарэннях дома №29 на Малаканскай вуліцы ў Тбілісі і адвезлі ў бальніцу, дзе ён праз паўтара дня сканаў. Цяпер тая вуліца носіць імя Пірасмані.

Самая дарагая карціна мастака, **«Арсенальная гара ўначы» (знізу)**, напісаная алеем на цыраце, была прададзеная амаль за 1,5 мільёна долараў.



RU.ARTSDOT.COM

у сваёй мясцовасці цесляром, дапамагаў аднаўляць роспісы ў царкве. Сёстры таксама добра малявалі. Дарэчы, Алена з сёстрамі амаль усё жыццё і трымаліся разам — уласную сям'ю займела толькі малодшая, Ніна. З ёй пасля смерці бацькоў дажывалі век тыя, хто застаўся ў дзеўках, у тым ліку і Алена.

### Бульба, сала ці яйкі

Алена Кіш пачала маляваць дываны ў 1930-я гады, каб пракарміць сябе і дапамагчы сям'і. Бо часы былі няпростыя. З прыходам савецкай улады і перайменаваннем роднай вёскі Раманава, назва якой нагадвала бальшавікам пра царскую дынастыю, пачаліся эксперыменты з калектывізацыяй, якія на пачатку 1930-х выклікалі голад у многіх раёнах СССР.

Геаграфія дываноў Алены Кіш — у асноўным Случчына: Забалаць, Заполле, Васілінкі, Бокшыцы,


WIKIMEDIA COMMONS

Грозава. Алена малявала там, куды можна было дайсці пешшу. Старое паліто ў латках, на нагах — галёшы, за плячыма — мех з фарбамі. Мастачка хадзіла з хаты ў хату, шукала замовы, дамаўлялася пра кошт: бульба, збажына, сала ці яйкі. Калі гаспадары пагаджаліся, мастачка заставалася жыць у той хаце, пакуль не скончыць працу.


З КНІГІ ІГАРА ШКОЎСКАГА «МАСТАЦТВА СЛУЧЧЫНЫ: ГІСТОРЫЯ, ІМЁНЫ, ТВОРЫ»

**Рай.** 1930-я гады.

Такі лад жыцця ў кансерватыўнай вёсцы не ўхвалялі. Алену называлі «каўрыхай», «гультайкай», «вар'яткай» (апошняе — яшчэ і з прычыны таго, што Кіш надта ж шкадавала катоў ды сабак).

**Алена з сёстрамі ўсё жыццё трымаліся разам — уласную сям'ю займела толькі малодшая, Ніна**

З мастачкі кпілі, але хараство яе дываноў не маглі не прызнаваць. Як згадвала жыхарка Случчыны Зоя Пуставалава (размова з ёй запісана пісьменнікам Змітром Бартосікам), калі яе бацька-аграном павесіў у хаце маляваныя дываны Алены Кіш, уся вёска прыйшла паглядзець, «як на выставу», бо «такой красы ніхто не бачыў у сяле».

### Дываны-аповеды

Адметнасць наіўных мастакоў, прызнаных геніямі, што яны малююць не статычны нацюрморт або пейзаж, а гісторыю.

У творчасці Алены Кіш — тры асноўныя аповеды: «Рай», «Ліст да каханага», «Дзева на водах».

«Рай» — зусім не рэлігійны, але дзівосны і прывабны. Тыгры і львы, якіх жыўцом не бачылі ні творца, ні яе замоўцы. Мяккія цёплыя джунглі, нетутэйшыя птушкі. Таму і гэты «Рай» — месца, куды не мог бы трапіць звычайны савецкі калгаснік, але куды вельмі хацелася перанесціся хаця б у думках.



З КНІГІ ІГАРА ШТКОЎСКАГА «МАСТАЦТВА СЛУЧЧЫНЫ: ГІСТОРЫЯ, ІМЁНЫ, ТВОРЫ»

**Дзева на водах.** 1930-я гады.

«Ліст да каханага» — падобны нават не да гісторыі, а да народнай песні пра сумневы і страхі, якія сціскаюць сэрца, бы кіпцюры драпежніка сваю ахвяру. Дзяўчына напісала ліст і выпраўляе яго ляцець на крылах кахання, але ці не забыў яе той, каму піша, ці не бавіць час з гарадскімі паненкамі ў элегантных капялюшыках?

«Дзева на водах», як называла сюжэт сама мастачка, — гісторыя пра спатканне з самой сабою. Дзяўчына расхінае чарот, бы расчыняе дзверы ў іншы, прыгожы свет, які тут, побач, але на які не хапае часу палюбавацца. Ён схаваны за трыснягом штодзённага клопату.

Нягледзячы на невялікую разнастайнасць сюжэтаў, мастачка не любіла паўтарацца: калі замоўца прасіў дыван такі ж, як бачыў у кагосьці, дык казала, што лепей крыху падумае і намалюе такі дыван, якога ні ў каго не будзе.

## Кіш надта шкадавала катоў ды сабак

### Ела не свой хлеб

Пасля вайны Алена Кіш пераехала да сястры Ніны ў Грозава. Зрабілася зусім цяжка: дываны перасталі замаўляць — замест іх куплялі фабрычныя, з тыповымі малюнкамі, але трывалымі фарбамі. Мастачка, хворая шасцідзесяцігадовая ▸

### Маляваны дыван

быў таннай альтэрнатывай вышыванаму ці тканаму. Маляванкі звычайна вешаліся на сцяну ў хаце ці карчме. А малявалі іх на палатне ці на цыраце.

Палотнішча фарбавалі ў чорны колер, пасля на ім малявалі тое, што папросіць замоўца, ці тое, што пасуе выпадку, часта маляванкі дарылі «на шчасце» на вяселле ці ўлазіны.

У кожнай мясцовасці Беларусі быў свой стыль і асаблівая тэхніка выканання, свая «школа» мясцовых майстроў і майстрых. Напрыклад, у Докшыцкім раёне выкарыстоўвалі клеявыя фарбы, у іншых раёнах паўночнай Беларусі — алейныя.

З’явіліся маляваныя дываны на Беларусі пры канцы XIX стагоддзя, пік іх папулярнасці прыпаў на перыяд з 20-х да 60-х гадоў XX стагоддзя.

Пра дываны згадвалася ў аповесці Алены Васілевіч (дарэчы, ураджэнкі той жа, што і Кіш, Случчыны) «Расці, Ганька»: «Над ложкам у Корбутавых на сцяне вісіць дыван. На ўсёй вёсцы ні ў кога няма такога дывана… Аграмадны леў з закручаным абаранкам хвастом расцягнуўся на паўсцяны. Унізе пад ільвом — сіняе возера. На возеры плаваюць белыя лебедзі.

А на беразе возера, спусціўшы ногі ў ваду, сядзіць прыгажуня і пасміхаецца таму льву і тым лебедзям!

Ганька без зайздрасці не можа бачыць ні таго льва, ні тых лебедзяў, ні прыгажуні… Здаецца, усё аддала б на свеце, каб толькі павесіць такі дыван на сцяне ў сваёй хаце!.. Але што ты аддасі і каму аддасі, калі пашанцавала адным толькі Корбутавым.

Нейкі мастак, які хадзіў па вёсках, намаляваў ім гэты дыван за дзве гадзіны. І платы ўсяго папрасіў толькі кварту гарэлкі…

А больш нікому не намаляваў, бо некуды тады спяшаўся. Абяцаў вярнуцца — усім панамалёўваць такія дываны. Але так і не вярнуўся. Відаць, у другіх вёсках гарэлка была таксама».

жанчына, жыла не ў сваім доме, ела не свой хлеб і не магла займацца сваёй справай.

У 1949 годзе Алена Кіш утапілася — кажуць, ці то пра самагубства, ці то пра няшчасны выпадак: несла дровы, паслізнулася на кладцы і ўпала ў раўчук. Пахавалі «каўрыху» на мясцовых могілках і пачалі пакрысе забываць, што жыў такі чалавек. Яе маляваныя дываны таксама чакала забыццё. Фарбы асыпаліся, дываны хоць і не выкідалі, бо навошта выкідаць палатно, але перавешвалі ў хлявы, каб раздзяляць скаціну, падсцілалі ў будкі сабакам, сушылі на іх цыбулю.

### Вялікі Басалыга

Працы Алены Кіш адшукаў і вярнуў да жыцця мастак Уладзімір Басалыга. У дзяцінстве ён часта бываў на Случчыне ў бабулі і дзядулі і там у вясковых хатах бачыў на сценах дзівосныя маляванкі, якія нагадвалі яму старонкі казак. І гэтыя старонкі паўтараліся з хаты ў хату, быццам бы казка была адна і тая самая.

Калі вырас, даведаўся пра Алену Кіш і зрабіў тое, што калісьці зрабіла яна, — выправіўся вандраваць па Случчыне. Наведваў тыя ж дамы, дзе на



ФОТА СА СТАРОНКІ FACEBOOK МАКСІМА ОСІПАВА

некалькі дзён спынялася Кіш, і за дзесяць год вандровак сабраў трынаццаць дываноў. Фарбы на маляванках выцвілі ці абляцелі, палатно было сапсаванае брудам ці гноем, краі абтрапаліся. Разам з жонкай Уладзімір Басалыга адрэстаўраваў маляванкі, вярнуў ім казачны выгляд.

## За дзесяць год вандровак Басалыга сабраў трынаццаць дываноў

У 1978 годзе прайшла выстава, на якой упершыню былі прадстаўленыя працы Алены Кіш. Упершыню яны віселі не ў вясковай хаце, а ў сталічным Палацы мастацтваў. Пазней артыкул пра Кіш з'явіўся ў «Сусветнай энцыклапедыі наіўнага мастацтва», прысвечанай стагоддзю творчай дзейнасці Анры Русо. Гэта было прызнанне на міжнародным узроўні — і так атрымалася, што не толькі для Алены Кіш, а і для ўсяго наіўнага мастацтва нашай краіны.

**Фільм Галіны Адамовіч «Маляваны рай».**



### Русалкі клічуць

Калі б Алена Кіш паднялася з магілы, яна б не паверыла.

Сёння з выявамі яе маляванак выпускаюць адзенне, упрыгожанні і наручныя гадзіннікі — дзівосныя львы і тыгры больш не замкнёныя ў хатах. Яны на волі і падарожнічаюць па-за межамі Случчыны.

У нашых гарадах з'яўляюцца маляванкі памерам з дом — муралы Максіма Осіпава, натхнёныя матывамі Алены Кіш. Тая ж стылістыка, але зусім новыя сюжэты — і новыя сэнсы, новыя аповеды.

Рэжысёр Аляксандр Марчанка паставіў спектакль «Прымітывы», які расказвае пра лёс мастачкі. А аўтарка гэтага артыкула напісала кніжку «Русалкі клічуць», прысвечаную творчасці Кіш, і ўпэўненая: яшчэ будзе працяг. Прыгажосць, простасць і шчырасць творчасці Алены Кіш стала сенсацыяй, бо адкрывае нешта ў нас саміх — такое ж простае і шчырае, радаснае і яскравае, што натхняе на новыя здзяйсненні, як бы наіўна гэта ні гучала. ◆



**Зараслава Камінская**

Пісьменніца. Нарадзілася ў 1985 годзе. Скончыла журфак БДУ, працуе ў сферы рэкламы. Яе першая кніга «Русалкі клічуць» атрымала прэмію «Дэбют». Гэта дэтэктыў у стылі Караткевіча, у ім сплятаюцца дзве сюжэтныя лініі: падзеі нашых дзён і 1950-х гадоў. Адна з гераінь аповесці — Алена Кіш. Другая кніга «Калядны стол. Некулінарная кніга» — невялікі зборнік апавяданняў пра сямейныя стравы пісьменніцы.

# Валянцін Пянькоўскі

## Баявы генерал, якога блытаюць са шпіёнам




**Нават у парадным мундзіры генерала арміі вочы Валянціна Пянькоўскага выдаюць добрага чалавека.** Нібы Дзед Мароз зняў сваю доўгую ватную бараду і замяніў чырвонае футра з вялікім белым каўняром на вайсковую форму.

**Вучыўся ў Аб'яднанай беларускай вайсковай школе ў час беларусізацыі, трапіў пад абвінавачванні НКВД, прайшоў усю вайну і даслужыўся да генерала арміі. Пра таленавітага беларуса-военачальніка і злавесны цень шпіёна-аднафамільца піша вайсковы гісторык Віталь Чырвінскі.**

У савецкім войску адзінаццаць ураджэнцаў Беларусі даслужыліся да высокага вайсковага звання генерала арміі. Дзесяць з іх пасля смерці былі ўрачыста пахаваныя ў Маскве. А адзіным з іх, хто знайшоў спачын у роднай зямлі, стаў Валянцін Пянькоўскі. І на тое былі свае прычыны.

### У войску з 16 гадоў

Валянцін Пянькоўскі нарадзіўся ў 1904 годзе ў Магілёве ў сям'і чыгуначніка. Ягоны бацька, Антон Іванавіч, быў селянінам, паходзіў з вёскі Варнавіна на Мсціслаўшчыне, у пошуках лепшай долі перабраўся ў горад.

У 1918 годзе Валянцін скончыў два класы 2-й ступені (у сённяшнім разуменні — 5 і 6 класы). Так ён пасля пазначыў сваю адукацыю ў аўтабіяграфіі. Верагодна, гэта было Аршанскае рэальнае вучылішча, якое ў 1918 годзе рэарганізавалі ў школу 2-й ступені (8 класаў).

Пятнаццацігадовым юнаком Пянькоўскі ўладкаваўся чорнарабочым на чыгунку ў Оршы. Улетку падпрацоўваў парабкам на вёсцы. А восенню 1920 года запісаўся ў шэрагі Чырвонай арміі, а дакладней — у ваенізаваную ахову (ВОХР).

Гісторыя склалася так, што ў наступныя дзесяцігоддзі найбольшае значэнне ў СССР будуць мець змаганне з контррэвалюцыяй і будаўніцтва сацыялізму. І хоць чырвонаармеец Пянькоўскі не браў удзелу ва ўзброеных сутычках з «контррэвалюцыйнымі элементамі», толькі ахоўваў чыгунку і важныя аб'екты на ёй, а таксама суправаджаў грузы, у афіцыйнай яго біяграфіі з'явіўся карысны для далейшай кар'еры пункцік: «удзельнік Грамадзянскай вайны».

У студзені 1921 года войскі ВОХР расфарміравалі, а Пянькоўскі выказаў жаданне служыць далей. Сямнаццацігадовага юнака накіравалі ў Петраград, дзе ён праз год скончыў 21-я кавалерыйскія курсы. Так атрымалася, што ў складзе зводнага эскадрона курсантаў ▶

**Генерал арміі**

персанальнае вайсковае званне ва Узброеных сілах СССР, другое па старшынстве пасля маршала Савецкага Саюза. Званні маршалаў родаў войск і спецыяльных войскаў (авіяцыі, артылерыі, бранятанкавых войскаў, інжынерных войскаў і войскаў сувязі) адпавядалі агульнавайсковаму званню генерал арміі.





ФОТА АЛЯКСЕЯ ДРУПАВА, RADZIMA.ORG

**Аршанскае рэальнае вучылішча** (з 1918 года — школа другой ступені, цяпер — аршанская гімназія № 2).

ён паўдзельнічаў у «ліквідацыі белафінскай авантуры ў Карэліі», то-бок задушэнні рэгулярнымі часткамі Чырвонай арміі (8,5 тысячы чалавек) у лістападзе 1921 – сакавіку 1922 года Карэльскага антыбальшавіцкага паўстання. Гэты эпізод таксама знайшоў сваё месца ў ягоных будучых біяграфіях.

### «Вышэйшай адукацыі няма, але і патрэбы ў ёй не мае»

Ваяваць, відаць, юнаку спадабалася, таму пасля заканчэння ваенных дзеянняў ён вырашыў будаваць кар’еру прафесійнага вайскоўца. Але аднаго практычнага баявога досведу было для гэтага недастаткова, трэба было і падвучыцца.

У Аб’яднаную беларускую вайсковую школу ў Мінску (АБВШ), дзе рыхтавалі будучых узводных камандзіраў, Пянькоўскі трапіў у самы разгар беларусізацыі. У маі 1925 года, калі ён вучыўся на другім курсе, у школе з’явіліся першыя статуты і падручнікі на беларускай мове, частку заняткаў сталі праводзіць на роднай мове курсантаў-беларусаў. І ў наступныя два гады калектыў школы намагаўся паставіць «цягнік АБВШ» на беларускія рэйкі. Падрабязней пра гэту школу і яе славутых выпускнікоў гл. у артыкуле «Базыль Маргелаў і Янка Якубоўскі: хто і што пісаў у беларускамоўную “Чырвонаармейскую праўду”» (№ 3/2018 «Нашай гісторыі»).

**Будынак АБВШ.**



WIKIMEDIA COMMONS



ФОТА З АРХІВА СЯМІ ПЯНЬКОЎСКІХ

**Старшы лейтэнант Валянцін Пянькоўскі.** 1930-я гады.

### Адукацыю Валянціна Пянькоўскага складалі

- 21-я кавалерыйскія курсы Петраградскай вайсковай акругі (1922);
- няскончаная 2-я кавалерыйская школа ў Петраградзе (снежань 1922 – красавік 1923);
- АБВШ (1924–1931);
- курсы ўдасканалення камсаставу зенітнай артылерыі ў Севастопалі (1933);
- курсы ўдасканалення камсаставу зенітнай артылерыі ў Еўпаторыі (1940);
- Вышэйшыя акадэмічныя курсы пры Вышэйшай ваеннай акадэміі імя Варашылава (1947).

Мабыць, вучылі ў Мінску добра, калі будучы военачальнік збудаваў усю сваю наступную кар’еру на атрыманай у АБВШ сярэдняй адукацыі. Пазней, ужо пасля вайны, у адной са службовых характарыстык ягоны камандзір так і напісаў: **«вышэйшай адукацыі няма, але і патрэбы ў ёй не мае»**. Без яе Пянькоўскі так і абышоўся да канца жыцця. Іншымі яго «ўніверсітэтамі» былі толькі розныя курсы ўдасканалення.

### Два гады за кратамі НКВД

Таксама «ўніверсітэтамі», але ўжо жыццёвымі, былі для Пянькоўскага год і дзевяць месяцаў за кратамі. У чэрвені 1938 года яго, як і многіх вайскоўцаў у тыя гады, арыштавалі па лжывым даносе. Ён тады акурат вярнуўся ў Беларусь з Севастопаля, дзе служыў камандзірам дывізіёна курсантаў мясцовага вучылішча



**Разам з каханай жонкай Эмай.** 1930-я гады.

ФОТА З АРХІВА СЯМ'І ПЯНЬКОЎСКІХ

зенітнай артылерыі — і трапіў пад абвінавачанне: польскі шпіён. Падставай стала польскае паходжанне яго каханай жонкі Эмы Стэфанаўны з Рабчынскіх.

## Брат таксама рэпрэсаваны

У сваёй аўтабіяграфіі, напісанай у 1951 годзе, Валянцін Пянькоўскі ўзгадаў пра лёс свайго роднага малодшага брата Уладзіміра.

Да вайны брат працаваў у Маскве інжынерам-будаўніком. У 1941 годзе быў мабілізаваны на абарончыя працы і знік. Лічыўся загінулым, але пасля вайны вярнуўся: быў у палоне. Праходзіў праверку ў кампетэнтных органах, якія спачатку быццам бы даравалі «грэх», што выжыў, але ў 1947 годзе ўсё ж арыштавалі і выслалі ў Краснаярскі край.

«Куды, дакладна не ведаю, як не ведаю і за што. Сувязі не маю. Аб факце рэпрэсавання брата адразу ж далажыў маршалу Савецкага Саюза таварышу Булганіну (тады міністру) і начальніку Галоўнага ўпраўлення кадраў», — напісаў баявы генерал у сваё апраўданне.

Пянькоўскага пазбавілі пасадаў, дапытвалі і катавалі. Жонку з шасцігадовым сынам выселілі са службовай кватэры, і яны былі вымушаныя шукаць спосабы выжыць. Але Пянькоўскі не зламаўся, не агаварыў сябе. І ўрэшце быў вызвалены. Ці мог уявіць звольнены з арміі маёр, седзячы ў сакавіку 1940 года ў турэмнай камеры, што пройдуць усяго нейкія два з паловай гады — і ён стане ўжо генерал-маёрам?

## Як палонныя румыны

Калі нацысцкая Германія напала на СССР, Пянькоўскі ўжо служыў у Кіеўскай асобай вайсковай акрузе. Падчас «Кіеўскай катастрофы» 1941 года на 17 сутак трапіў у акружэнне, але здолеў вырвацца. Узначаліўшы вялікую групу вайскоўцаў, камандзір вывеў яе да сваіх: арганізавана, са зброяй, дакументамі і ў вайсковай форме, разам з параненымі, якіх не пакінуў на згубу. За гэта Пянькоўскага ўзнагародзілі ордэнам Чырвонага Сцяга. «Устойлівы, бясстрашны ў баі,

**Кіеўская стратэгічная абарончая аперацыя**
(7 ліпеня — 26 верасня 1941 года) скончылася «Кіеўскім катлом», у які трапілі войскі Паўднёва-Заходняга фронту, страціўшы больш за 500 тысяч чалавек забітымі, параненымі і палоннымі. Страты праціўніка — 128 670 чалавек.

аддaны радзіме камандзір» — гаварылася ва ўзнагародным лісце.

Падчас бітвы пад Сталінградам Пянькоўскі ваяваў у складзе Паўднёва-Заходняга фронту, якому супрацьстаялі румынскія войскі. Гэта была ідэя начальніка штаба 21-й арміі Валянціна Пянькоўскага — замаскіраваць ад ворага войскі на правым беразе Дона. Ад захавання гэтай таямніцы залежаў поспех контрнаступлення, таму будаваліся фальшывыя масты, імітавалася дзейнасць усіх вайсковых службаў, нават радыёграмы былі складзеныя так, каб заблытаць ворага.

І ўсё гэта дало плён. Удар атрымаўся нечаканы і забяспечыў поспех войскаў усяго фронту. 3-я румынская армія была разбітая, шмат румынскіх вайскоўцаў трапіла ў палон. Сярод іншых ваеннапалонных румыны, у нядаўнім мінулым ▶



WARALBUM.RU

**Румынскія вайскоўцы, захопленыя ў палон пад Сталінградам** войскамі Паўднёва-Заходняга фронту. Снежань 1942 года.


ФОТА ЯКАВА ГУДКОВА, РИА НОВОСТИ

**Савецкія войскі ў вызваленым ад японцаў Пхеньяне.** 1945 год.

неадукаваныя сяляне, вылучаліся нейкай недысцыплінаванасцю, затузанасцю. Можа, тады і нарадзілася прымаўка: «Што вы цягнецеся, як палонныя румыны»?

Ваяваў Пянькоўскі і на Курскай дузе. Вечарам 6 ліпеня ён стаў сведкам легендарнага паветранага бою, калі ў небе над яго камандным пунктам лётчык-беларус Аляксандр Гаравец (гл. пра яго артыкул у № 12/2019 «Нашай гісторыі») збіў 9 самалётаў праціўніка. А летам 1944 года ў складзе 1-га Прыбалтыйскага фронту вызваляў беларускія гарады і вёскі.

### Місія ў Паўночнай Карэі

Капітуляцыю нацысцкай Германіі Валянцін Пянькоўскі сустрэў у Латвіі. Ледзь паспеў наведаць у адпачынку сваю сям'ю — і адразу рушыў на Далёкі Усход, дзе ўзначаліў штаб 25-й арміі. Чырвоная армія рыхтавалася да баявых дзеянняў супраць Японіі.

8 жніўня 1945 года СССР аб'явіў вайну Японіі. Саюзнікі па антыгітлераўскай кааліцыі — Вялікабрытанія і ЗША — вялі вайну з Японіяй са снежня 1941-га, і Маньчжурская наступальная аперацыя была часткай абавязальніцтваў перад саюзнікамі, узятых


WIKIMEDIA COMMONS

На трыбуне былі капітан Чырвонай арміі Кім Ір Сен на мітынгу ў Пхеньяне 14 кастрычніка 1945 года. На яго цывільным пінжаку першая савецкая ўзнагарода — ордэн Чырвонага Сцяга, атрыманы па выніках Маньчжурскай аперацыі. Сярод савецкіх военачальнікаў у гэты момант на трыбуне знаходзіўся і начальнік штаба 25-й арміі генерал-лейтэнант Валянцін Пянькоўскі.

На гэтым самым мітынгу, які праводзіўся ў гонар Савецкай Арміі і праходзіў на гарадскім стадыёне, выступіў камандуючы 25-й арміяй генерал-палкоўнік Іван Чысцякоў, які прадставіў карэйцам, што сабраліся, Кім Ір Сена як іх «нацыянальнага героя». Так пачалося ўзыходжанне Кім Ір Сена да вяршыняў улады. У 1953 годзе ён стане ўжо маршалам КНДР, а яшчэ пазней — прэзідэнтам. Ад самага ўтварэння КНДР сям'я Кімаў не саступала нікому вярхоўную ўладу ў Паўночнай Карэі ні на хвіліну. Пасля смерці Кім Ір Сена ў 1994 годзе ягоную неабмежаваную ўладу пераняў сын Кім Чэн Ір, а калі ў 2011-м памёр і ён — то «ўцараваўся» ўжо ягоны сын Кім Чэн Ын.

Іосіфам Сталіным на Ялцінскай канферэнцыі (гл. пра яе ў № 8/2019 «Нашай гісторыі»). 25-я армія, дзе служыў начальнікам штаба Валянцін Пянькоўскі, разбіла японцаў і замацавалася на паўночнай частцы Карэйскага паўвострава.

### Дэмантаваў помнік Сталіну ў Мінску

У маі 1961 года, перад гэтым 15 гадоў праслужыўшы начальнікам штаба шэрагу вайсковых акругаў, перадусім на ўсходзе СССР, Валянцін Пянькоўскі атрымаў высокае званне генерала арміі. А праз два месяцы ён вярнуўся на радзіму: быў прызначаны на пасаду камандуючага войскамі Беларускай вайсковай акругі.

У СССР у гэты час разгарнулася рашучая барацьба з культам Сталіна. На гістарычным XXII з'ездзе КПСС у Маскве (17–31 кастрычніка 1961 года), які прыняў па гэтым пытанні гучныя пастановы, у якасці дэлегата

з правам голасу прысутнічаў і Валянцін Пянькоўскі.

У ноч на 1 лістапада, рэалізуючы пастановы з'езда, труну з целам «бацькі народаў» прыбралі з Маўзалея на Краснай плошчы ў Маскве. А пасля таго па ўсіх гарадах і населеных пунктах Савецкага Саюза пачалося хуткае знішчэнне выяў тырана і пастаўленых у яго гонар помнікаў, а таксама перайменаванне вуліц ягонага імя. Не стаў выключэннем і Мінск.

Ужо 2 лістапада праспект імя Сталіна, «улічваючы шматлікія прапановы працоўных і хадайніцтвы савецкіх і грамадскіх арганізацый горада Мінска», быў перайменаваны ў Ленінскі праспект. Мы не ведаем, ці хутка памянялі шыльды на дамах, але ў нумары газеты «Звязда» за 1 лістапада адрас рэдакцыі яшчэ быў пазначаны як «праспект імя Сталіна, 77», а назаўтра адрас рэдакцыі аператыўна змяніўся — «Ленінскі праспект, 77».

Знішчэнне помніка Сталіну, які ўсяго 9 гадоў таму, у 1952-м, быў урачыста пастаўлены на Цэнтральнай (цяпер Кастрычніцкай) плошчы, даручылі вайскоўцам. Штаб Беларускай вайсковай акругі знаходзіўся адносна недалёка ад Цэнтральнай плошчы, забудовы паміж імі тады не было, таму камандуючы ▸

## Генерал, які не мацюкаўся

Па ўспамінах сучаснікаў, Пянькоўскі быў вельмі чулым чалавекам. Яго камандарм падчас карэйскай аперацыі Іван Чысцякоў дзівіўся вытрыманасці свайго начштаба ў любой складанай абстаноўцы. «Фізічна вельмі дужы, нястомны, ён захапляў навакольных сваёй энергіяй... Як у многіх, былі ў яго любімыя слоўцы. Калі звяртаўся да яго з непрыемным для сябе пытаннем усхваляваны чалавек, Пянькоўскі звычайна скажа яму бадзёра: "Уля-я-я! Ну, а цяпер давай разбяромся..." Баявы кліч, вымаўлены на дзіцячы лад, звычайна аднačасова і бадзёрыў, і суцяшаў».

Пянькоўскі ніколі не дазваляў сабе мацернага спічу пры падначаленых, што было неверагодным у ваенных умовах.

«Давай, Іван Міхайлавіч, паскачам на конях», — толькі і казаў ён Чысцякову, калі здавалі нервы.



**Пянькоўскія назвалі свайго адзінага сына дзіўным іменем — Эмвал (Эма + Валянцін).** У тыя часы захапленне падобнымі наватворамі не было рэдкасцю. Праўда, пасля рэвалюцыйны энтузіязм прыгас, і ў пашпарце сын ужо быў запісаны Валянцінам. Валянцін Пянькоўскі-малодшы таксама стаў вайскоўцам, даслужыўся да палкоўніка і пахаваны каля сваіх бацькоў на Усходніх могілках Мінска. Фота з архіва сям'і Пянькоўскіх, другая палова 1950-х гадоў.

### «Бульбы дайце хутчэй!»

Валянцін Пянькоўскі вельмі любіў бульбу. Ён нібыта і жартаваў, нагадваючы пра сваю любоў, але настолькі часта, што нават і пасля вайны яго паплечнікі ўспаміналі, як генерал прасіў у сталоўцы па-беларуску: «Бульбы, бульбы дайце хутчэй...»

Цаніў ды вылучаў і саміх беларусаў. У 1962 годзе, калі камандаваў Беларускай вайсковай акругай, наведаў новапабудаваны Мерлінскі палігон у Столінскім раёне. Прыляцеў туды на верталёце, а па палігоне ехалі на вайсковай машыне, кіроўцам якой быў Іван Саўко. «Выпаў мне такі гонар таму, што газік, на якім я вазіў камандзіра батальёна Іванова, быў найменш пабіты тутэйшымі дарогамі і выглядаў больш прыстойна, чым іншыя транспартныя сродкі, — згадвае кіроўца. — Пянькоўскі сеў на пярэдняе сядзенне і адразу спытаўся: “Сам адкуль?” Пачуўшы, што я з Гродзеншчыны, сказаў: “Свой, беларус”».

▶ войскамі генерал арміі Валянцін Пянькоўскі, верагодна, мог бачыць помнік непасрэдна са свайго працоўнага месца.

Невядома, якія думкі блукалі тады ў галаве адданага камуніста Пянькоўскага. Але загад быў выкананы, і ўсё было зроблена па-вайсковаму «чотка». У ноч на 3 лістапада плошчу, дзе стаяў помнік, ачапілі плотам і вайскоўцамі. Дзесяціметровую статую абматалі тоўстым сталёвым тросам — і два танкавыя цягачы, пасля некалькіх спробаў расхістаць, здолелі яе паваліць. Боты, умацаваныя ў глыбіню канструкцыі сталёвымі рэйкамі, адрывалі асобна. Так помнік, які будаваўся на вякі, не пражыў і дзясятка гадоў.

### «Сваяк» агента брытанскай і амерыканскай разведак

У 1963 годзе савецкае грамадства, не распешчанае ўнутранымі сенсацыямі, проста ўскалыхнулася ад гучнай навіны: палкоўніка Галоўнага разведвальнага ўпраўлення Алега Пянькоўскага вінавацяць у шпіянажы на карысць ЗША і Вялікабрытаніі!

«Здрадніка радзімы» расстралялі, а прозвішча «Пянькоўскі» на прасторах Савецкага Саюза стала асацыявацца перадусім з ім. А праз два гады — яшчэ адзін інфармацыйны выбух: за мяжой выйшлі «Запіскі Пянькоўскага». Якія савецкі бок, вядома, назваў «брудным, правакацыйным фабрыкаваннем англійскай і амерыканскай разведак».

У сваіх запісках Алег Пянькоўскі называў Валянціна Пянькоўскага бацькавым дзядзькам (братам дзеда). Пісаў ён пра гэта з гонарам, але ёсць меркаванне, што гэта быў проста халодны разлік: магчыма, «сваяцтва» з генералам арміі ўзмацняла пазіцыі шпіёна ў вачах заходніх партнёраў, надавала яму вагі.

Можна толькі здагадвацца, што перажываў у сувязі з гэтымі падзеямі баявы генерал. Але, на ягонае шчасце, КГБ і контрразведка, правёўшы праверку, афіцыйна прызналі, што выкрыты шпіён — проста аднафамілец генерала. Тым не менш «асадачак застаўся».

Эма Валянцінаўна Пянькоўская, унучка генерала, і сёння ў 99 выпадках са 100 чуе пра агента амерыканскай і англійскай выведак, калі называецца па прозвішчы заслужанага дзеда...



XFILE.RU

**Алег Пянькоўскі** (1919–1963) палкоўнік Галоўнага разведвальнага ўпраўлення Генштаба Узброеных сілаў СССР. У 1963 годзе абвінавачаны ў шпіянажы на карысць ЗША і Брытаніі і за гэта расстраляны.

Лічыцца, што менавіта Пянькоўскі праінфармаваў амерыканцаў, што падчас Карыбскага крызісу 1962 года СССР будзе рабіць стаўку не на міжкантынентальныя балістычныя ракеты, а на балістычныя ракеты сярэдняй дальнасці Р-12. Таксама Пянькоўскі даў дакладную інфармацыю пра ваенныя планы і верагодную стратэгію СССР у гэтым канфлікце, уключаючы магчымы ўдар па Заходнім Берліне.

Акрамя таго, Пянькоўскі нібыта першым паведаміў амерыканцам і брытанцам пра меркаванае ўзвядзенне ў 1961 годзе Берлінскай сцяны, а таксама загадзя праінфармаваў іх пра прызначэнне на 1 верасня 1961 года пачатку новай серыі савецкіх ядзерных выпрабаванняў на Семіпалацінскім палігоне — нягледзячы на тое, што савецкі ўрад раней абяцаў не аднаўляць іх.

Для Валянціна Пянькоўскага Алег Пянькоўскі быў толькі аднафамільцам, аднак быў звязаны сваяцкімі сувязямі з іншым генералам-беларусам: ягоным цесцем быў ураджэнец вёскі Танежыцы ў цяперашнім Слуцкім раёне Мінскай вобласці генерал-лейтэнант Дзмітрый Гапановіч. Але пашкодзіць цесцю ўчынак зяця ўжо ніяк не мог, бо Гапановіч памёр у 1952 годзе, больш чым на дзесяць гадоў раней за гэтыя гучныя падзеі.

## Пахаваны ў роднай зямлі

Памёр Валянцін Пянькоўскі ў Мінску 26 красавіка 1969 года: раптоўна, як звычайна пішуць у такіх выпадках, у росквіце сіл.

Ягоныя апошнія пасады не былі звязаныя з Беларуссю. Пасля трохгадовага камандавання войскамі Беларускай вайсковай акругі ён чатыры гады быў намеснікам міністра абароны СССР па баявой падрыхтоўцы, а затым — ваенным інспектарам-саветнікам групы генеральных інспектараў Міністэрства абароны СССР. Зразумела, што жыў у Маскве, але хавалі яго тым не менш у Мінску.

Пахаванне адбывалася вельмі ўрачыста. Блакітная зала Дома афіцэраў. Найвышэйшае кіраўніцтва рэспублікі ў ганаровай варце. Труна на гарматным лафеце. Працэсія па Ленінскім праспекце. На плошчы Перамогі труну знялі з лафета і абнеслі вакол помніка.

А пахавалі Валянціна Пянькоўскага на Усходніх могілках у найбольш ганаровым месцы — насупраць цэнтральнага ўвахода. Да яго ў гэтым месцы, зарэзерваваным для найвышэйшых партыйных бонзаў БССР, была толькі адна магіла — Героя Савецкага Саюза і шматгадовага старшыні прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Васіля Казлова, які памёр у снежні 1967 года.

Цяпер жа ў тым месцы — магілы 13-ці беларускіх савецкіх дзеячаў, гэта пэўны беларускі аналаг маскоўскіх пахаванняў каля Крамлёўскай сцяны. Амаль усе асобы, якія там ляжаць, у дзень пахавання Пянькоўскага стаялі ля яго труны з чырвона-чорнымі павязкамі на рукавах: Уладзімір Каменскі, Іван Палякоў, Уладзімір Лабанок, Уладзімір Міцкевіч, Сяргей Прытыцкі,




ФОТА ВІТАЛЯ ЧЫРВІНСКАГА

**Помнік на магіле Валянціна Пянькоўскага.** Мінск, Усходнія могілкі.

Фёдар Сурганаў, Ціхан Кісялёў, Пятро Машэраў.

Кожнае з пералічаных прозвішчаў вы лёгка сустрэнеце ў тапаніміцы Мінска і іншых беларускіх гарадоў, іх імёны носяць школы і каледжы.

А вось Пянькоўскага ў гэтым шэрагу няма. Пасля яго смерці так і не з'явілася аніводнай вуліцы яго імя: ні ў родным Магілёве, ні ў Оршы, дзе ён правёў маладосць, ні ў Мінску, ні нават у Полацку, які ён вызваляў у 1944 годзе і дзе яму прысвоілі тытул ганаровага грамадзяніна. Ні школам, ні піянерскім дружынам ягонае імя не прысвойвалася, хоць гэта тады было модна. Адсутнічае нават памятная шыльда ў гонар генерала-беларуса на доме, дзе ён жыў у Мінску.

Можна меркаваць, што гэта было непасрэдна звязана з дзейнасцю аднафамільца-шпіёна, чыё прозвішча было на слыху. І пра яго не хацелі лішні раз нагадваць нават такім чынам. Можа, менавіта ў гэтым таксама прычына, чаму і пахавалі генерала арміі з месцам працы ў сталіцы СССР на радзіме, а не на адным з галоўных пантэонаў Масквы, як гэта звычайна рабілі з вайскоўцамі такога ўзроўню? ◆



ФОТА ВІТАЛЯ ЧЫРВІНСКАГА

**Бранявы завулак, 4** — наменклатурны дом, дзе жыў Валянцін Пянькоўскі, а цяпер жывуць ягоныя нашчадкі. На той момант ён быў адным з найлепшых у Беларусі.

# Прадзедава багацце

**У канцы лета 1911 года жыхар наднёманскай вёскі Плябанскія (цяпер у Гродзенскім раёне, у ваколіцах Сапоцкіна) Адам Вашкевіч завёў сабе ашчадную кніжку, паклаўшы на яе для пачатку 100 рублёў, піша Андрэй Вашкевіч.**

З АРХІВА АЎТАРА

Селяніну Адаму Вашкевічу, сыну Яна, у 1911 годзе было трыццаць гадоў, і ён бадай што ўпершыню ў жыцці адчуваў сябе паўнапраўным гаспадаром. Нарэшце ён цалкам разлічыўся са сваімі сёстрамі і братамі: сёстры атрымалі грашовы пасаг, а аднаму з братоў сабралі грошы на ад'езд у Амерыку. Пасля таго Адам застаўся адзіным гаспадаром на адносна невялікім надзеле зямлі — менш за дзесяць гектараў. І нарэшце мог падумаць пра сям'ю ды адкладанне грошай на развіццё сваёй гаспадаркі.

**Да лета 1914 года ў Адама Вашкевіча «на кніжцы» назбіралася 450 рублёў**

Наступныя тры гады ён час-почас ездзіў у недалёкае мястэчка Сапоцкін і клаў на свой рахунак сто альбо пяцьдзясят рублёў. А некалькі разоў нешта з рахунку і здымаў. Так да лета 1914 года ў яго «на кніжцы» назбіралася 450 рублёў. Малая ці вялікая гэта была сума і як наогул выглядала сістэма грашовага абарачэння ў тыя часы — паспрабуем разабрацца.



**Сенны рынак у Гродне.** Пачатак XX стагоддзя.

## Ад разнабою да монаметалізму

Пачнём здалёк. У першай палове XIX стагоддзя грашовае абарачэнне на тэрыторыі Гродзеншчыны было даволі складаным. Тут адначасова хадзілі як срэбраныя злотыя і грошы Царства Польскага (1 злоты = 30 грошаў), так і папяровыя ды срэбраныя рублі Расійскай імперыі (1 рубель = 100 капеек). 1 срэбраная капейка раўнялася 2 срэбраным грошам, адпаведна, 1 рубель прыраўноўваўся прыкладна да 6 злотых і 66 грошаў. А было яшчэ таксама паралельнае хаджэнне срэбраных і папяровых рублёў, срэбраных і медных капеек. 5 папяровых рублёў каштавалі ўсяго каля 1,25 срэбранага рубля, а 1 срэбраная капейка — прыкладна 4 медныя.

Памятаеце, Чычыкаў у гогалеўскіх «Мёртвых душах» прапаноўваў памешчыцы Каробачцы 15 рублёў — *«и не серебром, а всё синими ассигнациями»*. Сіні колер мела пяцірублёвая паперка. Калі перавесці ў срэбра, то 15 папяровых рублёў складалі недзе 3 рублі 75 капеек.

І так куды ні глянь. Уявіце сабе, колькі высілкаў каштавала ўтрымаць у галаве ўсю гэтую сярэдняявечную грашовую блытаніну!

Каб стабілізаваць і спрасціць фінансавую сістэму, расійскі ўрад у 1839–1843 гадах правёў грашовую рэформу, якой кіраваў міністр фінансаў граф Ягор Канкрын. У 1839 годзе быў выдадзены маніфест аб будучай фінансавай рэформе і ўвядзенні срэбранага монаметалізму. **Монаметалізм** — грашовая сістэма, пры якой адзін з высакародных металаў становіцца ўсеагульным эквівалентам і асновай грашовага абарачэння. Сутнасць грашовай рэформы была ў замене папяровых грошай (асігнацый) на крэдытныя білеты, якія павінны былі свабодна разменьвацца на срэбра. У сваю чаргу, срэбраная манета вызначалася як галоўная манета

## Ваколіцы гарадскога пасёлка Сапоцкін

паўночна-ўсходні кавалачак цяперашняга Гродзенскага раёна — адзіная мясцовасць сучаснай Рэспублікі Беларусь, якая ў XIX стагоддзі афіцыйна ўваходзіла ў склад аўтаномнага Царства Польскага і да самага канца існавання Расійскай імперыі лічылася часткай польскага «Прывіслінскага краю».

Гэта абумовіла спецыфіку гэтых мясцін. Тутэйшыя, ад пачатку праваслаўныя, сяляне пасля Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 года былі разам з іншымі аднаверцамі пераведзеныя ў грэка-каталіцтва (уніяцтва). Але калі на большай частцы беларускіх і ўкраінскіх земляў расійскія ўлады скасавалі унію ў 1839 годзе, то на тэрыторыі Царства Польскага яна пратрымалася амаль на 40 гадоў даўжэй. І калі ў 1875 годзе ў царскіх уладаў нарэшце дайшлі рукі і да мясцовых уніятаў, было ўжо позна: супраціў скасаванню уніі тут быў непараўнальна мацнейшы і ўпарцейшы.

І хоць фармальна, задушыўшы стыхійныя бунты, уладам удалося ўрэшце ўсталяваць тут фармальнае праваслаўе, маральна большасць насельніцтва гэтага не прымала і працягвала рознымі спосабамі супраціў, дабіваючыся права замест праваслаўя перайсці ў каталіцтва. У гэтай барацьбе мясцовыя сяляне паралельна набывалі і моцную польскую нацыянальную свядомасць.

Калі ў 1905 годзе імператар Мікалай II пад уплывам Першай расійскай рэвалюцыі вымушаны быў выдаць указ аб верацярпімасці, пераважная большасць фармальна праваслаўных сялян з-пад Сапоцкіна адразу ж перайшла ў рыма-каталіцтва, праваслаўныя прыходы тут практычна перасталі існаваць. З таго часу мясцовыя вёскі і сам Сапоцкін — каталіцкі край, а таксама адзін з цэнтраў польскага нацыянальнага жыцця ў Беларусі.







абарачэння, мера ўсіх каштоўных папер і аблігацый.

У выніку фінансавай рэформы паралельныя «срэбраны» і «медны» курсы рубля былі ліквідаваныя, а папяровы рубель быў прыраўняны да срэбранага. Аднак пратрымалася так нядоўга: пасля Крымскай вайны сітуацыя вярнулася да стану першай паловы XIX стагоддзя, калі адна срэбраная капейка каштавала некалькі медных.

### Залаты стандарт

У 1890-х гадах у Расійскай імперыі была праведзена грашовая рэформа пад кіраўніцтвам міністра фінансаў Сяргея Вітэ. Вітэ прапанаваў імператару Мікалаю II, які толькі-толькі заступіў тады на трон, прывязаць папяровы рубель да золата. У 1895 годзе банкі пачалі абменьваць папяровыя грошы на залатыя, а ў 1897-м выйшаў указ, які дазволіў дзяржбанкам друкаваць банкноты, забяспечаныя золатам. У наступным годзе выйшла першая такая купюра — 1 рубель. На грашах стаялі подпісы кіраўніка банка і касіра.

З наяўнасцю подпісу апошняга звязаная адна тагачасная прымха. Карцёжнікі, гульцы на скачках і іншыя азартныя людзі лічылі, што рубель з подпісам касіра Брута (які сам быў вядомым карцёжнікам і, прайграўшы вялікую суму казённых грошай, павесіўся) з'яўляецца шчаслівым. Рынкавы кошт такой купюры даходзіў да 25 рублёў!

Купюры выпусцілі наступных наміналаў: 1, 3, 5, 10, 25, 100 і 500 рублёў. Яны былі куды большыя, чым нашы цяперашнія, а пяцісотка была зусім неймаверных памераў: 27,5 × 12,7 см. Залатыя манеты былі адбітыя наміналам у 5, 7,5 (паўімперыял), 10 і 15 рублёў (імперыял). На папяровых грашах размяшчаліся партрэты розных расійскіх імператараў, а асоба дзейнага, Мікалая II, была толькі на манетах.

Такім чынам, рэформай Вітэ быў уведзены залаты рубель, на які можна было памяняць усе старыя папяровыя крэдытныя білеты па курсе 1 за 1,5. Фактычна гэта было схаванай дэвальвацыяй расійскага рубля на 30%. Новыя папяровыя грошы мяняліся на залаты рубель без абмежаванняў з 1897 па 1914 год.

### Багацце Адама Вашкевіча

Менавіта такіх забяспечаных золатам 450 рублёў назбіраў да лета 1914 года селянін з-пад Гродна Адам Вашкевіч. Многа гэта ці мала?

У 1913 годзе сярэднямесячны заробак у прамысловасці складаў 24 рублі. Рабочы з добрай кваліфікацыяй зарабляў 50–80 рублёў, капітан пяхоты —

## Заробкі і цэны ў першай палове XIX стагоддзя

Землякоп на будаўніцтве Аўгустоўскага канала зарабляў 20 капеек срэбрам у дзень, сялянка на стрыжцы авечак — 30 капеек, селянін, працуючы з канём у полі, меў 60 капеек за дзень. Панскі кухар зарабляў каля 100 рублёў у год, эканом — 800 рублёў, паручнік пяхоты — 700 рублёў, генерал — каля 2500 рублёў у год.

Кілаграм хлеба каштаваў 5 капеек, мяса — 10–12 капеек. Вельмі цанілася сала, якое каштавала каля 25 капеек за кілаграм. Дарагімі былі цукар (40 капеек за кілаграм), масла (25 капеек), яйкі (10 капеек за дзясятак). Конь каштаваў каля 60 рублёў, карова — ад 20 да 30 рублёў.



### Цэны пачатку XX стагоддзя

Добрая дойная карова каштавала тады каля 60 рублёў, рабочы конь — 70 рублёў, верхавы — каля 150 рублёў. Кілаграм солі — 4 капейкі. Цукар у параўнанні з першай паловай XIX стагоддзя патаннеў да 25 капеек за кілаграм. Мяса высокай якасці каштавала каля 50 капеек за кілаграм, курыца — 70 капеек, хлеб — каля 8 капеек за кілаграм. Абед каштаваў ад 15 капеек у шынку да 1,5–2 рублёў у прыстойным рэстаране. Здымаць невялікую кватэрку ў губернскім горадзе каштавала каля 20 рублёў на месяц. Дзелавы касцюм можна было набыць за 8 рублёў, боты — за 5 рублёў, гармонік — каля 6 рублёў, грамафон — 40 рублёў. Рэдкасцю ў той час былі аўтамабілі. Чырвоны «Форд» князя Друцкага-Любецкага, на якім ён ездзіў па Гродне, каштаваў каля 2000 рублёў.



**Рынак у Мінску.** Пачатак XX стагоддзя.

105 рублёў, настаўнік народнай школы — 25 рублёў, выкладчык гімназіі — ад 80 рублёў, лекар — каля 90 рублёў. Падзённы заробак селяніна даходзіў да 1 рубля за дзень.

Выглядае, што 450 рублёў Адама Вашкевіча былі для таго часу зусім не малыя грошы. Калі дадаць, што на іх можна было ў Беларусі купіць каля трох гектараў зямлі — самай вялікай сялянскай каштоўнасці, — то можна палічыць іх амаль што багаццем.

А што, калі перавесці тагачасныя грошы на сучасныя? Калі прывязаць тагачасны курс расійскага рубля да курса англійскага фунта ці амерыканскага долара (існуюць лічыльнікі інфляцыі гэтых валют), то 450 рублёў 1914 года — гэта каля 3600 сучасных долараў ЗША. Нібыта не так і шмат. Але нагадаем, што тыя грошы можна было свабодна перавесці ў залатыя манеты! Хоць тады такой магчымасцю карысталіся слаба: нашто захоўваць золата, калі ёсць надзейная папяровая валюта. Гэта і зручней, і бяспечней. І вось калі б тыя 450 рублёў перавесці, напрыклад, у 45 залатых дзесяцірублёвікаў, то іх цяперашні рынкавы кошт складаў бы ніяк не менш за 25 тысяч долараў ЗША!

Але Адам Вашкевіч ні пра якія залатыя справы не думаў. Адзінае, што ён зрабіў у дзень пачатку Першай сусветнай вайны, дык гэта зняў са сваёй кніжкі 100 рублёў, натуральна папяровых. З пачаткам вайны золата было выведзена з абароту, а ў сувязі з недахопам срэбра і медзі манеты ў 1915 годзе пачалі замяняць папяровымі бонамі.

Праўда, Адам Вашкевіч тых бонаў ужо не пабачыў, бо ягоную вёску вельмі хутка занялі немцы. А далей пачалася такая змена ўладаў і грошай, што пра страчаныя царскія капіталы ніхто ўжо не думаў — абы застацца жывымі, пракарміць сям'ю ды захаваць хоць якую гаспадарку.

Адам Вашкевіч памёр вясной 1966 года, ужо за часамі брэжнеўскага застою. А ягоная ашчадная кніжка з часоў Расійскай імперыі засталася забаўкай для нашчадкаў. ◆

**450 папяровых рублёў 1914 года — каля 3600 сучасных долараў ЗША. А ў выглядзе 45 залатых дзесяцірублёвікаў іх цяперашні рынкавы кошт — не менш за 25 тысяч долараў ЗША!**

# Сяброўства на ўсё жыццё

**Як змагаліся за Беларусь унук паўстанца 1863 года Мікола Абрамчык і слуцкі паўстанец 1920-га Лявон Рыдлеўскі, піша Валер Каліноўскі.**

Яны былі ідэалістамі, патрыётамі і змагарамі, адстойвалі Беларускую Народную Рэспубліку і са зброяй у руках, і дыпламатычнымі сродкамі. Пры гэтым яны былі не толькі паплечнікамі, але і блізкімі сябрамі — на ўсё жыццё.



Аднагодкі Мікола Абрамчык і Лявон Рыдлеўскі пазнаёміліся на вышэйшых настаўніцкіх курсах у Вільні ў 1920 годзе. А па-сапраўднаму пасябравалі ў Чэхаславакіі, куды паехалі вучыцца. Чэхаславацкія ВНУ тады прымалі на бясплатную вучобу выпускнікоў беларускіх гімназій з Польшчы. На радзіме ім атрымаць вышэйшую адукацыю было цяжка, бо атэстат беларускіх гімназій палякамі доўгі час не прызнаваўся за дастатковы для паступлення ў ВНУ. У Чэхаславакіі ж яго прызнавалі. Таму магчымасцю працягнуць адукацыю за мяжой скарысталіся тады многія заходнія беларусы.

Абрамчык скончыў у Чэхаславакіі эканамічна-кааператыўны факультэт Украінскай гаспадарчай акадэміі ў Падзебрадах з дыпломам інжынера-эканаміста, а таксама аддзел гісторыі і сацыялогіі філасофскага факультэта Карлавага ўніверсітэта ў Празе. А Рыдлеўскі атрымаў дыплом Вышэйшага політэхнічнага інстытута ў Падзебрадах.

**Мікола Абрамчык**

(1903–1970) быў унукам паўстанца 1863 года, вучыўся ў Радашковіцкай беларускай гімназіі. У 19 гадоў атрымаў мандат упаўнаважанага БНР у Вілейскім павеце, наладжваў сувязі з антысавецкім падполлем у БССР. У 1924 годзе эміграваў у Чэхаславакію, пазней у Францыю, дзе стварыў «Хаўрус беларускіх работнікаў». У 1943 годзе атрымаў ад прэзідэнта Рады БНР на эміграцыі Васіля Захаркі тастамент на перайманне ягонай пасады. У 1947 годзе афіцыйна аднавіў і ўзначаліў Раду БНР, быў яе кіраўніком да самай смерці. Быў таксама адным з ініцыятараў і старшынёй створанай на Захадзе Лігі вызвалення народаў СССР.

### Вандроўка па Еўропе

Увосень 1929-га пасля заканчэння вучобы маладыя інжынеры Мікола Абрамчык і Лявон Рыдлеўскі рушылі ў вялікую вандроўку — пехатою і на роварах. За год і некалькі месяцаў яны наведалі розныя мясціны ў Чэхаславакіі, Нямеччыне, Швейцарыі і Францыі. Мэта вандроўкі была навукова-практычная — вывучыць, як працуюць і жывуць сяляне ў розных краінах. Пры гэтым Мікола і Лявон самі працавалі на фермах, наймаліся да мясцовых сялян на самую простую працу, каб зарабіць на жыццё.



**Лявон Рыдлеўскі**

(1903–1953) быў адным з наймаладзейшых байцоў Слуцкага збройнага чыну (1920). У 1921 годзе ўдзельнічаў у антысавецкім партызанскім руху на Палессі. У 1923 годзе скончыў Віленскую беларускую гімназію. З Заходняй Беларусі, якая была пад польскай уладай, выехаў на вучобу ў Чэхаславакію, пазней эміграваў у Францыю, дзе быў сярод лідараў «Хаўрусу» і іншых беларускіх арганізацый. У 1940–1945 гадах ваяваў супраць нацыстаў у складзе Французскага Іншаземнага легіёна і партызанскіх аддзелаў макі. Узначальваў беларускі прафсаюз у Францыі, у 1945–1947 гадах выдаваў газету «Беларускія навіны». У 1948 годзе быў абраны старшынёй «Сусветнага аб'яднання беларускай эміграцыі». Быў віцэ-прэзідэнтам Рады БНР.

У французскім Ліёне сябры вырашылі спыніць сваю вандроўку, хоць спачатку планавалі яшчэ наведаць Іспанію, Італію і краіны на поўначы Афрыкі. Адной з прычын было тое, што ў Францыі яны сустрэлі шмат суайчыннікаў: акурат тады адбывалася масавая працоўная эміграцыя з Заходняй Беларусі (гл. пра яе падрабязней у артыкуле «Ашуканыя. Беларусы з Францыі ехалі ў "сталінскі рай", а трапілі ў пастку» ў № 9/2019 «Нашай гісторыі»).

Беларускіх работнікаў на шахтах і фермах у Францыі было каля 30 тысяч, і іх актыўна заваблівалі ў свае шэрагі як польскія нацыянальныя, так і камуністычныя арганізацыі. Беларускія актывісты вырашылі паспрабаваць наладзіць у Парыжы беларускае нацыянальнае жыццё.

## Беларускі «Хаўрус»

У Парыжы ў 1931 годзе Абрамчык з Рыдлеўскім зарэгістравалі першую беларускую арганізацыю — «Хаўрус беларускіх работнікаў у Францыі». Яна аб'яднала сотні чалавек у Парыжы і мела пяць філій у розных дэпартаментах Францыі.

Каб было за што пражыць, сябры пайшлі працаваць. Каля трох гадоў рабілі нелегальна, а потым атрымалі афіцыйны дазвол на працу. Лявон Рыдлеўскі нават зрабіў дастаткова паспяховую ▶



-Рэха-

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ ПРАЦОЎНАЙ ЭМІГРАЦЫІ Ў ФРАНЦЫІ

LE BULLETIN DES TRAVAILLEURS BIELORUSSIENS EN FRANCE.

65, RUE DES GRAVILLIERS, à PARIS-3.

1-га САКАВІКА 1938 г. № 1 ЦАНА 2 фр.

СУМНЫЯ АБХОДЗІНЫ



Рэха

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ ПРАЦОЎНАЙ ЭМІГРАЦЫІ Ў ФРАНЦЫІ.

LE BULLETIN DES TRAVAILLEURS BIELORUSSIENS EN FRANCE.

65, RUE DES GRAVILLIERS, à PARIS - 3.

ПАРЫЖ. №2. ГОД ВЫДАННЯ I.



"NOUVELLES BIELORUSSIENNES" — SUPPLEMENT A "SYNDICALISME" DU 20 AVRIL 1946

БЕЛАРУСКІЯ НАВІНЫ

BIELARUSKIJA NAVINY

Хрыстос Васкрос!

Вялікдзень

Хрыстос Васкрос!

Алелюя!

Беларускія выданні ў Парыжы: «Рэха» і «Беларускія навіны».

▶ кар'еру: у 1937–1938 гадах ён працаваў інжынерам на фабрыцы ў правінцыі, меў добры заробак. І гэта быў, бадай, адзіны спакойны і ўладкаваны час у ягоным жыцці.

«Хаўрус» не толькі бараніў правы беларускіх працаўнікоў, але і рупіўся пра іх нацыянальнае ўзгадаванне: ладзіў святкаванні дня 25 Сакавіка, лекцыі пра беларускую мову, літаратуру і гісторыю, тэатральныя пастаноўкі, заняткі французскай мовы, выдаваў і распаўсюджваў беларускія кнігі, карты і календары. У 1937–1940 гадах «Хаўрус» выдаваў свае друкаваныя органы пад назвамі «Бюлетэнь» і «Рэха».

А на беразе Сены ў Парыжы нават было асобнае месца, дзе беларускія актывісты ўлетку разам адпачывалі.

## Беларусь у цэнтры Парыжа

Сядзіба «Хаўрусу беларускіх работнікаў у Францыі» ў Парыжы месцілася ў кватэры-студыі ў доме № 65 на вуліцы Гравіе (*Rue de Gravilliers*). Фармальна аднапакаёвая кватэра на 40 квадратных метраў належала Абрамчыку, але купленая была на грошы, сабраныя беларусамі. Месцілася кватэра ў вельмі старым будынку ў цэнтры Парыжа, недалёка ад цяперашняга Цэнтра Пампіду. Тут жа была адкрытая бібліятэка-чытальня на 50 чалавек, а таксама пры патрэбе рэгістраваліся іншыя беларускія арганізацыі.
У 1969 годзе гэтую кватэру выкупіла беларуская каталіцкая місія пад кіраўніцтвам айца Льва Гарошкі. Беларускім культурным і духоўным цэнтрам у Парыжы яна была да сярэдзіны 2000-х гадоў, калі перайшла ва ўласнасць Каталіцкай царквы ў Францыі. Але ніякага мемарыяльнага знака, што тут паўстагоддзя быў цэнтр беларускага жыцця ў Парыжы, пакуль няма.



**Лявон Рыдлеўскі ў Францыі**, 1929 год.

## Беларусы ў Іншаземным легіёне

Калі ў 1939 годзе пачалася Другая сусветная вайна, то сярод польскіх і беларускіх эмігрантаў у Францыі таксама ішла мабілізацыя. Дамова паміж французскім і эміграцыйным польскім урадам прадугледжвала стварэнне на тэрыторыі Францыі польскай арміі.

Але лідары мясцовай беларускай супольнасці не хацелі, каб іх суайчыннікі ваявалі за польскія інтарэсы. Старшыня «Хаўрусу» Мікола Абрамчык наведваў Міністэрства абароны Францыі, падаваў мемарандумы на імя французскага ўрада і актыўна вёў перамовы, каб эмігрантаў-беларусаў вербавалі не ў польскія вайсковыя адзінкі, а ў французскія. Ён спадзяваўся на ўтварэнне асобнага беларускага фарміравання ў складзе Французскага Іншаземнага легіёна. Усім ахвотным уступіць у беларускую вайсковую частку «Хаўрус» выдаваў пасведчанні аб іх няпольскім паходжанні.

Пазней Лявон Рыдлеўскі назваў дамову з французскімі ўладамі аб запісе беларусаў



**Беларусы святкуюць юбілей «Хаўрусу».** Справа ў першым шэрагу — Мікола Абрамчык і грэка-каталіцкі святар айцец Леў Гарошка. Парыж, 1955 год.

у Іншаземны легіён сапраўдным дыпламатычным поспехам Абрамчыка.

**Дамова з французскімі ўладамі аб запісе беларусаў у Іншаземны легіён была сапраўдным дыпламатычным поспехам Абрамчыка**



**Лявон Рыдлеўскі ў французскім войску** (у цэнтры ў верхнім шэрагу). 1940 год.

Справа пачалася. З лютага па красавік 1940 года ў ваколіцах Парыжа існаваў пункт запісу добраахвотнікаў у беларускі падраздзел у складзе легіёна. Беларусы пачалі запісвацца. Частку лідараў і актыву беларускага «Хаўрусу» і рэдакцыйнай калегіі газеты «Рэха» таксама мабілізавалі ў Іншаземны легіён. Паводле Рыдлеўскага, сярод беларусаў знайшлося 1 200 такіх добраахвотнікаў.

Але гэта не спадабалася польскаму боку, які заявіў, што парушаюцца ўмовы міждзяржаўнай дамовы. Палякі дабіліся закрыцця беларускага пункта. Але тым, хто быў ужо завербаваны, французы пакінулі права выбару: ісці ў польскае войска ці ў Французскі Іншаземны легіён. У апошнім урэшце засталася трацiна беларусаў-добраахвотнікаў. Сярод іх быў і сам Лявон Рыдлеўскі. Пасля крывавых баёў з вермахтам рэшткі ягонага палка адышлі на поўдзень Францыі і далучыліся да атрада партызанаў-макі. Партызаніў Рыдлеўскі да самага вызвалення.

Абрамчык жа ў час вайны, калі «Хаўрус» быў забаронены, планаваў перабрацца ў акупаваную Беларусь. Спачатку ён пераехаў у Берлін, дзе два гады працаваў у Беларускім камітэце самапомачы, дапамагаючы ў выданні газеты «Раніца». У 1960-я гады Абрамчык пісаў, што



UNION BIELORUSSIENNE EN FRANCE

CHAŬRUS

63, Rue des Gravilliers — PARIS (3e)

Paris, le ______ 194

№ ______

CERTIFICAT

L'Union Bielorussienne en France «CHAURUS» certifie par le présent que

Monsieur ______

demeurant à ______

né le ______ à ______

province de ______

est de nationalité (ethnique) Bielorussienne (Blanc-Russienne).

En foi de quoi nous lui délivrons le présent certificat, pour lui servir ce que de droit.

Le Secrétaire Général

**Сертыфікат «Хаўрусу» аб беларускім паходжанні.**

нямецкія ўлады два разы адмовілі яму ў дазволе паехаць з Берліна на акупаваную тэрыторыю Беларусі, каб наведаць бацькоў, таму ён паехаў туды нелегальна. За гэта ў кастрычніку 1943 года быў арыштаваны гестапа і адпраўлены пад хатні арышт у Парыж.

### Дапамога ўцекачам

Пасля вайны Мікола Абрамчык і Лявон Рыдлеўскі заставаліся лідарамі беларускага руху ў Францыі. Яны добра дапаўнялі адзін аднаго. Мікола Абрамчык быў чалавекам вельмі патрабавальным, некаторыя называлі яго нават жорсткім. У адрозненне ад свайго сябра, Лявон Рыдлеўскі лічыўся чалавекам больш мяккім і пакладзістым. Відаць, таму яны і маглі шмат гадоў так добра ладзіць паміж сабой.

У 1945 годзе імі быў зноў заснаваны ў Парыжы фактычна адзіны беларускі прафсаюз у замежжы — Аб'яднанне беларускіх работнікаў пры Хрысціянскім сіндыкаце рабочых Францыі. Узначаліў яго Рыдлеўскі. ▶

▶ Калі пасля вайны была створана Міжнародная арганізацыя па справах уцекачоў (*International Refugee Organization, IRO*), Лявон Рыдлеўскі стаў яе беларускім прадстаўніком у Парыжы. Разам з Абрамчыкам ён апекаваўся беларусамі з ліку перамешчаных падчас вайны асоб у Францыі, Нямеччыне, Даніі ды іншых краінах. *IRO* ацаніла колькасць расселеных тады з Нямеччыны ў іншыя краіны беларусаў у 25 тысяч. Альтэрнатывай для іх была выдача сталінскаму ўраду.



**На першым Сусветным з'ездзе беларускай эміграцыі.** Парыж, лістапад 1948 года.

**Лявон Рыдлеўскі фактычна быў апекуном усіх новапрыезджых беларусаў у Парыжы**

Рыдлеўскі карыстаўся сваім пасведчаннем ветэрана вайны і французскага партызана, каб было лягчэй трапіць у паваенныя лагеры для перамешчаных асобаў у амерыканскай, брытанскай і французскай зонах акупацыі, знаходзіць там беларусаў, дапамагаць ім застацца на Захадзе і ўладкавацца. Ён, у прыватнасці, выратаваў ад перадачы ў рукі савецкіх уладаў 200 беларускіх уцекачоў у Даніі, у тым ліку сям'ю Шыманцоў, да якой належыць цяперашняя старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла.

Сурвіла цёпла згадвала ў 2010 годзе пра Рыдлеўскага на ягонай магіле ў Лондане: «Я памятаю Лявона Рыдлеўскага з Парыжа. Калі мы туды прыехалі, мне было толькі 12 гадоў. Ён нас спаткаў. Ён тады намі апекаваўся. Ён фактычна быў апекуном усіх новапрыезджых беларусаў у Парыжы. Усім памагаў. Жыў вельмі цяжка, але быў сапраўды адданы свайму народу».

Пасля вайны і Рыдлеўскі, і Абрамчык жылі зусім бедна. Калі ў 1949 годзе Рыдлеўскі прыехаў да беларусаў у Лондан, яму падарылі касцюм, за што ён быў вельмі ўдзячны.

### Парыж як сталіца БНР

Некалькі дзесяцігоддзяў пасля вайны Мікола Абрамчык выконваў абавязкі старшыні Рады БНР на эміграцыі. Паўнамоцтвы яму перадаў сваім запаветам ранейшы старшыня Васіль Захарка, які памёр у сакавіку 1943 года ў Празе.

Гэтую ганаровую і адказную, хоць у тых умовах зусім не ўладную пасаду Мікола Абрамчык займаў да самай сваёй смерці. А ягоным намеснікам быў Лявон Рыдлеўскі, які адначасова ўзначальваў Сусветнае аб'яднанне беларускай эміграцыі, створанае ў канцы 1948 года на Першым сусветным з'ездзе беларускай эміграцыі. Так двое сяброў фактычна аформіліся як лідары ўсіх беларусаў за мяжой. А Парыж, дзе яны абодва жылі, стаў своеасаблівай сталіцай БНР на эміграцыі.

Хоць улады пасада кіраўніка Рады БНР не давала, часу яна адбірала шмат. Мікола Абрамчык праводзіў цэлыя месяцы ў паездках па Еўропе і ЗША, дзе праходзілі пасяджэнні Рады. Ён вёў перамовы з уладамі розных дзяржаў, прадстаўнікамі ўрадаў іншых паняволеных СССР народаў у выгнанні, а таксама лабіраваў важныя беларускія ініцыятывы, такія як стварэнне беларускай службы на Мадрыдскім радыё і на амерыканскім радыё «Вызваленне» (цяпер радыё «Свабода»).

Абрамчык у сваёй дзейнасці вырашыў абапірацца на амерыканцаў: ЗША тады сталі ▶

## Сям'я Абрамчыка

Мікола Абрамчык ажаніўся позна, жонкай яго стала на 13 гадоў маладзейшая выпускніца Віленскай беларускай гімназіі Ніна Ляўковіч (1916–2003). Пабраліся яны шлюбам падчас Другой сусветнай вайны ў Берліне, разам працавалі там у Беларускім камітэце самапомачы і газеце «Раніца». Пасля пераезду ў Парыж Ніна Абрамчык таксама была не толькі жонкай, але і найбліжэйшай паплечніцай Міколы ў беларускіх арганізацыях, выдавала кнігі, сама стварала вершы і апавяданні пад псеўданімам Ніна Раса, а пазней пісала этнаграфічныя артыкулы.

Жылі Абрамчыкі ў прыгарадзе Вільпэнт, дзе мелі свой агарод, гадавалі курэй і трусоў, трымалі сабаку. Ніна любіла вышываць, і Мікола здабыў неяк для яе альбом «Беларускія ўзоры», які незадоўга да таго выйшаў у далёкім ад іх Мінску.

У 1955 годзе ў Абрамчыкаў нарадзіўся сын Альгерд. Гэта было позняе дзіця, і яго атачылі бацькоўскай любоўю і клопатам. Ніна сама пісала для сына беларускія калыханкі.

«Мой хлопчык ужо "вялікі", сядзіць, кажа "тата" і мае 1 зуб... Гуляе сам добра ў сваёй загародцы, ужо ходзіць, гаворыць некалькі слоў, апошняе дык цэлымі днямі кліча "тата", шукае, дзе ён. Калі хто дзвярыма скрыпне, дык аж падскочыць з радасці і кідае гуляць. "Тата йдзе!" — крычыць. І калі пазнае, што не тата, дык сядзе ў куточку, спусціць галоўку, засаромеўшыся, і маўчыць, нават не гуляе. Толькі потым пачынае бавіцца», — напісала Ніна Абрамчык у лісце да сяброўкі Вольгі Запруднік у 1956 годзе.

Смерць Міколы Абрамчыка ў 1970-м Ніна і Альгерд перажывалі цяжка. У адным з лістоў па смерці мужа яна прызнавалася, што



**Мікола, Альгерд і Ніна Абрамчыкі.** Парыж, 1956 год.

гадамі была ягонай «кухаркай, сакратаркай і санітаркай». Да жыцця без мужа і бацькі сям'я не была гатовая: бракавала грошай, было шмат клопату з пераездам Альгерда на вучобу ў Лондан, у ліцэй і школу імя Кірылы Тураўскага, якой кіраваў айцец Аляксандр Надсан.

У Ніны Абрамчык былі непаразуменні з Надсанам наконт выхавання сына і аплаты за ягонае ўтрыманне. Былі ў яе і спрэчкі з біскупам Чаславам Сіповічам, іншымі дзеячамі беларускай эміграцыі. У лістах яна скардзілася, што пасля смерці мужа ад яе нібыта ўсе адвярнуліся, што яе не ўзялі на працу на радыё «Вызваленне», як абяцалі на пахаванні Міколы Абрамчыка. Біскуп Сіповіч у адказ на прэтэнзіі наогул напісаў пра сваю стомленасць «інтрыгамі і маной» Ніны Абрамчык. Яе адмова аддаць архіў Рады БНР, які застаўся пасля смерці мужа і які яна лічыла ўласнасцю сям'і, прывяла да поўнага непаразумення Ніны Абрамчык з рэштай дзеячаў эміграцыі, а таксама сапсавала імідж яе мужа-нябожчыка. Радзе БНР удалося толькі забраць пячатку Беларускай Народнай Рэспублікі.



**Магіла Міколы Абрамчыка ў Парыжы.**

самай магутнай дзяржавай Вольнага свету. Менавіта ЦРУ ЗША арганізавала рызыкоўны праект высылкі ў БССР парашутыстаў, каб яны там падымалі людзей на партызанскі рух. Менавіта Абрамчык у 1951 годзе выдаў Янку Філістовічу пасведчанне сябра Рады БНР, з якім той паляцеў у Беларусь, але ўрэшце быў схоплены савецкімі спецслужбамі і засуджаны на смерць.




**Надмагільны помнік Лявону Рыдлеўскаму** ў Лондане.

ФОТА РАДЫЕ СВАБОДА

### Смерць і пасля смерці

Лявона Рыдлеўскага ў 50-гадовым узросце падкасіла цяжкая хвароба. Як пісаў айцец Леў Гарошка, Мікола Абрамчык і яшчэ некалькі асобаў узяліся зрабіць «апошні высілак, каб ратаваць яго пахіснутае здароўе». Абрамчык арганізаваў пераезд сябра з Парыжа ў Лондан пад апеку беларускага грэка-каталіцкага святара Часлава Сіповіча, які ўладкаваў яго ў шпіталь.

Дзеля чаго спатрэбіўся гэты пераезд? Як патлумачыў прадстаўнік цяперашняй эміграцыі ў Лондане Мікола Пачкаеў, у Вялікабрытаніі ў той час увялі бясплатную медыцыну не толькі для яе грамадзян, але і для ўсіх, хто там легальна знаходзіўся. Да таго ж брытанская медыцына лічылася на той час лепшай за французскую. Але і яна не дапамагла, бо дыягназ «рак» Рыдлеўскаму паставілі запозна.



**Лявон Рыдлеўскі незадоўга да смерці.** 1953 год.

**Рыдлеўскага перад смерцю перавезлі ў Брытанію, бо там была бясплатная медыцына. Сябры спадзяваліся, што яго вылечаць ад раку**

Рыдлеўскі памёр у Лондане ў шпіталі 24 кастрычніка 1953 года і быў пахаваны на мясцовых могілках Гэмпстэд. Хавалі яго лонданскія беларусы. У 1956

### Самота Рыдлеўскага

Лявон Рыдлеўскі сям’і не стварыў. Хоць жанчыны сярод ягоных сяброў былі. У часы студэнцтва блізкай да Лявона была Людміла Краскоўская (1904–1999), дачка беларускага дзеяча Івана Краскоўскага, выбітны славацкі археолаг.

Лявон і Людміла разам вучыліся і ў Вільні, і ў Празе. Па вайне сустракаліся ў Парыжы, захаваўся нават іх супольны здымак 1947 года ў кавалерскай кватэры Лявона — яны сядзяць за сталом з бутэлькай віна. Тады Лявон падарыў Людміле кнігу выбраных твораў Максіма Багдановіча, якая выйшла ў 1946 годзе ў Менску, з надпісам: «На добрую памятку аб доўгім сяброўстве».

Іх адносіны можна было назваць не толькі сяброўствам, але і каханнем. Аднак, падзеленыя жалезнай заслонай, яны так і не пабраліся. Лявон памёр самотным у веку ўсяго 50 гадоў, а Людміла жыла вельмі доўга ў сваёй маленькай кватэры ў Браціславе. Яна зрабіла выдатную навуковую кар’еру ў Славакіі, але ў асабістым жыцці таксама да канца засталася самотнай. А памерла яна ў 1999-м ва ўзросце 95 гадоў.

## Таямніца архіва БНР

Мікола Абрамчык стаў уладальнікам дзяржаўнага архіва БНР у 1943 годзе, пасля смерці яго папярэдніка на пасадзе прэзідэнта Рады БНР у выгнанні Васіля Захаркі. Дакладней, толькі часткі архіва — усяго ён вывезці з Прагі, куды адразу пасля смерці Захаркі прыехаў з Берліна, фізічна не мог. Таму, як сведчыла пазней у сваіх успамінах Ларыса Геніюш, якая апекавалася Захаркам перад смерцю, давялося з усяго масіву адбіраць толькі «ўсё, што было найболей вартасным».

Пасля вайны тое, што Абрамчык тады забраў, захоўвалася ў яго ў Парыжы. Прытым доступу ён да гэтых дакументаў нікому даваць не хацеў, таму дагэтуль ніхто цвёрда не ведае, што ў яго там было і ў якой колькасці. Застаецца толькі арыентавацца на словы Геніюш, што архіўных багаццяў там было «пару чамаданаў». І нават будучы смяротна хворым, Абрамчык не паруліўся пра тое, каб яшчэ пры жыцці знайсці для архіва новага гаспадара.

**Архіў Рады БНР, які захоўваўся ў Абрамчыка, пасля яго смерці бясследна знік**

Пасля смерці Абрамчыка ў траўні 1970 года беларускія эміграцыйныя дзеячы прыкладалі энергічныя намаганні, каб ягоная жонка Ніна аддала архівы мужа «ў Беларускую бібліятэку і музей імя Францыска Скарыны ў Лондане на перахоўванне, як собскасць Рады БНР». Але тая адмовілася гэта зрабіць і так да самай сваёй смерці ў 2003 годзе нічога нікому не перадала. Не зрабіў гэтага пасля смерці маці і сын Абрамчыка Альгерд. Прычыны такога кроку ніколі імі не тлумачыліся. Але гэтая сітуацыя моцна ўдарыла па грамадскім іміджы і самога Абрамчыка.

Лёс таго архіва застаецца загадкай дагэтуль, і цалкам верагодна, што ён ніколі так і не будзе знойдзены. У той жа час ёсць усе падставы меркаваць, што каштоўнасць яго значна перабольшаная, бо ўсе найважнейшыя дакументы па гісторыі Беларускай Народнай Рэспублікі сёння выяўленыя ў архіўных сховішчах Мінска, Вільні і Масквы. Цяжка ўявіць, што ж такое магло б быць у тых чамаданах Абрамчыка, каб магло прынцыпова паўплываць на нашы веды пра БНР.

годзе на ягонай магіле паставілі і асвяцілі помнік, на гэтую ўрачыстасць прыехаў ягоны сябар Мікола Абрамчык. Праз 50 гадоў пасля смерці, у пачатку 2000-х, гэты помнік на ўжо закрытых могілках прапаў. І толькі ў 2010-м месца пахавання нарэшце знайшлі і паставілі на ім новы помнік. Цяпер магілай Рыдлеўскага апякуецца Мікола Пачкаеў.

Мікола Абрамчык перажыў сябра амаль на 17 гадоў. У канцы 1960-х ён таксама захварэў на рак і памёр у парыжскім шпіталі 29 мая 1970 года. Пахаваны ў Парыжы на знакамітых могілках Пэр-Ляшэз. Магіла Абрамчыка ў Парыжы, якой апякуецца сын Альгерд, выглядае сціпла. Тут няма крыжа ці помніка з партрэтам, а ёсць толькі надмагільная пліта, на якой стаяць дзве металічныя шыльдачкі — у памяць Міколы і Ніны Абрамчыкаў.

А архіў Рады БНР, уключна з тымі дакументамі, што перадаў Абрамчыку з Прагі Васіль Захарка, пасля яго смерці бясследна знік. І гэта дагэтуль адна з таямніц беларускай гісторыі. ◆



Аўтар выказвае падзяку Наталлі Гардзіенка, Міколу Пачкаеву, Міколу Трусу, Беларускай бібліятэцы і музею імя Францішка Скарыны ў Лондане, а таксама Славацкаму нацыянальнаму музею за архіўныя здымкі.

**Што пішуць у сацыяльных сетках? У гэтай рубрыцы — пераказ некаторых цікавых запісаў і дыскусій на гістарычныя тэмы ў інтэрнэце.**

## Страсці па Жандарскай

Знаўца гісторыі Мінска **Вадзім Зелянкоў** у сябе ў Фэйсбуку прасачыў па газетных публікацыях гісторыю, як у 1920-я пераймяноўвалася адна невялікая вуліца ў раёне сталічнай Грушаўкі. Аказваецца, нягледзячы на тое, што прайшло ўжо больш за пяць гадоў ад часу перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі і тры гады ад часу канчатковага ўсталявання ў Беларусі савецкай улады, у беларускай сталіцы да 1923 года адна з вулачак нейкім цудам захоўвала старарэжымную назву — Жандарская.

22 ліпеня 1923 года ў газеце «Звезда» была надрукаваная з'едлівая нататка пад назвай «Нясцёртая пляма», падпісаная псеўданімам Грамабой. Яе аўтар, нібыта выпадкова патрапіўшы ў той раён і пабачыўшы шыльду з назвай вуліцы, «пайшоў даведацца, у чым справа»: «Зайшоў у адзін дом. Гляджу... Спяць усе. А справа была ў яркі поўдзень. Зайшоў у другі дом — зноў тая ж карціна: спяць. Іду ў трэці — тое ж самае. Пабег хутчэй у камгас спытаць, чаму такое. Аказваецца, што таварыш, які павінен быў перайменаваць вуліцу ў Чырвоную ці якую іншую, таксама спіць.

Пытаюся сустрэтага камсамольца: у чым тут справа?

— Ды яны, — кажа, — спяць з 17 года...

Вось дык так!.. Хто ж сатрэ брудную пляму?»

Відаць, у камгасе газету ці не чыталі зусім, ці гэтую публікацыю прапусцілі, бо праз тры месяцы, 16 кастрычніка, у той жа «Звезде» з'явілася новая нататка на тую ж тэму з падзагалоўкам «Хтосьці ніяк не хоча прачнуцца», падпісаная гэтым разам «В. Струтынский» і вытрыманая ў куды больш сур'ёзнай танальнасці. У нататцы сцвярджалася, што на такую вуліцу яўна мусіць быць непрыемна падпісваць адрас, высылаючы розную афіцыйную карэспандэнцыю, і дзяржаўным установам. Але гэта яшчэ, маўляў, паўбяды: «Самае галоўнае, крайне нязручна гэта рабочаму або служачаму — а на гэтай вуліцы жывуць выключна рабочыя і служачыя. Калі пытаюцца: дзе вы жывяцё? — жыхар гэтай "Жандарскай" вуліцы саромеецца адказаць дакладна, а кажа: там — каля Аляксандраўскага вакзала. Можа быць, камгас нарэшце прачнецца і пазбавіць ад такой



Рэдкае фота апублікаваў у сябе ў Фэйсбуку **Сяргей Шупа**. **Мінск, Няміга 4 ліпеня 1944 года**, на другі дзень пасля вызвалення ад нацыстаў. Уяўляеце, які вялікі мог быць Стары горад Мінска, калі б яго бяздумна не панішчылі ў пасляваенныя дзесяцігоддзі?



**Зірніце, як даспявалі гарбузы на Палессі ў 1930-я.** Фота з Гарадзішча Пінскага раёна адшукала суполка «***Philomátēs***».



назвы вуліцу? Бо і ў старыя часы там не жыў ніводзін жандар, там жыў і жыве выключна бяднейшы рабочы клас, а цяпер, пры рабочым урадзе, гэтую вуліцу трэба было б назваць "Рабочая"».

Гэтым разам рэакцыя на публікацыю ў газеце была імгненная. Магчыма, паралельна работнікам камгаса была звернутая ўвага на палітычную блізарукасць і праз іншыя каналы. Як бы там ні было, ужо праз тры дні, 19 кастрычніка 1923-га, у «Звезде» было надрукавана лаканічнае паведамленне: «Жандарская вуліца ў раёне 4-га аддзялення перайменавана ў Пуцейскую». Так яна, дарэчы, завецца і сёння.

Вадзім жа Зелянкоў канстатуе: «Праз некалькі гадоў такі моцны сон мог абысціся вельмі дорага некаму з супрацоўнікаў камгаса, але ў 1923 годзе, здаецца, абышлося лёгкім спалохам».

## Паўстанне, завіслае паміж эпохамі

У тэлеграм-канале «Беларускі Бабілон» **Цімох Акудовіч** разважае над глыбіннымі прычынамі паразы паўстання 1863–1864 гадоў:



«Найвялікшая трагедыя паўстання 1863 года ў тым, што яно завісла паміж двума эпохамі.

"Белыя" прагнулі адраджэння Рэчы Паспалітай. Але як у сярэдзіне XIX стагоддзя можна было аднавіць феадальную дзяржаву, якая кіравалася шляхецкімі супольнасцямі і мела спецыфічны федэратыўны фармат? Адрадзіць гэта было ўжо немагчыма.

"Чырвоныя" хацелі свабоды сялянам, сацыяльнай справядлівасці і роўнасці. Але як у сярэдзіне XIX стагоддзя можна было даказаць мільёнам неадукаваных людзей, што яны могуць быць свабоднымі? Было яшчэ рана.

Лозунг "За Святую Рэч Паспалітую" ўжо тады выглядаў анахранізмам.

А заклік "За вольнага мужыка" чытаўся як радок з фантастычнага рамана.

Мне падаецца, што ў паўстання 1863 года так і не сфармавалася актуальнай ідэалагічнай платформы».

## Гитлер. Гебельс. Рабинтроп

Недзе неўзабаве пасля вайны ў Лемяшэвічах Пінскага раёна дзеці нейкім чынам дабраліся да метрычнай кнігі мясцовай царквы. Кніга пасля таго, дзякуй богу, для гісторыі ацалела, але яе старонкі дадаткова ўзбагаціліся актуальным антыфашысцкім жывапісам. А менавіта — выявамі трох чалавечых фігур прыблізна такога ж узроўню выканання, як намаляваная Астапам Бэндэрам фігура сейбіта-рэкламшчыка ў рамане Ільі Ільфа і Яўгенія Пятрова «Дванаццаць крэслаў»,




і лаканічнымі подпісамі: «Гитлер. Гебельс. Рабинтроп».

Адшукаў малюнкі супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва **Уладзімір Казлоў**, апублікавалі іх на Фэйсбук-старонцы архіва. ◆



У Музеі антрапалогіі і этнаграфіі Расійскай акадэміі навук, так званай Кунсткамеры, захоўваецца і гэтае фота Мікалая Магілянскага, зробленае ў 1902 годзе. Падпісанае яно так: «**Беларускія дзяўчаты ловяць малую рыбку з дапамогай тканай сеткі, якую называюць "крыга".** Дзяўчыну, якая стаіць у сярэдзіне сеткі, называюць "дзед". Ігуменскі павет Мінскай губерні». Апублікаваў фота ў сябе ў Фэйсбуку **Міхась Аракчэеў**.

# NATTY WOOD



## УНІКАЛЬНЫЯ ДРАЎЛЯНЫЯ ЦАЦКІ І ДЭКОР ДЛЯ ДЗЕТАК

Экалагічныя і даўгавечныя матэрыялы

Мы звяртаем увагу на кожную дэталь!

**www.etsy.com/shop/NattyWoodShop**

S.C. NATTY WOOD DESIGN S.R.L
Плаешці, Румынія